УПРАЎЛЕННЕ КУЛЬТУРЫ МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА
МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНЫ ЦЭНТР НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ
І КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЙ РАБОТЫ
АБЛАСНАЯ АБ'ЯДНАНАЯ БІБЛІЯТЭКА імя У.І.ЛЕНІНА



*Гэтае выданне прысвечана
Нацыянальнаму святу –
Дню беларускага пісьменства,
Мсціслаў, верасень 2001 года.*

# СА СКАРБОНКІ СПАДЧЫНЫ НАШАГА КРАЮ

## Зборнік фальклору Магілёўскай вобласці



ўская абласная
друкарня"
2001

ББК 82.(4Бел)
С 12

*У зборы матэрыяла для кнігі ўдзельнічалі супрацоўнікі сельскіх і раённых бібліятэк Магілёўскай вобласці*

С 12 **Са скарбонкі** спадчыны нашага краю: Зб. фальклору Магілёўскай вобл. / Абл. навук-метад. цэнтр нар. творч. і культ.-асвет. работы; Абл. аб'ядн. б-ка імя У.І.Леніна; Склад., сістэматызацыя, дапамож. паказальнікі, камп'ют. набор С.Л.Бухель, Ж.І.Палханавай; Уступ. артыкул і літ. апрац. тэкстаў І.Я.Пехцерава; Рэд. тэкстаў песень Л.В.Зыкава; Адказныя за вып. А.М.Васіленка, І.І.Кузняцоў.- Магілёў, 2001.- 80 с.: іл.- Бібліягр.: 11 назв.

У зборніку змешчаны легенды, паданні, песні, прыказкі, прымаўкі і іншыя ўзоры вусна-паэтычнай творчасці, запісаныя ў вёсках Магілёўскай вобласці ад жывых носьбітаў фальклору. У асобных выпадках выкарыстаны друкаваныя і архіўныя крыніцы. Матэрыял размешчаны па геаграфічным прынцыпе, унутры раздзелаў – па жанрах. Выданне забяспечана дапаможнымі паказальнікамі і разлічана на работнікаў культуры, кіраўнікоў самадзейных калектываў; будзе карысным таксама для педагогаў і выхавацеляў.

**ББК 82.(4Бел)**

ISBN 985-6568-61-7



## З ГЛЫБІНЬ ЖЫВАТВОРНЫХ НАРОДНАГА ДУХУ



Магілёўшчына — зямля таленавітых, духоўна багатых людзей з незапамятных часоў. Аб гэтым сведчаць, у першую чаргу, залатыя і самацветныя скарбы, якімі з'яўляюцца песні, казкі, легенды, паданні, тапонімы — усё, што справядліва завецца народнай творчасцю. Датыкацца сэрцам да іх і не хвалявацца — немагчыма. Успомнім Баркалабаўскі летапіс, які названы так, таму што знойдзены ў быхаўскай вёсцы Баркалабава. Гэта сапраўднае, чыстае люстра сівой даўніны Падняпроўя, ды і Беларусі. А "Тарас на Парнасе", які, як сведчаць знаныя літаратуразнаўцы, нарадзіўся ў сценах Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, цяпер Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Не злічыць легенд і паданняў Прыдняпроўскага краю. Многія з іх леглі ў аснову выдатных твораў беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў. Яркі прыклад таму — паэма "Магіла Льва" Янкі Купалы, якую навеяла народнаму песняру Беларусі легенда, а дакладней, адна з яе версій аб жыцці, каханні і трагічнай смерці знакамітага разбойніка Машэкі. На напісанне вершаў натхнілі аўтара гэтых радкоў легенды аб крыніцы любві і свяце "Бразгун", якія бытуюць у Чэрыкаўскім раёне.

У гэтым зборніку прадстаўлены цікавыя знаходкі работнікаў бібліятэк вобласці пры вывучэнні народнай творчасці сваіх рэгіёнаў, што яны робяць і асобна і разам з супрацоўнікамі клубных устаноў. Нельга чытаць без хвалявання легенды, паданні, тапанімі-ку, якія прадставілі Быхаўскі, Мсціслаўскі, Касцюковіцкі, Бабруйскі, Кіраўскі і іншыя раёны. Святлом любві пранізана легенда аб узнікненні назваў вёскі Любонічы, рэчкі Любанка, Любінага бору, Любінай сцежкі. Бачыце, якое сузор'е, у цэнтры якога ззяе цудоўнае славянскае імя — Любоў. Верыцца, што гэтая легенда яшчэ знойдзе таго, хто дасць ёй дастойную аздобу. Тут можа быць і паэма, і песня, і драма. Варта толькі адшукаць у сэрцы словы, якія змаглі б перадаць і ўсю слодыч і горыч кахання Любы і Міколы, і трагізм дзяўчыны з чыстым сэрцам, якую ўкраў пан на першую ноч перад яе вяселлем, і справядлівасць помсты Міколы пану за каханку, якая, зняслаўленая панам, павесілася. І, вядома ж, у новага твора павінен быць жыццесцвярджальны фінал, бо Любоў неўміруча. Глыбокі сэнс і ў іншых легендах і паданнях, якія знайшлі жыццё на старонках гэтага зборніка.

Народная паэзія, як пацеркі, зіхаціць у прыказках і прымаўках, дыялектах беларускай мовы, якія яшчэ захаваліся ў раёнах Магілёўшчыны, асабліва ў вёсках. Бібліятэкары плённа папрацавалі, збіраючы гэтыя каштоўнасці нацыянальнай культуры. Ёсць у зборніку і паэтычныя апісанні вясёлага сватання, таямнічага вяселля, жалобнага пахавання, якія бывалі ў нашых продкаў — жыхароў Магілёўшчыны. Ды і сярод народных аўтэнтычных песень дзе-нідзе ўспыхне падобная на заранку.

Работу, якая праводзіцца па захаванню нашай спадчыны, можна смела параўнаць з мёдазборам. Мёд лечыць многія цялесныя немачы, а паэзія сапраўднай народнай творчасці — душу. Няхай мёдазбор па адраджэнню духоўнасці будзе плённым!

**Іван ПЕХЦЕРАЎ,**
**член Саюза пісьменнікаў РБ**



# АСІПОВІЦКІ РАЁН

## Песні роднага краю

### Вясельныя песні

Перад вяселлем да маладой заўсёды прыходзяць сваты. У сватоў прасілі пірага:

**А ці добра зямліца?**
Ці ўрадзіла пшаніца?
Ці ўрадзіла пшаніца,
Ці спяклі вы пірог?
Кудой ішлі? Гарою, -
А ці ўзялі з сабою,
А ці ўзялі вадзіцы
З сцяклянай крыніцы?
А ці забілі вы ляся,
Як вы яго валілі?
І калбасу рабілі?
А наш сваток удаленькі,
Прынёс сверлік маленькі.

Адна пчолка піснула,
Пірог свацця сціснула.
А другая загула,
Пірог свацця падала.
– Аддай, свацця, нам пірог,
Дык мы пойдзем за парог.
Пірог ваш дзялілі,
Вельмі сваццю хвалілі.
Пірог ваш удаленькі,
Жалка, жалка, што маленькі.
*(Зап. в.Замошша Асіповіцкага с/с ад Доўгаль Ганны Савельеўны)*

**Калі ад'яджаюць сваты**

**Ой, сватачкі, пташачкі, просім вас,**
Што б не было ганьбачкі Галі ў вас.
Што б не стаяла позна ўвечары пад вакном,
Што б не ўціцала горкіх слёзачак рукавом.
Што б не была паветачка хатачкай,
Што б не была суседачка мамачкай.
*(Зап. у в.Копча Свіслацкага с/с ад Івановай Зінаіды Іванаўны)*

**Калі прыязджае малады**

– **Ой, стукнула, грукнула на дварэ,**
Паглядзі, мамуленька, ці па мяне.
– Па цябе, дачушка, па цябе.
– Ой, схавайце, родныя, за сябе.
– Не буду, дачушка, хаваці,
Трэба цябе сёлета аддаці.
Едзь, мая дачушка, без кубла,
Ой, ты ж мне перачка не скубла.
– Ой, скубла б я перачка, зіхацела,
За такога п'яніцу ісці не хацела.
*(Зап. у в.Копча Свіслацкага с/с ад Івановай Зінаіды Іванаўны)*

**Як вядуць маладую к маладому**

**Адчыняй, мамачка, новы двор,**
Не татарын едзе, а сынок твой.
Не татарку вядзе, а нявесту.
Ды вядзе нявесту-плаксуху,
Ды вядзе кароўку-брыкуху.
*(Зап. у в.Краснае Свіслацкага с/с ад Гарадзецкай Т.П.)*



**Малады вядзе нявесту на пасад**

**Братка сястру на пасад вядзе,**
Гібкую кладку кладзе.
Кладачка, не ўгібніся,
Сястрыца, не ўклякніся.
Кладачка ўгібнулася,
Сястрычка ўклякнулася.
– Братачка, мой родненькі,
Чым я табе надаела?
Ці русаю касою, ці сваёю красою,
Ці сваімі славамі, ці сваімі сватамі.
Што суботы дажыдаючы,
Што нядзелі адпраўляючы.
*(Зап. у в.Краснае Свіслацкага с/с ад Гарадзецкай Т.П.)*

**Прыпеўкі**

Палюбіла сокала
Тонкага, высокага,
Каб яго пацалаваць
Станаўлюся на краваць.

Палюбіла пісара
Ды такога лысага.
Яму некалі пісаць.
Трэба лысіну часаць.

Каб я знала, маладая,
Дзе мне веку дажываць.
Памагла б сваёй свякрусе,
Хоць капусту паліваць.

А чый гэта новы домік
На гарушачцы стаіць?
Калі кіне мяне мілы, —
Падпалю, няхай гарыць.

Мы прыпеўкі праспявалі,
Будзем весяліцца.
А цяпер спяваць канчаем,
Каб не пасварыцца.

*(Зап. у в.Краснае Свіслацкага с/с ад Гарадзецкай Т.П.)*



**Пейце, дзеўкі, як пяецца,**
Замуж пойдзеш, усё мінецца,
Не прыйдзецца болей пець —
Нада горушка цярпець.

Пейце, дзевачкі, прыпеўкі,
Як жылося ў мамачкі:
Піла, ела, што хацела,
Спала да заранучкі.

Я, бывала, прыпявала
Розныя прыпевачкі,
А цяпер вы прыпявайце,
Дарагія дзевачкі.

*(Зап. у в. Мязовічы ад М.Некрашэвіч)*



**Ой, у полі жыта**
Сцелецца нізенька,
Добра таму жыці,
Што любоў блізенька.

Блізка, яно блізка,
Ды яшчэ далёка:
Цераз два заборы,
Цераз сад зялёны.

Я тыя заборы
Да й пераламаю,
Я свайго мілога
Здалёку пазнаю.

Штоб вятры не дулі,
Птушкі не клявалі,
Штоб майго мілога
Другія не кахалі.

Ой, пайду ў садочак
Ды сарву лісточак,
[Ад] пана [с]крываю,
Мілага слядочак.

*(Зап. у в.Зборск ад Налівайка Г.Б.)*

## Легенды і паданні

### Каменная гара

Ніхто не скажа, колькі гадоў Каменцы, што раскінулася на дзесятым кіламетры шашы Бабруйск-Слуцк. На агародах мясцовыя жыхары часта выкапваюць абкачаныя камяні, а за ваколіцай і зараз вялікі гладкі валун ляжыць. Кажуць людзі, што камень гэты калісьці з неба зваліўся. Шмат розных гісторый аб ім існуе. Адну з іх расказаў стары па мянушцы Музей. Незвычайны быў дзед. Адзенне насіў незвычайнае, расшытае каштанамі, арэхамі, маляўнічымі гузікамі. Шапка ў яго была не з футра якога-небудзь труса, а з самай сапраўднай вожыкавай скуры з іголкамі. І кіёк, на які абапіраўся ён пры хадзьбе, таксама цікавы быў: па ўсёй паверхні — узоры розныя, на рукаятцы — галовы ворана і ёжыка адмысловыя. Вось ён і расказаў гэту легенду.

Даўным-даўно жыў у месцах тутэйшых страшэнны і злосны дракон. На Каменнай гары жыў. А логава сваё з вялізных камянёў-валуноў збудаваў. І не было ніводнай сям'і ў акрузе, якой бы гэты ненаедны дракон гора не прычыніў.

Аднойчы ляцеў дракон гэты да свайго жытла, а ў лапах кіпцюрыстых — вялізны камень, невядома дзе адшуканы ім, трымаў. Калі пралятаў дракон над краем тутэйшым, раптам хмара вялікая чорная ўсё неба засланіла, і такая цемра вакол наступіла — жах! А тут яшчэ маланка незвычайна бліснула і грымнуў такі аглушальны гром, якога ніхто да таго не чуў. Спалохаўся дракон, выпусціў з лап сваіх агідны камень, а сам паляцеў кудысьці. З таго часу яго ўжо ніхто не бачыў. А камень застаўся ляжаць там, дзе ўпусціў яго дракон.

Таму вёску Каменкай і назвалі.

### Кукаванка

Даўно гэта было, калі в.Пярэсава яшчэ не існавала, а на яе месцы стаялі толькі дзве хаты. Адна з іх вялікая, светлая. У ёй багатая ўдава Ксенія жыла з двума сынамі-блізнятамі, якім па 17 год споўнілася. А ў другой, цеснай і цёмнай хацінцы, немачны стары жыў; рыбалкай ды дарамі леса жывіўся.

Мела ўдава некалькі лодак і кіравала перапраўвай. Адсюль, відаць, і назва сённяшняй вёскі Пярэсава пайшла, ад слова "перасовы". За грошы перапраўляла Ксенія падарожнікаў з левага на правы бераг і наадварот. А перавозчыкамі яе сыны, Ясь ды Стась, былі. Калі-нікалі і дзядок займаўся і этай справай.

Аднойчы восенню моцная навальніца ў той мясцовасці пачалася. Вецер узвіўся ўраганны. Увесь дзень і ўсю ноч дождж як з вядра ліў. Цемра жудасная наступіла. Вось у такую непагадзь сярод начы нехта моцна загрукаў у браму.

— Хто там? — выйшаўшы на ганак, спытала Ксенія.

— Адчыняй хутчэй вароты, фельд'егера царскага неабходна тэрмінова на той бераг перавезці, — адказаў грубы голас.

Тады Ксенія ўпусціла ў хату гасцей нязваных. Ва ўсіх мужчын пад доўгімі плашчамі вайсковае адзенне ўгадвалася.

— Не пушчу я дзетак у такую непагоду на раку, патонуць яны, бач, як хвалі б'юць, - сказала ўдава.

— Ты абавязана зараз жа перапраўіць трох з нас. А мы табе добра заплацім, - заявіў адзін з незнаёмцаў, і тут жа высыпаў на стол жменю залатых.

Можа, адчуваючы, што ваенныя не адчэпяцца ад яе, а можа, спакусіўшыся бляскам золата, удава разбудзіла сыноў, а затым старога.



— Утрох паплывеце, усё ж лягчэй будзе, а дзед ваду з лодкі вычэрпваць стане. Самую вялікую лодку бярыце, — сказала Ксенія.

Хутка лодка адыйшла ад берага. Маці з высокага насыпу прыслухоўвалася і ўглядалася ў начную цемру. Раптам, калі лодка літаральна была ў некалькі метрах ад супрацьлеглага берага, шалёна бліснула маланка. У яе святле Ксенія ўбачыла, як моцная хваля накрыла судна. Дарэмна ўдава клікала сваіх двайнят, бегаючы па беразе ракі. Ніхто не адзываўся на жудасныя крыкі.

Раніцай ніжэй па цячэнню Бярэзіны знайшлі людзі перакуленую лодку і больш нічога.

Увесь дзень галасіла і клікала сваіх сыноў Ксенія. Ды раптам рукі яе ў крылы пераварыліся, а сама яна — у зязюлю. І паляцела птушкаю ў далячынь ад хаты сваёй.

У народзе месца гэта Кукаванкай сталі зваць, а ўжо потым і на вёску гэтая назва перайшла. Такім чынам, у вёскі гэтай дзве назвы — Пярэсава і Кукаванка.

### Рэчка Красная

Здарылася гэта вясной 1709 года. Пасля жорсткага паражэння, якое нанеслі войскі Пятра І пад Лясной, што на Слаўгарадчыне, шведскі генерал Левенгаўпт, страціўшы восем тысяч забітымі і шмат параненымі, вялізны абоз з амуніцыяй, збег да свайго караля Карла XII, які ў гэты час вандраваў па Ўкраіне, чакаючы падыходу свежых сіл і падвозу зброі, правізіі і фуражу.

Па яго загаду шведы палілі гарады і сёлы, бязлітасна знішчалі дзяцей, старых, жанчын. Не маючы харчу, Карл пасылаў атрады "фуражыраў" для папаўнення запасаў. "Фуражыры" гэтыя, аднак, не столькі абавязкі свае выконвалі, колькі для ўзбагачэння свайго народ рабавалі.

Вось такі адзін атрад і рушыў да Бабруйска, рабуючы на шляху жыхароў навакольных вёсак. З Бабруйска насустрач ворагу выйшла невялікая група рэгулярных войскаў Пятра І і таксама мясцовыя добраахвотнікі. Да іх далучыліся сяляне, узброеныя косамі, віламі, самаробнымі пікамі. Яны вырашылі лепей смяротны бой з супастатамі прыняць, чым іх да сваіх хат дапусціць.

Тут, пры рачной пераправе, і сустрэліся ў лютай схватцы апалчэнцы з ворагам, які меў значную перавагу. Нянавісць да захопнікаў, гарачая любоў да сваёй Радзімы надавалі сілу неабучаным і дрэнна ўзброеным, але мужным сялянам зямлі тутэйшай. Доўга біліся воіны. Вада ў рацэ стала чырвонай ад пралітай крыві. І ворагі адступілі, не вытрымаўшы мужнасці і адвагі абаронцаў зямлі роднай.

З таго часу і завецца рэчка Краснай.

### Міхалёва

Шмат легенд ходзіць аб з'яўленні гэтай вёскі. Мяркуюць, што першымі яе пасяленцамі былі дрыгавічы, але пэўна ніхто не ведае. Можа, гэта яны так назвалі вёску, а можа, не.

Адна з легенд гаворыць, што некалі ў гэтым месцы жылі два браты — Міхаіл і Лёва. Яны былі добрыя, працавітыя і шчырыя. Ніколі не пакідалі браты суседзяў у бядзе, заўсёды дапамагалі іншым. Першымі на вёсцы пабудавалі яны лазню. Карысталіся ёю ўсе жыхары вёскі. Усе, хто мыўся ў той лазні, казалі, што пасля мыцця ім рабілася вельмі лёгка. Іх душы як быццам бы ачышчаліся ад усяго нядобрага.

Слава аб лазні братоў далёка пайшла, і калі людзі збіраліся сюды ў лазню, то казалі, што ідуць да Міхаіла і Лёвы. Пазней гэтыя імёны зліліся, і так утварылася назва вёскі Міхалёва.

| | |
|---|---|
| Адонак | — станок, на які лажыліся абмалочаныя снапы |
| Верашчака | — балтушка з мукі на булёне з мяса, сала |
| Залёз | — залез |
| Залягодзь | — загадзя |
| Кіпці | — ногці |
| Малента | — маленькае дзіця |
| Палёз | — палез |
| Рыздзя | — адзенне |
| Ступцы,сходкі | — ступенькі |
| Тамака | — там |
| Услон | — лава |
| Хадзяін | — гаспадар |







## Тапаніміка

### Вуліцы і мястэчкі горада

На выездзе з Быхава, на правым баку вуліцы перад Дняпром, стаіць старая капліч-ка, за якою адразу вырысоўваецца Быхаўскі замак. Кажуць, што ад гэтай каплічкі быў зроблены некалі пад Дняпром патаемны ход аж да вёскі Вароніно, які адначасова слу-жыў і сховай ад ворагаў. Адсюль і пайшла назва горада: "Быхаў — быў схоў".

Як і кожны населены пункт, Быхаў мае сваю гісторыю, звязаную з людзьмі і роз-нымі падзеямі. Яшчэ з даваенных часоў тут захавалася шмат назваў, якія вызначаюць твар горада. Але многае і забыта, выйшла з ужывання. Так, здавён тэрыторыя Быхава падзялялася на шэсць частак: Белая гара, Заюроўка, Сабілоўка, Станцыя Моргі і Гар-нізон.

Першая назва, г.зн. Белая гара, звязана з пясчанымі наносамі дняпроўскага высту-па і ракі Макранка. У гэтым раёне таксама варта звярнуць увагу на такія назвы, як Бронная, Белагорская струга, Масловічы, Асоўчык, Равучае, Мадзяроўка і Скрынка.

Возера Броннае знаходзіцца за Дняпром, насупраць могілак. Гэта назва звязана з багатымі рыбнымі запасамі і, напэўна, тут ішла барацьба за валоданне імі. Броннае — возера ледніковага перыяду. Яно выцягнута з поўначы на поўдзень, вельмі глыбокае і чыстае.

Возера Масловічы, як і Броннае, — таксама ледніковага паходжання. У мінулыя гады славілася рыбнымі запасамі. Гаспадарамі возера, напэўна, былі нейкія Масловічы.

Белагорская струга — гэта рукаў Дняпра, дзе забівалі плятні ў далёкія часы.

Назва Равучае пайшла ад таго, што тут вада з ровам вырывалася на пойму. У гэтым месцы, як сцвярджалі старажылы, вёслы гнуліся, а лодку немагчыма было скрануць з месца.

Асоўчык — невялічкая пясчаная каса, заросшая асакой, любімае месца земляных восаў — бембіксаў.

Маляроўка — участак добрых сенажацяў, якімі валодаў нейкі маляр. Адсюль і пай-шла назва.

### Урочышча Гадылёва

Урочышча Гадылёва. Так яно называецца і зараз, як раней на гутарковай мове бе-ларускага насельніцтва. У сівую даўніну гэта была азёрна-балоцістая мясцовасць, вельмі зручная для жыцця гадзюк і вужэй, якія кішэлі тут і былі праціўныя чалавеку, за што ён называў іх гадамі. Слова ж "лёва" на старабеларускай мове азначае "вада". Гэта пацвярджае знакаміты слоўнік Уладзіміра Даля. Значыць, Гадылёва — назва ад злучэння двух слоў: гады і лёва, карацей, урочышча вадзяных гадаў.

### Вёска Следзюкі

Інвентары Дубровенскай воласці сведчаць, што вёска Следзюкі вядомая з XVI ста-годдзя як прыпісаная да Быхаўскага замка. У той час гэта быў маланаселены пункт: 16 курных хат. Прыгонныя сяляне плацілі натуральныя павіннасці мёдам, зернем, сенам, бабровымі шкуркамі і іншай пушнінай, а таксама выконвалі грашовыя павіннасці польска-каралеўскай адміністрацыі Быхаўскага замка.

На месцы вёскі Следзюкі было ранняе людское пасяленне, сляды якога праслеж-ваюцца на ўзвышшы, якое называецца Гарадзішча. Тут знаходзілі прылады працы пер-шабытных пасяленцаў: крэмневыя скрабкі, крэмневыя адшчэпы. Значыць, на Гара-

дзішчы засталіся сляды былога пасялення, сляды чалавечага жыцця. Колькі пакаленняў тут пайшло ў вечнасць, злічыць немагчыма. Продкі сучасных следзюкоўцаў сустракалі таксама сляды людзей, якія жылі тут да іх. Адсюль і назва – Следзюкі.

### Вёска Перакладавічы

Амаль круглы год, за выключэннем зімы, тутэйшыя людзі маглі дабірацца да суседніх вёсак толькі праз Гадылёўскія балоты, выкарыстоўваючы перасоўныя драўляныя перакладзіны. Гэта і дало вёсцы назву – Перакладавічы.

### Вёска Грудзінаўка

Яе назва пайшла ад былых у гэтых месцах курганаў, якія тут называлі грудамі. Курганы-груды былі адзіночнымі магіламі аседлых славянскіх плямёнаў VIII-XIV стагоддзяў нашай эры.

### Вёска Чырвоны Асавец

Гэта адно са старажытных пасяленняў у раёне. Людзі жылі тут з VIII стагоддзя нашай эры. Назва ж Асавец пайшла ад таго, што тут зямля асоўвалася да рэчкі. Так тлумачыцца назва і ў слоўніку У.Даля. У 1924 годзе вёску Царкоўны Асавец (такой была ранейшая назва вёскі) пераіменавалі ў Чырвоны Асавец.

### Вёска Пянюгі

З XVIII стагоддзя гэтымі землямі валодаў князь Кастрыёт. Гэта была лясіста-балоцістая мясцовасць. Уладары Быхаўскага замка пасылалі сюды на распрацоўку, асушэнне і асваенне земляў бяспраўных прыгонных сялян, якія правініліся перад сваімі жорсткімі гаспадарамі. Гэтых людзей называлі пеннымі* халопамі. Бясплатнай, цяжкай працай пенных халопаў былі праведзены вялікія меліярацыйныя работы. Гэта было месца, дзе людзі горка пянялі на свой жорсткі лёс. Адсюль і пайшла назва вёскі – Пянюгі.

*(Зап. у 1968 г. І.Дрыгантам са слоў мясцовага краязнаўцы Д.Абрамовіча)*

**Е.Раманаў**

### Дзедава рукавічка

(Казка)

Жыў дзед з бабай. Паехаў дзед у лес і згубіў рукавічку. Прыскакала да рукавічкі лягушка і пытаецца:

— Хто ў рукавічцы жыве?

Ніхто не адгукнуўся. Тады яна залезла ў рукавічку і стала там жыць. Трохі пагадзя паўзе рак. Прыпоўз да рукавічкі і пытае:

— Хто ў рукавічцы жыве?

А лягушка гаворыць:

— Сама паня-пацягуня. А ты хто?

— А я рак-тарабун. Ці можна мне?

— Лезь!

* Магчыма “пя́нныя” халопы



Трохі пагадзя бяжыць заяц. Стаў ля рукавічкі і пытае:

— Хто ў рукавічцы жыве?

— Сама паня-пацягуня і рак-тарабун. А ты хто?

— А я па бярэзнічку прыгун. Палезу і я к вам?

— Лезь!

Тут бяжыць ліса:

— Хто ў рукавічцы жыве?

— Сама паня-пацягуня, рак-тарабун і па бярэзнічку прыгун. А ты хто?

— А я лісіца – добрая маладзіца, ці можна к вам?

— Лезь!

А тут ідзе воўк:

— Хто ў рукавічцы жыве?

— Сама паня-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун і лісіца – добрая маладзіца. А ты хто?

— А я з куста хапун. Палезу к вам?

— Лезь!

Тут мядзведзь ідзе:

— Хто ў рукавічцы жыве?

— Сама паня-пацягуня, рак-тарабун, па бярэзнічку прыгун, лісіца – добрая маладзіца, ды з-за куста хапун. А ты хто?

— А я зверху прыціскун. Пусціце мяне да сябе!

— Не, ужо няма куды.

— Ну дык я зверху сяду!

Узлез наверх, як ціснуў, звяры і паразбягаліся ўсе хто куды.

*(Канец XIX ст., Быхаўскі ўезд)*



## БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

### Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Адной дурасцю не жыві. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Баюся я цябе, як леташняга снегу. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Без мяне мяне жанілі, мяне дома не было. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Блудзяць людзі і ў сталым узросце. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Бывае і воўк у авечай скуры. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Быў бы хлеб, а зубы не абавязкова. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Бяднейшы, але не дурнейшы. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Век пражывеш, а смаку не пачуеш. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Выхоўваць трэба праўдай. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Дзе няма згоды, там няма і ладу. *(Зап. у в.Вішоў)*
Добрая жонка — вяселле, а ліхая — паганае зелле. *(Зап. у в.Вішоў)*
Дружба не павінна ржавець. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Ёсць вяроўка, але ж няма кароўкі. *(Зап. у в.Вішоў)*
Калі вядзецца, то і на трэску прадзецца. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Людзей збліжае не сіла, а праўда. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Малыя дзеткі спаць не даюць, а вырастуць — сам не заснеш. *(Зап. у в.Вішоў)*
На лечаным кані далёка не паедзеш. *(Зап. у в.Вішоў)*
На сваім сметніку і певень гаспадар. *(Зап. у в.Вішоў)*
Не заблудзіся з жыццёвай дарогі ў маладосці. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Не можаш дапамагчы, лепш памаўчы. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Не печ корміць, а рукі. *(Зап. у в.Вішоў)*
Не спрачайся з дурным чалавекам. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Не сунь свой нос ва ўсе шчыліны. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Перад чужой іконай свечку не папраўляй. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Працуе, як мокрае гарыць. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Сваю гразь ля дома апалосквай. *(Зап. у в.Вішоў)*
Свіння лужу абыходзіць не будзе. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Скупы два разы траціць. *(Зап. у в.Вішоў)*
Так яны і жылі: не было хаты, а вароты купілі. *(Зап. у в.Вішоў)*
У казцы ўсё робіцца хутка. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
У пустой бочцы голас мацнее. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
У цябе столькі праўды, як у рэшаце вады. *(Зап. у в.Вішоў)*
Усе сумленныя — гаротнікі. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Усё, што з дыркамі, цячэ. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Хлеб ядуць цары і рабы. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*
Хто зведаў гора, той спачувае. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Як лёгка прыйшло, так лёгка і пайшло. *(Зап. у в.Вішоў)*
Які час, такія і песні. *(Зап. у в.Цяхцін)*
Яшчэ ніхто ні адну жанчыну дабрынёй не пакрыўдзіў. *(Зап. у в.Галоўчын Васілём Гузавым)*

### Загадкі

Маленькі, удаленькі ўсё поле аббягае, а на стале не бывае. (Серп.)
Паваліўся дуб, ва ўсе двары сук. (Снег.)
Поўна бочка круп, а наверсе струп. (Мак.)

*(Зап. у в. Алешкавічы)*



## ГЛУСКІ РАЁН

### Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

(Зап. ад Г.Д.Бычкоўскай, Н.А.Дзяшчэня, І.М.Кірынай)

А каб цябе прансы ўзялі. *(Зап. у в.Падзамша)*
Абманіў — сабе горш зрабіў. *(Зап. у в.Чыкіклі)*
Ад дабра лепшага не шукаюць. *(Зап. у в.Бярозаўка)*
Ад смерці не адмовішся. *(Зап. у в.Барбарова)*
Адна бяда не ходзіць, другую за сабою водзіць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Ат старое, што малое! Што з яго возьмеш — то плача, то скача. *(Зап. у в.Падзамша)*
Аўчынка вычынкі не варта. *(Зап. у в.Клетнае)*
Бацьку любі, старых паважай, здароўе беражы, а мір сцеражы. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Бач, работу зрабіла — чэраз пень-калоду. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Бач, якое белле! Мыла, не мыла; бела ні бела, абы на ваду паглядзела. *(Зап. у г.п. Глуск)*

Без гасцей — нам прасцей. *(Зап. у в. Слаўкавічы)*
Бог не цяля — знае круцяля. *(Зап. у в.Бярозаўка)*
Быў бы хлеб, а мышы знойдуцца. *(Зап. у в. Слаўкавічы)*
Бярозу не спілоўваюць, а спускаюць — дзяўчыну не любяць, а кахаюць. *(Зап. у г.п. Глуск)*

Вось так дзень і працягваецца, як бражная карова. *(Зап. у в.Падзамша)*
Да аглобляў коськаюць, а ў аглоблях пугі даюць. *(Зап. у в.Бярозаўка)*
Да магілы дажыў, а розуму не нажыў. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Да якіх прыстанеш, такім і сам станеш. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Даганяючы, не нацалуешся. *(Зап. у в.Падзамша)*
Датуль карцела — покуль есці хацела. *(Зап. у в.Старае Сяло)*
Дзе няма добрых старых, там няма і добрых маладых. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Дзе чарка, там і сварка. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Добрае далёка чуваць. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Добрая таму хатка, дзе Радзіма — яго матка. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Жылі, жылі, як галубкі мілаваліся, а пачалі сварыцца — як ваўкі разбегліся. *(Зап. у в.Падзамша)*

З дугі аглоблі не зробіш. *(Зап. у в.Чыкіклі)*
З хаткі ў хатку — дык на рубель упадку. *(Зап. у в.Завалочыцы)*
За харошым мужыком ды і цыліндра жонка. *(Зап. у в.Падзамша)*
За што купіў, за тое і прадаў. *(Зап. у в.Падзамша)*
Зяць любіць узяць. *(Зап. у в.Завалочыцы)*
К смерці збярыся, а хлеб пашы. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Каму што, а лысаму — грэбень. *(Зап. у в.Старае Сяло)*
Лепш крыху зрабіць, як багата гаварыць. *(Зап. у в.Барбарова)*
Лепш пад лаўкай буду сядзець, ды на прыгожага глядзець. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Лес крадзе, поле бачыць. Поле крадзе, лес бачыць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Ліш бы сонца свяціла, а зоры мы і колам паб'ём. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Людзі рады лету, а пчолы — цвету. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Маеш дачку — трымай гарэлку ў глячку. *(Зап. у в.Завалочыцы)*
На завідныя вочы парушынкі падаюць. *(Зап. у в. Зелянковічы)*
На чужы раток гузіка не прышыеш. *(Зап. у в.Барбарова)*
На чужой староне рады сваёй варонцы. *(Зап. у в.Клетнае)*
Не разбуры ластаўчынага гняздзечка — рабы станеш. *(Зап. у в.Клетнае)*

Не рыба, што ў рацэ, а рыба, што ў руцэ. *(Зап. у в.Завалочыцы)*
Не ўмывайся цёплаю вадою, бо хутка састарэеш. *(Зап. у в.Клетнае)*
Няхай бы чортам назвалі, абы ў балота не гналі. *(Зап. у в. Зелянковічы)*
На адным месцы і камень абрастае. *(Зап. у г.п. Глуск)*
На скорую руку не жаніся. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Не разбуры ластаўчынага гнязда, бо рабы станеш: рабоцце абсядзе ўвесь твар. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Не свішчы ў хаце, бо чэрці скачуць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Ну і раскудахталася, што кура ў гняздзе. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Па кветках яблыкаў не лічаць. *(Зап. у в.Бярозаўка)*
Пераступіў парог, дык шапку здымі, бо падумаюць, што пад шапкай вераб'ёў хаваеш. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Пол падмяла, як кура лапай пагрэбла. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Прыбяры пень, дык і той прыгожы. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Прыгрэўся ў маім вуглу, дык і сядзіш. *(Зап. у в.Падзамша)*
Ранняя птушка ў зубах калупае, а позняя птушка крошкі збірае. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Родны кут і зайцу дораг. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Слова сказаў, тапаром адсек. *(Зап. у в. Зелянковічы)*
Слухай добрых людзей, на дарогу навядуць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Стары конь баразны не порціць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Толькі і радні, што лапці адны. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Ты чаго аставіў агрэх? На чужы смех? *(Зап. у г.п. Глуск)*
Ты чаму ганіш маіх дзяцей? Хіба ў мяне іх поле пасеяна? *(Зап. у в.Падзамша)*
У каго дзеткі, у таго і бедкі. У каго дзеткі, у таго і шчасце. *(Зап. у г.п. Глуск)*
У кіі два канцы. *(Зап. у в.Старае Сяло)*
У нас хлеб не рэжуць, а крояць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
У роднай хаце і сцены дапамагаюць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
У сяло як прыйдуць сватаць, то маё дзіця і на печы знойдуць, а ты сваю Арынку павадзі па рынку. *(Зап. у г.п. Глуск)*
У ціхім балоце чэрці водзяцца. *(Зап. у в.Падзамша)*
Хай ён будзе хоць лапаць, абы за ім не плакаць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Хай той смяецца, каму добра жывецца. *(Зап. у в. Зелянковічы)*
Хлеб ды вада — наша мужыцкая яда. *(Зап. у в.Сіманавічы)*
Хлеб не зяць: які спякуць — такі і з'ядуць. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Хоць плач, хоць крычы, а няма каму дапамагчы. *(Зап. у в.Падзамша)*
Хто не ідзе, той не спатыкаецца. *(Зап. у в. Зелянковічы)*
Хто пытае, той не блудзіць. *(Зап. у в.Бярозаўка)*
Хто рана ўстае, таму Бог дае. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Ці савой аб пень, ці пнём па саве — усё адно. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Чаго верашчыш, як свінка ў плоце. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Чаго стаіш, як пень, так і пройдзе дзень. *(Зап. у в.Падзамша)*
Чаго стаў, як той стоўб, не аб'ехаць, ні абыйсці. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Яблычка ад яблынькі далёка не коціцца. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Якая матка, такое і дзіцятка. *(Зап. у г.п. Глуск)*
Які музыка, такое і гранне. *(Зап. у в. Слаўкавічы)*
Які Хомка, такая і жонка. *(Зап. у г.п. Глуск)*



## З народнага гумару

Паехаў дзед з Балашэвіч у горад, зайшоў у краму, пытае:
– Мо тут прадаюцца хамуты?
– Не, дзед — толькі дурні.
– О, мабыць і торг добра ідзе, бо толькі два засталося. *(Зап. у г.п. Глуск)*

* * *

Сустрэліся два мужыкі, селі на лаўку пагутарыць. Той, што з Балашэвіч, і кажа:
– У нас капуста парасла — тры пуды качан.
– А ў нас гаршкі лепяць, — кажа другі, — ну, як бочкі!
– Дык навошта ж такія гаршкі?
– А каб тую капусту варыць. *(Зап. у г.п. Глуск)*

* * *

– Дзе твае вочы былі?
– На пні.
– Дык ідзі іх і сапхні. *(Зап. у в.Балашэвічы)*





# ГОРАЦКІ РАЁН

## Старадаўні вясельны абрад в.Добрае

Запісаны ад Кочынай Галіны Рыгораўны, 1935 г.н., і Бялясавай Ганны Захараўны вучнямі Добраўскай сярэдняй школы Каробкінай Таццянай і Осіпавай Ганнай.

(Матэрыял захоўваецца ў аддзеле адукацыі Горацкага райвыканкома).

Заручыны-запоіны — перадвясельны этап, на якім нявеста і яе бацькі ў прысутнасці самай блізкай радні давалі згоду на шлюб. Сваты не адразу заходзілі ў хату, а стукалі ў акно, выдаючы сябе за падарожных, купцоў. Гаспадары рабілі выгляд, што не чакалі іх і не разумеюць. Адбывалася прыкладна такая размова:

СВАТ: Прымайце гасцей нязваных, нечаканых, ды дайце слова сказаць.

МАЦІ: Ды ўжо, калі ласка, прашу сядаць.

СВАТ: Кажуць людзі, што ў вашай хаце дачка падрасла, а ў нас хлапец нежанаты.

СВАЦЦЯ (перабівае): Не так гаворыш, сват. Кажуць, што наш бык да вашай цёлкі прывык. Вось!

МАЦІ: Выйдзі, дочухна, да людзей.

СВАЦЦЯ: А, прыйшла гуска! Дождаўся гусачок малады час залаты. Круціў галоўкай, гуску выглядаў, баяцца пачаў.

СВАТ: Ваш тавар — наш купец. Купец — усім купцам купец. Сам малады, чуб — залаты, дабра поўныя клеці — лепшы на свеце.

(Калі нявеста была згодна, то яна адорвала сватоў ручнікамі, перавязаўшыся якімі, тыя пасля вячэры ішлі дамоў).

За сталом спявалі песні:

**Як прыйшлі мы на заручаны,**
А Манечкі ў дварэ няма.
А куды ж яна пайшла:
Ці ў лес за калінаю,
Ці ў сяло за радзімаю?
Калі ў лес за калінаю, —
Дык мы дажыдаць будзем.
А калі ў сяло за радзімаю,—
Дык мы заручаць будзем.

**Шэрая ты зязюлечка,**
Усё тваё памінуецца:
Вясноўнае кукаваннніка,
Восеньскае жураванніка,
Ты вясною накукуішся,
А восенню нажуруішся,
Маладая ты, Манечка,
Усё тваё памінуецца:
Дзявочае пагулянніка,
Хлапечае заліцанейка.
Ты ў дзевачках нагуляішся,
Зойдзеш замуж — нагаруішся,
Ты ў дзевачках наскачышся,
Выйдзеш замуж — ты наплачышся.



Вяселле пачыналі гуляць спачатку ў бацькоў нявесты. Жаніх са сваёй раднёю, з шаферамі рыхтуецца ехаць да нявесты: упрыгожваюць маленькімі званочкамі конскую ўпраж, дугу абмотваюць рознакаляровай паперай або стужкамі. Запрагаецца тройка, і яны едуць да нявесты з песнямі.

У гэты час сяброўкі прыбіраюць нявесту, заплятаюць касу, надзяваюць ёй вянок з фатою (кісаю) і спяваюць:

**Зборная нядзеля настала,**
Манечка субор сабрала,
Сабрала субор на ўвесь двор.
Выбірала падружак на выбор,
Пасадзіла яна ўсіх за стол,
Сама села вышэй за ўсіх,
Задумала духману больш усіх:
Чым мне па двару паслаці,
Чым мне свякроўку зваці?
Пасцялю на двор кадкаю, *(абрус)*
Назаву свякроў мамкаю.

А дружына маладога спявае:

**У нашага Ванечкі кавалі на дварэ,**
Кавалі на дварэ, стальнога нажа.
Падкуй, Ванечка, выранога кыня,
Ты будзеш ехаць цераз шчырай жа бор,
Цешчухна зачуіць,
Гатавацца будзіць,
Манечка завідзіць,
Прыбірацца будзіць.

Спяваюць дружкі, калі вянок маладой надзяваюць:

**Гуляла, галубачка, гукала,**
А як жа мне ад стадзечка адвыкаць,
А як жа мне к сізу голубу прывыкаць? –
Ой, плакала Манечка, плакала,
А як жа мне ад дзевачак адвыкаць,
А як жа мне к свякроўцы прывыкаць?
Ай, прывыкнеш, Манечка, прывыкнеш,
Як ты па маім падворку паходзіш,
Як ты мае ключ[ы] паносіш.

* * *

**Усе мы лугі выхадзілі,**
Усю мы каліну выламалі.
Мы па ветачцы ламалі,
Манечцы вяночак сплятали.
А звіні, звіні, вяночак,
З руты, мяты, лілей,
З чырвонага каснічка.
А звіўшы вянок, кацілі
Па цясовінькім століку,
Па бясчасценькай скацерцы.
Кацілі яго ад мамкі,
Прыкацілі к свякроўцы.

Сяброўкі хаваюць нявесту ў суседняй хаце. У гэты час прыязджае жаніх за нявестай, каб адправіцца ў царкву. Спяваюць жанчыны каля хаты нявесты:

**Чырваней вішанькі**
У саду нету,
Разумней Ванечкі
У раду нету.
Пад'ехаў к варатам,
Стукнуў ботам:
– Адчыні, цётухна,
Мне вароцікі,
Ужо конікі перабегліся,
Ужо мае свацейкі перапеліся,
Ужо мая Манечка заждалася.

*(Зап. са слоў Бялясавай Ганны Захараўны)*

Малады з сябрамі ішоў шукаць маладую. Дзяўчаты праход у хату перагароджвалі лаваю, яны не прапускалі хлопцаў далей у хату, патрабавалі выкуп за сяброўку-нявесту. Сяброўкі таргаваліся, гучалі прымаўкі, прыбаўткі. Выводзілі спачатку старую бабку, жаніх даваў выкуп, але бачыў, што гэта не яго нявеста. Усе смяяліся. А потым у люльцы выносілі маленькае дзіця — зноў смех. Сябры жаніха бачылі, што дзяўчаты вельмі хітрыя, і таксама пачыналі падманваць. З гліны рабілі цукеркі, клалі іх у каробку і аддавалі дзяўчатам. Вось і падманілі. Калі давалі добры выкуп, дзяўчаты аддавалі нявесту.

Выкупіўшы нявесту, жаніх браў яе за руку і вёў у хату, дзе іх чакалі госці. Ён тройчы абводзіў вакол стала па ходу сонца сваю суджаную і трэцім разам садзіўся з ёй на куце. Следам за ім сядалі за стол і госці: радзіна хлопца — на левы бок ад кута, а радзіна дзяўчыны — на правы. За сталом не заседжваліся, бо трэба было ехаць у царкву. Бацькі дзяўчыны пачыналі рыхтавацца да "благаслаўлення" дзяцей пад вянец. Маладыя станавіліся на ручнік або кажух і, нізка пакланіўшыся бацькам, тройчы пыталіся спачатку ў маці: "Дазвольце, мама, пад вянец ехаць". На што тая адказвала: "Бог дазволіць". Пасля таксама тройчы звярталіся да бацькі, і, нарэшце, такі зварот да гасцей. Маладыя тройчы цалавалі абраз, які быў у руцэ маці, выходзілі з хаты, маці перадавала абраз святога ў рукі бацьку, а сама брала пасудзіну з зернем і, ідучы за маладымі, абсявала іх жытам. Пакуль маладыя садзіліся ў павозкі, вясельная дружына спявала:

**Ай, гоман, гоман на дварэ.**
А хто тамаць-ка гамоніць?
Ванька з конікам гамоніць:
– Ай, кося, кося мой сівы,
Ці надзеешся на сілу?
Давядзі маю княгіню,
Пад тую гару крутую,
У тую цэркаўку святую.

Жаніх і нявеста ехалі вянчацца ў царкву ў розных садках, у царкве стаялі побач. Дружкі трымалі над галовамі вянцы. Пасля бацюшка пытаў у жаніха, ці згодны ён узяць Маню за жонку, а потым у нявесты пытаў, ці згодна яна выйсці замуж. Бацюшка абвяшчаў маладых мужам і жонкай. Пасля вянчання маладыя ехалі разам на першай павозцы, з імі побач сядзелі хросныя бацькі і старэйшыя шаферы. Іншыя госці і моладзь ехалі следам за імі.



Як толькі маладыя ўязджалі ў вёску, ім закідвалі зайца. На сярэдзіну вуліцы ставілася лава, на якой ляжалі хлеб і соль. Рабілі гэта звычайна людзі чужыя, якія не гулялі на вяселлі. На размову з імі выходзіў сват: ён даваў людзям пачастунак — гарэлку з закускай. Маладыя пад'язджалі да нявесцінага двара, іх сустракалі бацькі нявесты пры ўваходзе. Жаніх і нявеста, падыйшоўшы да стала, кланяліся бацькам, бацька наліваў гарэлку ў чаркі, якую яны толькі прыгублівалі, потым вылівалі праз левае плячо за сябе. Маці брала хлеб і давала ўкусіць спачатку дачцэ, а затым зяцю. Бацька прасіў маладых зайсці ў хату, яны ішлі па разасланай дарожцы ў суправаджэнні бацькоў, следам уваходзілі ў хату і садзіліся госці. Выпівалі, спявалі песні:

**Як Манечка дзяжу мясіла,**
У Бога долі прасіла:
"Ай, дай, Божа, мне сем дзевяроў,
А заловачку хоць адну,
З дзеверамі я паскачу,
Ад заловачкі паплачу".

Спяваліся таксама песні-дражнілкі:

**Сваты борам ішлі,**
Чабору не нарвалі,
Князя не мылі.
А ваш жа князь — як чорная гразь.
Наша княгіня — што журавіна.
Ваш жа князь — што мех надуты,
Наша княгіня — як сыр паліты.

Трэццяе застолле ў хаце дзяўчыны-нявесты пачыналася з дзялення караваю. "На каравай" бацька хросны выклікаў усю радню нявесты па старшынству рода: родных бацькоў, братоў, сясцёр, другіх родзічаў, а потым суседзяў, шафераў і іншых удзельнікаў вяселля.

Уся размова вялася з рознымі пажаданнямі ў вершаванай форме:

Ці ёсць у гэтай хаце
Айцец, родная маці?
Чым будзеце дзяцей надзяляці?

Бацькі, паклаўшы грошы на талерку, адказвалі:

Даруем хлебам-соллю,
Няхай бог надзяляе
Шчасцем і доляй, і векам доўгім.

Былі пажаданні і такога тыпу:

Дарую галінку бярозы, каб мужык прыходзіў цвярозы.
Дарую серабро, каб жыць было дабро.
Дарую медзі, каб дзеці былі, як мядзведзі. І інш.

Калі бачылі, што які-небудзь хлапец падараваў добра, тады яму спявалі:

Маладзец, Ванечка, маладзец,
Што падараваў чырванец,
За яго харошы падарак —
Наліце яму сем чарак.

Калі ж хто-небудзь дараваў мала, яму спявалі наступнае:

Каб табе, Ванечка, вочка з канапельку,
Як ты даруеш капейку,





Каб табе, Ванечка, вочка з кулачок,
Як ты даруеш адзін пятачок.

Падзяліўшы каравай, старшы сват запрашаў усіх гасцей за сталы, але застолле было кароткім, госці напаміналі песнямі маладым і бацькам, што пара збірацца ў дарогу:

**Не жалка табе, Манечка,**
Што чужая радзіна кут заняла, —
Свая радзіна ў парозе,
Чужая радзіна мёд-віно п'ець, —
Твая радзіна слёзкі л'ець.

* * *

**Ой, сваточкі, ой, браточкі, просім вас,**
Каб не было нашай Манечцы худа ў вас,
Каб не была паветычка хаткыю,
Каб не была суседка маткыю,
Каб не была ў качарэжніку вячэра,
Каб не была акошачкам пасцеля...

На ад'езд маці збірала дачушцы пасцель, падушкі, коўдру, пасцілкі. Давала ў руку свечку і абразок. У двары жаніха маладажонаў сустракалі яго маці і бацька. Яны "абсявалі" маладых жытам і праводзілі ў хату. Госці спявалі:

**Раскаці, мамачка, трубачку,**
Прывёз сыночак любачку,
Раскаці, мамачка, другую,
Прывёз сыночак любую,
Не сцёрта, не змята, —
Толькі з-пад вянца ўзята.

Перад першай шлюбнай ноччу свякроўка здымала вянок з маладой, вешала яго на іконе і завязвала хустачку нявестцы. На другі дзень у хаце маладога збіраліся госці. Жанчыны спявалі:

**У панядзелак рана**
Манечка ваду брала,
У свой бок пазірала.
Прыляцелі сізы голубы,
Селі каля прорубі,
Сталі яны ваду піці.
"Вы, голубы, вы, сізыя,
Ці не з мае старонкі?
Калі з мае вы старонкі,
Дык ляціце ў маю старонку,
А скажыце мамачцы,
Ці я тута запражана,
Ці я замуж аддажына,
Калі тута запражана, —
Няхай мяне выкупяць,
Калі замуж аддажына,
Няхай мяне адведаюць".

А Манечка свякроўку прасіла:



**Хоць вы мяне талоч, малоць застаўляйце,**
Толькі мяне часта ў госці пускайце.
Не на тую свякровачку напала,
Каб яна цябе ў госці пускала,
Аж на ту свякровачку напала,
А што дзянёк — цераз кіёк скакала.

За трэцім застоллем жаніхова радзіна падавала каравай і надзяляла маладых. А маладая давала падарункі радне жаніха. Госці спявалі:

**Гуляйце, госцейкі, гуляйце,**
За ету дзеўку нядзельку,
За яе нарады — да серады,
За яе работы — да суботы,
У суботу зварым гароху,
Пакажым сватам дарогу.

Вечарам радня нявесты развітвалася з маладымі і родам жаніха і ад'язджала з песнямі дадому. Так заканчвалася вяселле, адзін з самых прыгожых і вясёлых сямейных абрадаў.



### Песні, запісаныя ў вёсцы Сенькава Горацкага раёна



**Чэраз рэчаньку, чэраз быструю**
Гібка кладачка ляжыць,
Па той кладачцы-перакладачцы
Лёня Танечку вядзець.
Ой, ты, Танечка, ты, Васільеўна,
Та не старайся за мной.
Пі віно, мёд, гарэлачку,
Радзі сына ты і дачушачку,
Ды й нябудзь п'яненька.

* * *

**А ў царкаўцы ва ўсе званы званілі,**
А ўсе жоны к абедзенцы хадзілі.
Адна наша Танечка не была,
А йна сабе дачушачку радзіла.
А Бог ёй даў, прачыстая памагла,
Бабулечцы на ручанькі аддала.

* * *

**А ў каго вінаград на дварэ?**
У Лёнечкі вінаград на дварэ.
Сабраў пір не людзям, сам сабе.
Пасадзіў бабулечку на куце,
А сам стаў, дый шапачку зняў.
Стаў ён пана Бога прасіць,
Каб маё дзіцятка расло,
Каб маё ды шчасліва было,
Каб яму ды Бог долечку даў,
Каб яму шчаслівенькую.

* * *

**Куму кум пыдманіў —**
Куме мёду не купіў, не купіў.
Кума кума пыдвяла, пыдвяла —
Куму штаноў не дала, не дала.
Кум пайшоў у кыбак, у кыбак.
Сам выпіў — кума так, кума так:
"Пастой, кумок, не ухажывай,
Чужых жонак не зважывай,
Твая кума падхросная —
Мая жонка венчальная".

* * *

**А ўчора ў нас былі хрысціначкі,**
А сягодня ў нас муравіначкі.
Гуляйце, бабачкі, муравіначкі,
Не сатрыце вы пупавіначкі:
Пупавіначка дужа дарага.
Наша бабулька к торгу хадзіла,
Яна на тры рублі шоўку купіла,
Пупавіначку абвіла.

### Замовы

***Ад звіху*** *(Зап. у в. Старасеселле).* Ёсць сіне мора, на тым моры — калінавы мост, па тым калінавым масту едзець Юры і святы Мікола, і святы Паўла і Пётра. І калін-мост абламіўся — звіх расхадзіўся: па касцях, па машчах, па суставах, па жылах, па жылках. Давайця помачы рабу божаму (імя) ад звіху.

***Ад зубнога болю*** *(Зап. у в. Старасеселле).* Святы Ягоры, вотча Міколы, і святыя зоры, і святыя нябёсы Хрыстовы: як у мёртвых у дзядоў, у баб зубы не баляць, дай, Госпадзі, каб у гэтага чалавечка не балелі. Ёсць у полі дрэва: яму з месца ня рыцца, так зубам ні разу не балець. Ёсць у лесе гнілая калода: калодзе гніць, а зубам ні разу не балець.

***На паспяховую лоўлю рыбы*** *(Зап. у в.Дубовы Вугал).* Цар Няптун, упрашаю цябе, умаляю цябе, пасылай на маю вуду вудзіцу з лубі, з віроў, з карчаўя і пняняўя. Мая вуда кедрова, мая леска шаўкова, воскам навошчана, лоскам налошчана. Будзе рабу божаму (імя) удача ва векі вякоў. Амінь!

***Ад пажару*** *(Зап. у в.Дубовы Вугал).* Святы Іван і Хвядос, і Адам, святы Мікола-ахраній будзець вас у частае поле зганяць, у зялёныя лугі, будзець вам ставіць цясовыя сталы, будзець на сталах зялёнае віно, будзеця вы выпіваць і хароміны раба божага (імя) не чапаць. Святы Міхаіл-арханій будзець дзяржаць.

***У дарогу*** *(Зап. у в.Барсукі).* Прачыстая святая, твая рука залатая. З медзянага пальчыка спусці, а мне дарожку прайці пусці.

***Ад ваўкоў, звяроў*** *(Зап. у в.Любіж).* Святы Ягоры ўзышоў на Сіяньскую гару і ўзяў залатыя ключы і сярэбраныя — замыкаць звярам ірты, каб яны ўцякалі ад кабыл з жарабятамі, кароў з цялятамі, авец з ягнятамі, свіней з парасятамі. І замыкаю я ім ірты на векі, амінь!



# ДРЫБІНСКІ РАЁН

## Легенды і паданні

### Паданне аб паходжанні назвы вёскі Кледнявічы

Па паданню на месцы вёскі Кледнявічы раней, яшчэ да яе ўзнікнення (прыкладна сярэдзіна XIV ст.), быў знойдзены клад залатых і сярэбраных манет часоў князя Уладзіміра Кіеўскага, які хрысціў Русь. З тае пары месца прзвалася "кладніца", г.зн. "месца, дзе ляжаў клад".

Першае пасяленне, якое ўзнікла прыкладна ў канцы XIV ст., называлі "Кладнявішча", у напамінак аб знойдзеным вялікім кладзе. Потым назва перетварылася ў больш звыклае беларускае "Кладневічы". Дарэчы, пад такой назвай сяло ў канцы XV ст. было адзначана на картах Вялікага княства Літоўскага, а пазней — Рэчы Паспалітай.

З цягам часу назва вёскі змянілася на "Кледнявічы" у сувязі з вялікім уплывам рускамоўя на ўсходніх землях Беларусі.

### Казка аб "Дрыбінскіх шапавалах", або адкуль узяліся валенкі

Гэта было даўно, калі яшчэ не нарадзіліся вашы бабулі і дзядулі, на гэтым самым месцы, дзе знаходзіцца наш Дрыбін, стаяла хата, у якой жыў злы і жадны да грошай пан. Ён жыў адзін і ні з кім не сябраваў. І вось аднойчы міма яго хаты ішлі людзі. Яны былі апрануты ў незвычайныя боты і шапкі. Пану вельмі спадабаліся боты з шапкамі, і ён захацеў мець сабе такія. Гэтыя людзі ішлі здалёк, таму яны вельмі стаміліся. Прыселі яны адпачыць каля хаты пана, а пан тут як тут і пытае ў іх, дзе яны набылі такія прыгожыя боты з шапкамі. А людзі адказваюць, што гэтыя боты і шапкі яны зрабілі самі. Як ужо гаварылася, пан гэты быў дужа хітры і жадны да грошай, ён адразу падумаў, як гэта зрабіць так, каб гэтыя людзі пачалі працаваць у яго. Яны будуць рабіць шмат шапак і незвычайных ботаў, а ён іх прадасць і будзе мець багата грошай. Але пан зразумеў, што аднаму яму ніяк не справіцца з імі, патрэбна дапамога. Таму ён пакліказаў салдат. Калі людзі адпачнулі і хацелі ўжо ісці далей, пан падняў гвалт: "Ратуйце, абакралі!" — і паказаў салдатам на гэтых людзей.

Салдаты схапілі іх як злодзеяў і хацелі адвесці ў турму, але пан сказаў: "Калі вы жадаеце, каб вас адпусцілі, то вы павінны паабяцаць мне, што застанецеся тут і будзеце працаваць на мяне". Людзям нічога не заставалася рабіць, як толькі згадзіцца і пачаць працаваць на пана. Так у Дрыбіне з'явіліся жыхары, якія маглі рабіць незвычайныя шапкі і боты. За гэта іх празвалі "шапаваламі", ад слова "шапка", а так як яны жылі у Дрыбіне, іх сталі зваць "Дрыбінскія шапавалы".

Рабілі яны свае незвычайныя боты з воўны і называліся гэтыя боты — валенкі.

Шмат людзей хацелі ведаць, як рабіць з воўны такія валенкі і шапкі, але шапавалы нікому свой сакрэт не адкрывалі. Толькі сваіх дзяцей шапавалы вучылі, як трэба рабіць валенкі і шапкі з воўны. А каб іх ніхто не падслухаў, яны прыдумалі сваю мову, якую, акрамя іх, ніхто не разумеў, а называлася гэта мова "Катрушніцкі лемязень".

## Як размаўляюць вяскоўцы

### Слоўнік дрыбінскіх шапавалаў

Агонь — дуляс
Анёл — шунгел
Армяк, світка — сипяга
Бог — Ахвес
Больш — шавлый
Булка, белы хлеб — кульман
Бульба — шкуты
Бык — шубык

Вада — суга
Вёска — хория
Вялікі — шавлый
Горад — свигород
Грэх — кугрех
Душа — кудуша
Дым — курдом
Жанчына — жбажа
Жарабец — волоток
Жыта — зньтка
Запалка — дуляска
Зямля — цирь
Кабыла — волотиха
Карова — явлыда
Конь — волот
Лажыцца — клюжитца
Лён — кедер
Ляжаць — клюжать
Малады — драпелый
Мало — микро
Малы — микрый
Многа — посо
Мужчына — куж
Мука — пирьха
Мы — маньки
Мястэчка — шуста
Пушны хлеб — шеоха
Сарочка — сорохвейка
Скоро — мугром
Спадніца — пастыжница
Старый — ерый
Стаяць — стычать
Сябе, сабе — маньку
Сядзець — качаць
Сяло — кусело
Сям'я — шульга
Ты — бальва
Увесь — вшацкий
Фартук — наскахвейник
Хадзіць — хонджеваць
Хата — хворт
Хлеб — акруш
Цар — куцарь
Цеста — кутесто
Цяпло — свопно
Чалавек — кучеловек
Чысты — пленный
Чорт, бес — шест
Шапка — катрушка
Я — мань
Ягада — крвсимня
Ячмень — бурмень
Адзін — свя
Два — бакрых
Тры — стромах
Чатыры — бутыре
Пяць — повдзекана

### Фразы на лемезень

Бальва никора не сипаешь - ты нічога не ўбачыш.
Хлизь в хазь, а то вергий смакшунить - ідзі ў хату, а то дождж змочыць.
Клиево кургает - добра спявае.

### Прыказкі, прымаўкі, прыкметы

Новая навіна ў рот — здароўя ў жывот. Так казалі, калі ўжывалі садавіну і гародніну з новага ўраджаю. *(Зап. у в.Кледнявічы ад Лосевай Акуліны Захараўны, 1906 г.н.)*
Бялізну цяжарная жанчына не павінна закручваць у вадзе: будуць дзеці саплівыя.







## КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁН



### Легенды і паданні

### Адкуль пайшлі назвы вёсак

#### Саматэвічы

Аб паходжанні вёскі Саматэвічы і яе назвы расказвае такая легенда. Раней на беразе ракі Бесядзь, там, дзе знаходзілася вёска Саматэвічы, быў лясны гушчар. Гэта прыгожае месца здаўна вабіла да сябе людзей. Аднойчы сюды прыйшоў маленькі абоз перасяленцаў, якія шукалі сабе месца для паселішча. На беразе ракі яны пабудавалі сабе хаты. Рака была шырокая, глыбокая, прыгожая. Калі старэйшы сын адной з сямей пайшоў купацца, то патануў у гэтай рацэ. Бацькі не змаглі змірыцца з такім горам і пакінулі гэта месца, але неўзабаве вярнуліся назад. І ўсё было б добра, калі б аднойчы рака не забрала другога сына. Пасля такога здарэння ў сям'і рашылі, што гэта рака "глынае" людзей, як чорная вутка глынае чарвякоў. Яны назвалі раку Чорнавуткай і ў другі раз пайшлі адсюль. Аднак, не знайшоўшы лепшай долі, яны вярнуліся на старое месца. Людзі, якія ведалі пра гэта здарэнне, казалі так: "Вось зноў вярнуліся тыя самыя (ці самыя тыя)". З таго часу паселішча сталі называць Саматэвічы.

Гэта было вялікае прыгожае сяло, дзе жыло больш за тысячу жыхароў. Але з-за высокай радыяцыі, выкліканай аварыяй на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе, вёску ў 1997 годзе "пахавалі", і зараз тут засталося толькі 8 жыхароў, якія не захацелі пакінуць родныя мясціны. Астатнія ж пасяліліся на новым месцы, якому далі назву Новыя Саматэвічы. Легенда зноў стала рэальнасцю...

#### Ліпаўка

Побач з вёскай Новыя Саматэвічы знаходзіцца вёска з прыгожай назвай Ліпаўка. Раней на месцы вёскі быў непралазны лес. Пасярод лесу працякаў ручай, а каля яго раслі вялікія ліпы. Тут пасяліліся людзі. Яны сеялі лён, ткалі тканіну і шылі сабе адзенне, якое фарбавалі настоем ліпавай кары. З абутку яны насілі лапці, сплеценыя з кары маладых ліп. Ліпавы гай і ручай кармілі, абувалі і адзявалі людзей. Таму сваё паселішча яны назвалі Ліпавы ручай.

#### Як нарадзіліся вёска Канічы

Некалі на гэтым месцы была нізіна, і людзі тут не сяліліся. І вось сюды прыляцела птушка Каня. У дзюбе з самага нізкага месца яна стала выносіць зямлю. Так нарадзілася крыніца. Чым больш працавала Каня, тым больш бруілася крынічка. І пацёк ручай, тут сталі сяліцца людзі, а паселішча сваё назвалі ад імя птушкі Кані – Канічамі. І цяпер тая птушка лётае і ўсё просіць: "Піць! Піць! Піць!".

#### Белая Дуброва

Раскопкі гарадзішчаў і курганоў каля вёскі Белая Дуброва сведчаць, што гэтая мясцовасць была заселена людзьмі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. А чаму так называецца вёска, расказаў яе жыхар Ф.Ф.Прыжанкоў. Некалі вельмі даўно тут жыў памешчык па прозвішчу Белы. Ад яго імя, а таксама бярозавага бору, які рос на пясчаным беразе Бесядзі, а пясок таксама быў белы, і ўтварылася назва вёскі – Белая Дуброва. Вельмі прыгожая і мілагучная назва.

## Сялецкае

Калісьці на месцы вёскі Сялецкае быў лес. Людзей, якія не падпарадкоўваліся панам, высялялі з вёсак. Яны ўходзілі ў лес і сяліліся там. Сваё новае месца людзі назвалі Селішча. Потым гэты лес і гэтае Селішча купіў адзін пан па прозвішчу Сялецкі. Пан быў добры, і да яго на працу прыходзіла шмат людзей, якія таксама сяліліся тут. Тэрыторыя Селішча значна павялічылася, і па прозвішчу пана яго пераіменавалі ў в. Сялецкае.

## Студзянец

Старажылы вёскі перадаюць вось такое паданне. Даўным-даўно на стогадовым дубе з'явілася ікона, а побач з дрэвам пад схілам гары сталі біць крыніцы "жывой вады". І шмат хто з людзей, паспытаўшы гэтай вады, пазбаўляліся хвароб. І таму ёсць нямала сведчанняў. Вось адно з іх. Было гэта ў канцы XIX стагоддзя. Адзін з сыноў роду памешчыкаў Ціханавецкіх працяглы час пасля вяселля не меў дзяцей, аб чым вельмі моцна смуткаваў. А лекары нічым не маглі дапамагчы. Страціўшы надзею ў сваім журботным становішчы, малады паніч, паслухаўшы парады мудрага старца, звярнуўся да крыніцы з "жывой вадой". Ён прынародна даў абяцанне (аброк) Богу, што калі народзіцца дзіця, то над цудадзейнымі крыніцамі сцюдзёнай вады будзе пабудавана капліца. Чакаць давялося нядоўга. Неўзабаве ў Ціханавецкіх нарадзіўся сын. Паніч стрымаў сваё слова і, у памяць гэтай падзеі, пабудаваў капліцу. Асвячэнне капліцы адбылося на Сёмуху. З таго самага часу на гэтае свята людзі ідуць да крыніцы, каб паспытаць яе гаючай "жывой вады".

## Песні роднага краю

**Запалю я куль саломы,**
Пушчу за вадою,
Пушчу за вадою.
Пакажыце майму роду,
Што я сіратою,
Што я сіратою.
Няма ў мяне, сіротачкі,
Ні бацькі, ні маці,
Ні бацькі, ні маці.
Толькі ў мяне, сіротачкі,
Адзін дзядзька родны,
Адзін дзядзька родны.
"Пусці, пусці, мой дзядзечка,
На вулку гуляці,
На вулку гуляці.
Тады буду, мой дзядзечка,
Тры дні жыта жаці".
Жыта жала і лён брала,
Снапоў не вязала,
Снапоў не вязала.
"Тады буду жыта вязаць,
Калі месяц узыйдзе,
Калі месяц узыйдзе.
Тады буду снапы вязаць,
Калі мілы возьме".

*(Зап. у в.Машавое)*



**Вецер вее, ой, вецер вее,**
Ой, вецер павявае.
Маці ў дачкі, ой, маці ў дачкі
Пра жыццё пытае.
Пытай, маці, ой, пытай, маці,
У серае ўці.
Сера ўця, ой, сера ўця,
Ой, на моры начуе,
Ой, яна маё ўсё горачка чуе.
Перва гора – дзіця малое,
Друга гора – скрова ліхая,
Трэцяе гора – мяне муж пакідае.
Сам ён едзя, ой, сам ён едзя
У чыста поле араці.
Мяне бярэ валоў падганяці,
Валы мае, ой, валы мае,
Ой, валы полавыя,
Прайшлі мае, ой, прайшлі мае,
Ой, гады маладыя.

*(Песня, якую пяюць маладзіцы.
Зап. у в.Саматэвічы)*



**Зялёны дубочак на яр нахіліўся,**
Малады малодчык, чаго засмуціўся?
Ці валы прысталі, ці з дарогі збіўся,
Ці карчом ты пячным зусім пабіўся?
Не валы прысталі, не з дарогі збіўся, –
Малады малодчык без долі радзіўся.
Долі не маеш і дзяўчыны не знаеш,
Усёй толькі долі, што чорныя брові.

*(Зап. у в.Бялынкавічы)*

**Ой, дуб да бярозы**
Нізенька нахіліўся,
Ой, сын да матулі
У ножанькі кланіўся:
"Жані мяне, маці,
Яшчэ маладога,
А калі не жэніш,
Я сам ажанюся,
Хоць не па любові,
То за чорны брові".

*(Зап. у в.Сялецкае)*



**У бальшом карагодзе дзеванькі гулялі,**
Люлі, мае люлечкі, дзеванькі гулялі.
Маладога малайца бранілі-ругалі,
Люлі, мае люлечкі, бранілі-ругалі.
У свой карагодзік гуляць не прымалі,
Люлі, мае люлечкі, гуляць не прымалі.
Пуховую шапачку на ём парвалі,
Люлі, мае люлечкі, на ём парвалі.
Пайшоў, пайшоў маладзец, пайшоў ды й заплакаў,
Люлі, мае люлечкі, пайшоў і заплакаў:
"Нашто меня мамачка на гора радзіла,
Люлі, мае люлечкі, на гора радзіла?"

*(Зап. у в.Сялецкае)*



**У варот бяроза стаяла,**
У варот бяроза стаяла.
Манька са двара з'язджала,
Дзеўка са двара з'язджала,
У бярозы макушку зламала.
Стой, мая бяроза, без верху,
Стой, мая бяроза, без верху,
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Без русай касы без мае.
Без шаўковага ўплёту,
Што ў русай касе насіла,
Што ў русай касе насіла,
Падвор'е тваё красіла,
Сямейку тваю весяліла.
Як вывешу плет на прыплет,
Як вывешу плет на прыплет,
Куды мая мамачка ў клець ходзіць.
А ў клець ідучы, убачыць,
А з клеці ідучы, заплачыць.
Во маёй дачушкі ўплёткі,
Во маёй дачушкі ўплёткі,
Што ў русай касе насіла,
Падвор'е маё красіла,
Сямейку маю весяліла.
Пераборнічык-месячык,
Пераборнічык-месячык
Перабраў усіх звёздачак.
Як выбраў сабе звёздачку,
Хоць яна маленька, драбненька,
Сярод усіх звёздачак красненька.
Пераборнічык Іванька,
Пераборнічык Іванька
Перабраў усіх дзяўчат.
Як выбраў сабе Манечку,
Як выбраў сабе Манечку,
Хоць яна дробненька-маленька
Сярод усіх дзевачак – ясненька.

*(Вясельная, зап. у в.Бялынкавічы)*

**Выйдзі ж, матачка, паглядзі, паглядзі,**
Што табе баяры прывязлі, прывязлі.
А прывязлі скрыню, пярыну, пярыну,
Маладую дзевачку-княгіню, княгіню.
Не так княгіню – нячосу, нячосу,
Што не ўмее косачкі часаці,
Толькі ўмее верабейкі пужаці, пужаці.
– Шугі-шугі, верабейкі, у таткавы канапелькі.
А ў свёкравы не буду, не буду,
Бо я ў свёкра жыць буду.

*(Вясельная, зап. у в.Канічы)*



**Галовачка мая бедная,**
Сямеечка непрівэтная.
Самі селі ды вячэраюць, –
Мяне ж маладу па воду шлюць.
Толькі ў беленькай рубашечкі,
Шаўковенькі падпаясачак,
Цераз бацькін двор дарожачка,
Цераз маткіна падворыйка.
Мой татачка ў варот стаіць,
А мамачка ў акно глядзіць,
У татачкі слёзы коцяцца,
У мамачкі, як рака, ільюцца.
"Ці не наша то дзіцятачка –
Басая, праставалосая?
Зайдзі, зайдзі ў нашу хатачку,
Напрані нашу напратачку,
Павяжы нашу хусцінаку.
Пацярала ты шчасце-долечку,
Цераз сваю буйну галовачку
Папалася ў няволечку".

*(Зап. у в.Белая Дуброва)*



**Ля крынічанькі, ля глыбокія,**
Ой, лі,ой, люлі, ля глыбокія,
Ляжыць целечка, цела белае,
Ой, лі,ой, люлі, цела белае.
Ніхто к целечку не прыступіцца,
Ой, лі,ой, люлі, не прыступіцца.
Прыступілі тры ластавачкі,
Ой, лі,ой, люлі, тры ластавачкі,
Тры ластавачкі, тры лябёдачкі,
Ой, лі,ой, люлі, тры лябёдачкі.
Перва села ў яго галовачках,
Ой, лі,ой, люлі, у яго галовачках.
Другая села пасярод сэрца,
Ой, лі,ой, люлі, пасярод сэрца.
Трэцяя села каля ножачак,
Ой, лі,ой, люлі, каля ножачак.
Што ў галовачках – то матка мая,
Ой, лі,ой, люлі, то матка мая.
Пасярод сэрца – то сястра мая,
Ой, лі,ой, люлі, то сястра мая.
Каля ножачак – то жана мая,
Ой, лі,ой, люлі, то жана мая.
Дзе матка плача, там рака льецца,
Ой, лі,ой, люлі, там рака льецца.
Дзе сястра плача, там крынічанька,
Ой, лі,ой, люлі, там крынічанька.
Дзе жана плача, там расы няма,
Ой, лі,ой, люлі, там расы няма.

*(Балада, зап. у в.Студзянец)*



**Прыехаў сын у госці, маці жыта жала.**
Сказаў маці "здраствуй", яна не адказала.
– Маці, мая маці, чаго гордай стала?
Сказаў табе "здраствуй", а ты не адказала.
– Я не гордай стала, "здраствуй" не сказала:



За горкай слязою цябе не пазнала.
– Маці, мая маці, хопіць так рабіці,
Паехалі ў горад, будзеш з намі жыці!
Прыехала ў горад, у куточку села,
Гордая нявестка зкоса паглядзела:
– Дзеці ўжо бальшыя, нечага рабіці,
Паязджай к дачке, будзеш тама жыці.
Прыехала к дачцэ, села ў вугалочку:
– Мілая дачушка, памый мне сарочку.
– Я не буду мыці, недзе мне сушыці,
Каўры дарагія – нечага сарыці.
А ўсе людзі кажуць, што каўры харошы,
Што каўры харошы за маткіны грошы.
Сядзіць зяць у крэсле, газету чытае,
На старую цёшчу зкосу паглядае:
– Хопіць табе, цёшча, па дзецях цягацца,
Пара табе, цёшча, на той свет збірацца.
Адзін сын – маёрам, другі – пракурорам,
А старая маці сядзіць пад заборам.

*(Балада, зап. у в.Бялынкавічы)*



**Татачка мой любенькі, татачка мой даражэнькі,**
А каму ты мяне пакінуў – такую сіраціначку адну?
А каму ж я цяпер галовачку прыхіну, мой татачка?
А што ж мне цяпер дзелаць без цебя,
Куды ж мне цяпер адной,
А куды ж мне цяпер кідацца?
Мне ж ніхто нічоганькі не памагаець,
А каго ж не пайду прасіць,
Дык усе выганяюць мяне з хатанькі,
Татачка мой любенькі, татачка мой родненькі,
А вазьмі ж мяне скарэй з сабой.
А божа ж мой божачка,
А што ж мяне цяпер дзелаць без цябе?..

*(Галашэнне, зап. у в. Саматэвічы ад А.Кавалёвай)*



## Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

А няхай на цябе чэмер найдзець! *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Аднаму з'есці курку, а зрабіць скулку. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Бадай цябе ліха. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Высах, як сугак той стаў. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Дзе сеў, там і прыкіпеў. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Дзеўка прыгожа, ды прасці не гожа. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Ездзіць любіш, каб ты жыватом ездзіў. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Закурым табачку цёртага, успомнім пра жывога і мёртвага.
*(Зап. у в. Саматэвічы)*

Змяя змяю не кусае. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
І верабей ногі не прамачыў. *(Зап. у в. Саматэвічы)*

І лапкі ў гору падняў. *(Зап. у в. Саматэвічы)*
Калі розуму ў галаве няма, дык шапка не дасць. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Карову б'юць за зык, а бабу за язык. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Курэц ад старога лапця. *(Зап. у в. Саматэвічы)*
Лепей палюбіць маладога арла, чым старую саву. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
На цырлах "клыкаць". *(Зап. у в.Студзянец)*
Першая жонка ад Бога, другая ад людзей, трэцяя ад чорта. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Песні – хоць трэсні, а есць нечага. *(Зап. у в.Студзянец)*
Плятуцца, як старцы на абед. *(Зап. у в.Белая Дуброва)*
Прыйшла Прачыстая – забярэ мух нячыстая. *(Зап. у в.Канічы)*
Прыйшоў Улас – скора вясна ў нас. *(Зап. у в.Канічы)*
Прыкасайся да Міколы – ня бойся зімы ніколі. *(Зап. у в.Канічы)*
Разбіў жывот, як начоўкі. *(Зап. у в.Студзянец)*
Скажы бабе па сакрэту, а баба – усяму свету. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Скача нібы без касцей. *(Зап. у в.Белая Дуброва)*
Устаў па той бок ночы. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Утрэскаўся, як чорт у сухую грушу. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*
Хавай нос у апанасаўскі мароз. *(Зап. у в.Канічы)*
Шалудзіваму парасёнку і ў пятроўку мароз. *(Зап. у в.Канічы)*
Што ў цябе коз воз, ці дзяцей загарадзь. *(Зап. у в.Белая Дуброва)*
Язык, што псіны хвост, віляецъ. *(Зап. у в.Бялынкавічы)*

## Загадкі

Вісіць-вісіць, баўтаецца, хто не ідзець – хватаецца. *(Калодзежны журавель)*
Два братцы ў воду глядзяць, а разам не сыходзяцца. *(Берагі).*
З барадою, а не стары, з рагамі, а не бык, дояць, а не карова, лыкі дзярэ, а лапці не пляце. *(Каза)*
Каля клуба завіруха, каля дзірачкі базар. *(Вулей і пчолы)*
Не кароль, а ў кароне, не гусар, а пры шпорах, гадзінніка не мае, а час знае. *(Певень)*
Па чатыры і па пяць, залупіўшыся вісяць. *(Арэхі)*
У маці дваццаць дзетак. Усе дзеткі – адналеткі. *(Квакуха з кураняткамі).*

## Як размаўляюць вяскоўцы

Апівошына – п'яніца
Бязула, лежань – гультай
Дзюньдзя - плакса
Загувальня – заваленка
Каўбух – начынены мясам страўнік свінні
Мажара – калёсы, у якія запрагалі коней
Маруда – марудлівы чалавек
Навуш – галопам (конь)
Празукаваты - прабіўны
Растароп – бездарож
Сусолка - ледзянец
Уежна - сытна
Халда, мурза, атрях – неахайны чалавек



 

# КІРАЎСКІ РАЁН



## Легенды і паданні

### Адкуль пайшлі назвы вёсак Кіраўскага раёна

Веска **Чыгірынка** здаўна падзяляецца на тры часткі: Румак, Чыгірынка, Малінаўка. Існуе тры варыянты паходжання назвы "Румак". Па-першае, словам "рум" называлі рагатага жаўрука. Як сцвярджаюць старажылы, гэтых птушак было шмат у нашай мясцовасці. Па-другое, лічыцца, што калісьці нехта з мясцовых жартаўнікоў па асацыяцыі "Масква – другі Рым" назваў гэтую частку вёскі Рымам-Рымком-Румаком. Трэцюю версію паходжання назвы Румак звязваюць з яўрэем па імені Ром, які жыў тут і пабудаваў на ўскрайку вёскі вадзяны млын. Вось і называецца паўночная частка Чыгірынкі ў памяць аб гэтым чалавеку.

Паўднёвая частка вёскі называецца Малінаўка. Існуюць дзве найбольш рэальныя прычыны паходжання гэтага тапоніма: з-за птушак малінавак, чые прыгожыя спевы ў зарасніках чаромхі на беразе Друці здаўна песцілі слых людзей, і з-за ягад маліны, буйных, салодкіх і духмяных, якіх у гэтай частцы вёскі асабліва многа.



З другога боку да вёскі далучыўся пасёлак **Падліпкі**. Вёсачка з такой назвай была заселена ў часіны ўладарніцтва пана Булгака. Мясцовыя сяляне звярнуліся да яго з просьбай пабудаваць дарогу, бо там была царква. Булгак адгукнуўся на просьбу сялян, і некалькі хутароў злучыліся дарогай. А з мэтай добраўпарадкавання і ў даніну тагачаснай еўрапейскай модзе загадаў пан абсадзіць дарогу ліпамі.

Побач з вёскай Чыгірынка на беразе возера знаходзіцца вёска **Падлужжа**. Справа ў тым, што калісьці на месцы гэтага возера быў вялізны луг, па якому, выгінаючыся змяёй, пятляла рака Друць. Пасля ўзвядзення плаціны тут утварылася возера. Аднак у назве вёскі, размешчанай побач з лугам, "пад лугам", указваецца месца яе знаходжання – Падлужжа.

Яшчэ адна вёска, якая далучылася да вёскі Чыгірынка, называецца **Праточнае**. Яе назва пайшла ад пратокі, якая агінала невялікі ўчастак зямлі, дзе і пасяліліся першыя жыхары вёскі.



Існуе прыгожая легенда пра назву вёскі **Ала**. Некалі жыў адзін пан, і была ў яго вельмі прыгожая дачка Ала. І так здарылася, што пакахала паненка беднага сялянскага хлопца. Бацька Алы, вядома ж, быў супраць гэтага кахання і не дазволіў закаханым ажаніцца. З вялікага гора і роспачы дзяўчына кінулася ў раку і патанула. З таго часу рэчка атрымала назву Ала. І вёска, якая стаіць ля вытока рэчкі, таксама мае назву Ала.



У нашым раёне ёсць тры вёскі, у назвах якіх ужыта слова "слабада". Гэта вёскі **Грыбава Слабада, Пацава Слабада і Кострыцкая Слабодка**. Слова "слабада" мае некалькі значэнняў. Па-першае, яно абазначала пасяленні вольных ад прыгону людзей. Па-другое, гэта слова азначала пасяленне, якое знаходзілася ў гарадах за гарадской мяжой, а ў сельскай мясцовасці – за мяжой землеўладальніка. У пачатку XVII стагоддзя літоўскі пан Самуэль Пац, які жыў у сваім Любоніцкім двары, валодаў сям'ю вёскамі. Пры яго жыцці ўзніклі два новыя пасяленні. А так як знаходзіліся яны за межамі ўладання, то і атрымалі назву Слабада. Але каб іх не блытаць, прыйшлося даць

ім дадатковыя назвы. Адну, якая знаходзілася паблізу вёскі Кострычы, назвалі Кострыцкай Слабодкай, а другую ад прозвішча пана – Пацавай Слабадой.



Даволі цікавая гісторыя паходжання вёскі **Старцы** і яе назвы (зараз яна ў складзе г. п.- Кіраўска). Не трэба думаць, што гэта назва азначае беднасць, жабрацтва яе жыхароў. Людзі тут жылі багата: землі добрыя, урадлівыя. Узнікла гэта вёска ў пачатку XVII стагоддзя ў часы Вялікалітоўскага княства. Генерал (тады ён называўся возны) Бабруйскага замка-крэпасці меў свой двор у вёсцы Качэрачы. Ахову замка неслі вартавыя, якія называліся старцамі. За сваю службу старцы надзяляліся зямлёй паблізу двара генерала. Так узнікла новае пасяленне. Навакольныя людзі на пытанне "хто тут жыве" звычайна адказвалі "старцы". Адсюль і пайшла назва вёскі Старцы. Каб не змешваць новае пасяленне са старым, вёску Качэрачы сталі называць старым сялом – Стараселлем.



Гадоў сотню, мо і болей, таму, паміж вёскамі Гарадзец і Стража на невялічкім узгорку стаяла царква. Птушкі пяялі тутака ў летнюю пару, вольны вецер гуляў на прасторы і царкоўны звон гудзеў, разліваючыся ў паветры. Далёка навокал чутны былі прыгожыя гукі. І сціхала ўсё навокал. Птушкі раптам абрывалі сваю песню. Сціхалі ў траве скакуны. Слухаў у імшары воўк. Нават вецер і той супакойваўся, хаваючыся ў гушчары. Так чароўна звінеў царкоўны звон.

Але неўзабаве дайшлі дасюль трывожныя весткі: "Ідуць чужынцы. Дзе не пройдуць яны, ні-ні не застанецца, ніводнае чалавечае душы, усё нішчыць іх бязлітасны меч і агонь". Зышліся святыя айцы на царкоўны двор і, памаліўшыся Богу, пачалі раіцца, што рабіць. Доўга не маглі яны нічога прыдумаць, але выйшаў з грамады самы стары айцец і пачаў гаварыць: "Браты, захаваем увесь царкоўны скарб і самі ўратуемся ад лютай смерці".

На гэта ўсе згадзіліся. На другі дзень, як толькі ўзыйшло сонца, сабраліся ўсе людзі ў царкве і пачалі маліцца. Горка заплакалі яны, просячы Бога ўратаваць іх ад лютай смерці. І учуў малітвы Бог. Разышлася тут зямля, апошні раз пачулі людзі зыкі звона ў паветры, і царква разам з жыхарамі апусцілася ў нетры зямныя. А на тым месцы ўтварылася азярцо, якое ніколі не высыхае, быццам бы напоўненае слязамі тых людзей.



Яшчэ адна легенда расказвае нам, ад чаго высахла рэчка. На канцы вёскі Гарадзец, каля самага лесу, стаяла старая маленькая хатка з адным акенцам ад ляснога боку. Побач з гэтай хаткай бегла вялікая паўнаводная рака. Шмат было ў яе рыбы і іншага жывога міру. Купаліся ў рацэ дзеці цёплаю парою. А ў той хаце жыла са сваім сынам Іванам жанчына-чараўніца. Іван быў добры плавец, плаваў ён на дзіва хутка, проста па вадзе каціўся. Не было роўнага яму ва ўсёй ваколіцы. У адзін летні дзень, калі на небе з'явілася чорная хмара і загрымеў гром, захацелася Івану пакупацца і паказаць сябрам сваю ўдалосць. Доўга ён плаваў, пакуль не трапіў у вір. Хлопец знік у гэтым віры. Даведаўшыся аб смерці сына, маці пракляла раку. З таго часу рэчка пачала мялець, амаль зусім высахла. Яе так і называюць – **Сушка.**



У старадаўнія часіны жыла-была адна дзяўчына. Звалі яе Любай. Была яна вельмі прыгожая. Ніхто лепш за Любу не мог саткаць рушнік, спець песню, станцаваць. Было ў Любы запаветнае месца ў лесе. Сюды яна прыходзіла ў вольную часіну адпачыць душой. І тут сустрэла дзяўчына сваё каханне – хлопца Міколу з суседняй вёскі. Пакахалі



яны адзін аднаго. Заслаў ужо Мікола сватоў да Любы, ды толькі запрымеціў прыгажуню пан. Пачуў ён пра хуткае вяселле і запатрабаваў ён споўніць старадаўні прыгонны звычай: каб нявеста ў першую ноч належыла пану. Схапілі панскія гайдамакі Любу і павезлі ў палацы. А назаўтра выпусцілі абняслаўленай. Не змагла Люба перажыць такой ганьбы, кінулася ў лес і наклала на сябе рукі. Той жа ноччу загарэўся панскі маёнтак. Гэта Мікола люта помсціў за смерць каханай. А самаго пана схапіў хлопец за валасы і пацягнуў на тое месца, дзе не стала Любы. На каленях прасіў пан літасці. Але няма даравання за зняважанае каханне, за гора людское. І пакацілася з пагорка панская галава. А там, дзе яна ўпала, утварылася балота. Гару, дзе памерла Люба і дзе пан прасіў прабачэння (прашчэння) ў Міколы, людзі прзвалі Прашчэнскай гарой, або Прошчай. Пазней на тым месцы была ўзведзена царква, якая прастаяла некалькі стагоддзяў. Мінулі стагоддзі. Многае змянілася, але месца, дзе ўпершыню Люба сустрэла Міколу, людзі паранейшаму называюць Любін бор. Засталася і сцяжынка, па якой Люба бегала на спатканне з Міколам. Яе так і называюць – Любіна сцяжынка. Там, дзе падалі слёзы зняслаўленай дзяўчыны, прабіліся крыніцы. Яны і дагэтуль наталяюць смагу сваёй студзёнай вадой. Ад гэтых светлых крыніц узяла свой пачатак рэчка, якой мясцовыя жыхары далі мілагучную назву Любанка. А па абодвы яе берагі вырасла вёска **Любонічы.**



У старадаўнія гады паміж балота цякла маленькая рачулка. Побач з ёй невялікі пясчаны ўзгорак. І вось на гэтым узгорку з'явіўся чалавек. Хто ён? Мы не ведаем, але ён быў. Ён цвёрда стаў на гэты ўзгорак, аглядзеўся. Побач вада, лес. А там, дзе ёсць вада і лес, там ёсць і жыццё. Паглядзеў чалавек на маленькую рачулку і сказаў сабе: "Добрае". Ад гэтага слова маленькая рачулка стала называцца Дабрыца, а вёска, якая вырасла побач, таксама называецца **Дабрыца.**

##  Песні роднага краю 

### "Усе святачкі, усе празнічкі..."

Шырока распаўсюджаны на Кіраўшчыне песні, якія суправаджалі ўсё жыццё селяніна:

**– Ой ты, жаваронaчку,**
Ранняя пташэчку,
Ой, чаго так рана
Із выраю выйшаў?
– Не сам жа я выйшаў –
У мяне пташкі былі,
У мяне пташкі былі,
З выраю ганілі.
– Ляці, жаваронку,
У сваю старонку,
Ой, дзе ты радзіўся,
Там корчык свяціўся.
Там табе вадзіца
Па самы крыліца,
Там табе травіца
Па самы калення.

**Да ляцяць, ляцяць два галубочкі,**
Вясна красна.
Да нясуць да па жалудочку.
Вясна красна.
Дзе жалудочкі палі,
Вясна красна.
Там два дубы сталі.
Вясна красна.

**– Вясна й мая, вясеначка,**
Дзе твая дачка-паненачка?
– Мая й дачка ў садочку,
Шые сарочку ільняную
Свайму міламу, каханаму,
Шые сарочку пласконную
Свайму міламу бяздольнаму.

**А на першы дзень на Вялікадня,**
А зялёны явар кудравы!
Ішлі хлопцы, добрыя малойцы,
Ішлі ж яны дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
А ўсё вулкай ды мяцёнаю.
Сустрэлі ды яны госпада Бога,
Госпада Бога, Духа Святога.
– Ах, Божа, Божа, укажы нам дарогу
К стараму сялу, к новаму двару,
К новаму двару, к пану Івану.
– А ці ж вы яго не знаеце,
Што ў госпада Бога ды пытаеце?
Яго дварэц знакамісценькі,
Знакамісценькі й жа дом чысты й жа,
На крыжатку сокал сядзіць,
Сокал сядзіць, рана папявае,
Рана папявае, пана пабуджае:
"Устань, устань, пане Іване,
Адчіні вакно, зірні ў гумно,
Што ў тваім гумне да з'явілася –
Свянцоная прошча станавілася.
А ў той прошчы ўсе святачкі,
Усе святачкі, усе празнічкі
Сабіраліся, рыхтаваліся,
Катораму святу напярод ісці.
Святое Ражство напярод пайшло,
Святы Вялікдзень з красным яечкам,
Благавешчане з новаю сахою,
З новаю сахою завораваць.
А Ушэсце жыта ўсыпае,
Святая Тройца жыта раўнуе,
Дзесятуха краску абівае,
Святы Пятрок пяткі ўкладае,
Святая Ілля жыта дажынае",
А Барысе – сам бараніся,
Дробныя святачкі, насіце снапочкі.



**Валачобнікі валачыліся,**
Зялёны явар, кудравы!*
Валачыліся, памачыліся,
Зайшлі ж яны, пасушыліся.
А ўсім бабка дала па яечку,
Адной сіраце ды не дасталася.
Пайшла сірата заплакаўшы,
Заплакаўшы, не падзякаваўшы.
– Вярніся, сірата, вазьмі сабе парася,
Вярніся, сірата, вазьмі сабе курку,
Вярніся, сірата, вазьмі сабе жарабя.
– Няхай твае жарабя ваўкі з'ядуць,
Няхай твае парася ў хлеве здохне,
Няхай тваю курку каршуны задзяруць.

** Паўтараецца пасля кожнага радка*



**А ішлі, прайшлі валачобныя,**
Вясна-красна на ўвесь свет!*
Валачобныя – людзі добрыя,
А яны ішлі да дарогаю,
Да дарогаю, да шырокаю.
А яны ішлі, валачыліся,
Валачыліся, намачыліся,
Зайшлі к бабцы, пасушыліся.
– Ой ты, бабка, паварачуйся,
Да ідзі, бабка, да ў клетачку,
А прынясі, бабка, пшоны пірог,
Сыр на тарэлку і кварту гарэлкі.
Да нясі, бабка, да па пары яец,
Да па пары яец усім валачобным,
Усім валачобным да людзечкам добрым.
Валачобныя да співаліся,
Да бутылачкай падзяліліся,
А старой бабкай пахваляліся.

** Паўтараецца пасля кожнага радка*



А гэты карагод вадзілі ў вёсках Кіраўскага раёна на Вялікдзень.

**– А мы ляда капалі, капалі,**
Вяне, вяне мая рутачка, жоўты цвет!
А мы проса сеялі, сеялі, жоўты цвет!
– А мы ваша проса вытапчам, вытапчам, жоўты цвет!
– А чым жа вы вытапчыце, вытапчыце? Жоўты цвет!
– А мы коней выпусцім, выпусцім, жоўты цвет!
– А мы вашых коней забяром, забяром, жоўты цвет!
– А чым жа вы выкупіце, выкупіце? Жоўты цвет!
– А мы вам дадзім сто рублей, сто рублей, жоўты цвет!



**А з-пад лесіку,**
Лесу цёмнага,
Ой лі, ой, люлі.
Лесу цёмнага.
Што з-пад садзіку,
З-пад зялёнага,
Там ішлі-прыйшлі
Да два малайцы.
А з-пад лесіку,
Лесу цёмнага,
Ой лі, ой, люлі.
Лесу цёмнага.
Да два малайцы,
Оба холосты,
Яны шлі – прыйшлі,
Станавіліся.
А з-пад лесіку,
Лесу цёмнага,
Ой лі, ой, люлі.
Лесу цёмнага.
З краснай дзевачкай
Пабраніліся:
– Ты дзяўчоначка,
Ты прыкрасная,
Твая доля
Разняшчасная.
А з-пад лесіку,
Лесу цёмнага,
Ой лі, ой, люлі.
Лесу цёмнага.



**У нядзелю на таржочку, ей, я гуляла –**
Эй, верацёнок на рубель накупляла,
Эй, верацёнок на рубель накупляла.
Як устала ў панядзелак да работы,
Эй, да й напрала я тры нітачкі таненькі,
Эй, да й напрала я тры нітачкі таненькі.
Як устала я ў аўторак, эй, да работы,
Эй, утамілася, бедная, аж да поту,
Эй, утамілася, бедная, аж да поту.
А ў сераду на стаянцы я сядзела,
Ой, а ў чацвер у садочку я хварэла,
Ой, а ў чацвер у садочку я хварэла.
А ў пятніцу ўсе людзі тыя пралі,
А ў сыботу радзімачку ўспаміналі,
А ў сыботу радзімачку ўспаміналі.
А ў нядзелю на вяселле ды й пазвалі,
А ў нядзелю на вяселле ды й пазвалі.

**Сіва, раба і зязюленка, віно,**
А віно ж, віно зеляно!
Усе садочкі пааблетвала, віно,
У адным садзіку да й не бывала, віно,
А ў тым садзіку стаіць кузенька, віно,
А ў той кузеньцы тры кавальчыкі, віно.
– Тры кавальчыкі, родныя брацейкі, віно,
Скуйце мне да тры радасці, віно,
Першая радасць – залаты вянок, віно,
Другая радасць – срэбраны персцень, віно,
Трэцяя радасць – залаты кубак, віно,
Залатым вянком вянчаціся, віно,
Срэбраным пярсцёнкам абручаціся, віно.



**– Зайдзі, зайдзі, месяц, за круту гару,**
А я з табой, Марусенька, трошку пастаю.
Рад бы, рад я з табою, Марусенька, пастаяць,
Але не вяліць бацька з маткай цябе бедну браць.
– Раз не вяліць бацька з маткай мяне браць
Паязджай на Ўкраіну багацей шукаць.
– Усю краіну я аб'ехаў, сёлы, гарады,
Але нідзе такой не відзеў, як ты, сіраты.
З Украіны я вярнуўся, чую званы б'юць.
Гэта, верна, маю мілку хараніць вязуць.
Раступіцесь, добры людзі, дайце месца стаць.
Расцалую, нежывую болей не відаць.



**На моры вутка купалася**
Да на беражочку сушылася.
Дачка ў маткі журылася –
Матка на вулку не пускала
Да ў каморачку замыкала.
Да ў каморачцы вакеначка,
На вакеначцы кватэрачка.
Суну, пасуну кватэрачку,
Гляну, пагляну ў акенца.
Усе дзевачкі вулкі мятуць,
Пад бярозаю не мецена.
Стаіць Васілька з торгам,
З торгам, з чорным шоўкам.
Усім дзевачкам распрадае,
Сваёй Галіне дарма дае.
Усім дзевачкам на ўплеткі,
Сваёй Галіне на падвескі.

**Як пайду я маладая,**
Да й ў рэчку па ваду.
Эй, пастаўлю я вядзёрушкі
Пад крутою гарою.
Эй, сама пайду на той бераг
Перавозчыка гукаць:
– Эй, перавозчык, белмалойчык,
Перавязі на той бок.
Ох, не пачуў жа перавозчык,
Ды зачула родна маці.
Ох, адчыніла й ваконачка,
Стала донечку гукаць:
– Эх, хадзі, доня, хадзі, шэльма,
Ка мне ночку начаваць.
– Не пайду я к табе, маці,
К табе ночку начаваць.
Эй, было табе, родна маці,
За п'яніцу не аддаць.



**Ой, пайду я каля рэчкі,**
Паламаю я каліначкі.
Пакідаю на дарозе,
Сама сяду пры бярозе.
Будзе ехаць мой татачка,
А каго ж ён пашкадуе:
Ці зялёну каліначку,
Што без пары заручана?
"Не жаль цябе, каліначка,
Што зялёна паламана.
А жаль цябе, маё дзіця,
Што малада заручана,
Што малада заручана,
Заручана й замучана.
Заручана за сталамі,
Замучана за жарнамі,
Заручана на покаці,
Замучана ля постаці".



## Прыкметы і павер'і

Яшчэ дагэтуль у Кіраўскім раёне бытуе шмат прыкмет і павер'яў.

### На Новы год (14 студзеня)

- У дзень Новага года трэба пачаць якую-небудзь работу, каб у ёй быў поспех на наступны год.
- Калі ў мінулым годзе не ўрадзіла вішня, трэба на Новы год яе добра патрэсці.
- Гаспадыні вельмі баяцца што-небудзь разбіць – гэта азначае наклікаць на сябе бяду на ўвесь год.
- На новы год не ходзяць у магазін, каб не быць увесь год бедным
- На новы год не абрэзваюць пазногці, спадзяваючыся не парэзаць рук ці ног на працягу ўсяго года.

### На Юр'еў дзень

На Юр'еў дзень не выпускалі курэй, пакуль не высахне раса, а скаціну наадварот – выганяюць на досвітку, абавязкова вярбой, з якой былі ў царкве ў вербную нядзелю. Але скаціну не пакідаюць у полі, а толькі пераганяюць праз яго і гоняць дамоў. Гэту вербу трэба ўтыкнуць у хлеве, каб злы дух не пашкодзіў скаціне.

### На вяселле

Перад шлюбам маладой даюць капейкі, каб маладыя не ведалі недахопу, і цукар, каб жыццё было салодкім. У царкве маладая павінна трымаць мужа пад руку, каб ніхто паміж імі не прайшоў. Колькі дзетак хоча мець маладая, столькі зярнятак ячменю павінна накласці сабе пад пятку. Каб ніхто не змог сурочыць, маладая павінна ўсё вяселле насіць з сабой галоўку цыбулі, альбо часнаку. Дрэннай прыметай лічыцца для маладых, калі бацькі ладзяць вяселле на пазычаныя грошы – маладыя будуць адчуваць нястачу. Ды і само жыццё не будзе доўгім.

### Цяжарнасць. Нараджэнне дзіцяці

Цяжарная не павінна хадзіць па кумах. Інакш немаўлятка будзе хварэць. Пры пільнай патрэбе цяжарная кума павінна трымаць хрэсніка ніжэй свайго жывата. Цяжарная не павінна ні садзіцца, ні спыняцца на парозе – будзе цяжка раджаць. А таксама не павінна прышываць на сабе гузікі, зашываць на сабе адзенне.

Каб мець прыгожае дзіця, гаспадыня, прыбіраючы са стала, не выкідвае крошак, а з'ядае іх. Цяжарная не павінна піць гарэлкі, красці і г.д. Інакш дзіця вырасце п'яніцай,

злодзеем і г.д. Калі народзіцца дзяўчынка, то яе захінаюць у бацькаву кашулю. Калі хлопчык – то ў матуліну. Гэта робіцца для таго, каб дзіця было шчаслівым.

### Пахаванне

Калі паміраe муж і астаўляе жонку або жонка мужа, у нябожчыка расшпільваюць каўнер кашулі, каб таму, хто застаўся, лягчэй было выйсці замуж або ажаніцца. Адразу пасля смерці гаспадара старэйшы з сям'і па чарзе заходзіць ва ўсе гаспадарчыя памяшканні, і, стаўшы ў дзвярах, кажа: "Няма ўжо болей (конікі, курачкі і г.д.) вашага гаспадара (гаспадыні)". Гэта робіцца для таго, каб нябожчык (асабліва калі ён быў скупы) не забраў усю скаціну з сабой.





## КЛІМАВІЦКІ РАЁН

### Песні роднага краю

**Хацела маці сына жаніці –***
Маці для сына піва варыла,
А для нявестушкі – горкай атруты.
Сын піва не п'е – атруту бярэ,
Сын атруціўся, з каня зваліўся,
А нявестушка з таскі ўмерла.
"Палажыце мяне каля цэркві,
А жану маю – на другом баку.
Пасадзіце на мне зялёны явар,
На жане маёй – белую бярозу".
Як шла маці Богу маліцца,
Як заглянула, як заплакала:
"Знаць, мае дзетачкі верна любіліся –
Через цэркву сашчапіліся".

** Кожны радок паўтараецца двойчы*
*(Баладная, зап. у в.Недзведзь)*

**Ой, зелена, зелена ў лузе трава.**
А чаго йна зелена –
Што блізка вада,
Не збіта, не стаптана,
Слядочкаў няма.
Ой, хараша малада, малада ўдава.
А чаго йна малада, –
Што мужа няма.
Не збіта, не зтурана,
Дзетачак няма,
Любіла парнішку
Семнаццаці лет.
Такого харошага ва ўсім свеце нет.
Ой, зелена, зелена ў лузе трава.
А чаго йна зелена –
Што блізка вада.

*(Зап. у в.Недведзь)*



**Няпраўдзівая каліна***
Казала: "Цвісці не буду,
Белага цвета не пушчу,
Крупну ягаду я не ўраджу".
Як прыйшла вясна, зацвяла,
Беленькі цвяток пусціла,
Крупну ягаду ўзрадзіла.
Няпраўдзівая Галіна
Казала: "Замуж не пайду,
Маладога Колечку не ўзлюблю,
Дробных дзетачак не ўзраджу".
Як прыйшлі сваты, дык пайшла,
Маладога Колечку ўзлюбіла,
З ім па вуліцы хадзіла,
Усіх рабят яна гудзіла.
А ўсе рабяты гарбаты,
А мой міленькі лучше ўсіх –
І красіў, і харош, і прыгож.

** Кожны радок паўтараецца двойчы*
*(Баладная, зап. у в.Іванава Слабада)*



**Дзеўка са двара з'язджала –**
У бярозе вяршок заламала*
Расці, бяроза, без верху,*
Жыві, мая мамачка, без мяне,
Без маёй касы, без русай,
Без майго громкага голасу,
Без майго громкага голасу,
Без майго крупнага воласу.

** Кожныя два радкі паўтараюцца двойчы*
*(Зап. у в.Недведзь)*



**Ой, да ты, пташка, канарэйка***
Ой, што так рана з выр'я вылятаеш,
Ой, ці ты свайго гняздочка не маеш?
"Ой, хоць і маю, дык не сагрэю.
Ой, звіла ж бы я гняздо пры дарозе,
Ой, пры дарозе на белай бярозе.
Ой, ды баюся, што дзетачкі зрубяць,
Ой, яны пташку-канарэйку згубяць".

** Кожны радок паўтараецца двойчы*
*(Зап. у в.Барысавічы)*

 Прыказкі, прымаўкі і выслоўі 

Абы да душы – пражывеш і ў шалашы.
Ад людзей схаваеш, ад Бога – не.
Ад пустога звону карысці нікому.
Адна галава на век.
Бабу бі молатам — зробіш золатам.
Беднаму Кузьме горка ўсюды.
Будзе дождж ісці – будзе хлеб расці.
Веку мала, а гора многа.
Вышэй паднімешся – бальней будзе падаць.
Гультаю заўсёды свята.
Гуляючы, розуму не прыдбаеш.
Гэта плёткі чужой цёткі.
Дае Бог дзень, дае і пішчу.
Жаніцца – не мёду напіцца.
Жыўшы ў лесе, дроў не купляюць.
З гультаём ажаніцца – лепей задавіцца.
З красівага ліца не спячэш блінца.
За добрым мужыком і чуліндра жонка.
За мужа завалюся, нікога не баюся.
І ў дзвары, і замужам.
Ліхога любіць – сябе губіць.
Любі Якава, ды не ўсякага.
Любіць – не сена касіць.
Мала снегу – не будзе хлебу.
Малады конь, ды нораў стары.
Маленькі сабака да веку шчанок.
На беднага Макара ўсе шышкі валяцца.
Не адну пару чорт лапцей стаптаў, каб іх у кучу сабраць.
Не бяры, калі не лажыў.
Не глядзі ў чужы бок, а глядзі ў свой куток.
Не маеш веры – не бажыся.
Не навучыць бацька – навучыць гора.
Не так бойся чорта, як ліхога чалавека.
Не шукай гора – яно само цябе знойдзе.
Не хваліся, пражыўшы з мужам тры дні, а пахваліся ў тры гады.
Не чакай з неба дараванага хлеба.
Ніхто не ведае, як сірата абедае.
Паганыя вочы дыму не баяцца.
Пamaліся Богу, калі ідзеш у дарогу.
Парачка – баран ды ярачка.
Пусці казла ў агарод – усю капусту паесць.
Сабака віляе хвастом, а ты – языком.
Сам харош, ды розуму ні на грош.
Свайго гарба ніхто не бачыць.
Сласны кусок знойдзе куток.
Старасць – не радасць, а смерць – не пацеха.
Сыты галоднаму не спачувае.



У лянівага косці не баляць.
Усе старухі – сварухі.
Хай яно ўсё струпехнець.
Хахлатыя куры дваром вядуцца.
Хлеб ды вада – голаду няма.
Хоць гарбаты, ды багаты.
Хоць за плута – абы тута.
Хочаш нажыць ворага – пазыч грошы.
Хто б чорта пазнаў, каб не яго рогі.
Хто не ляніцца, той сваёй працай ганарыцца.
Чалавек без мары, як хата без вакон.
Чужую бяду па воласу развяду, а сваёй рады не дам.
Чуў звон, ды не ведаў – з якой царквы.
Шануй старое, як дзіця малое.
Што ў ваду ўпала, тое пішы – прапала.
Я за сваю Кузьму каго хочаш вазьму, а ты сваю Арынку павадзі па рынку.
Як з крыжа зняты.
Як няма шчасця, няма і долі.
Як чорт у хату ўселіцца – гаспадар з жонкай дзеліцца.

 Як размаўляюць вяскоўцы 

Буцян – бусел
Вязёнкі – рукавіцы
Гусцякі, таўчонка, тапчонікі, камы – бульбянае пюрэ
Дрюбшэнь – зацірка
Жарэнікі – смажаная бульба
Заселю – зачарпну
Зашэрала – заінела
Зенкі – вочы
Іціць – ісці
Калакалуша – чаромха
Капаніца – цяпка
Кардошкі – бульба
Каснікі – тонкія стужкі для заплятання кос, а таксама плоская трава
Кацелкі – карзінкі сланечніка
Квасоль – фасоля
Купэла – невялікае возера сярод вёскі
Курапа – жаба
Марахоніць – казаць абы-што
Масол – костка
Махнытка – галавешка
Прасла – забор, паркан, зроблены з жэрдак
Слапном – омлет
Слончык – малая скамейка
Тавот – салідол
Топка – лазня
Тпрутка – цяля
Трысценак – сенавал
Туняшкі – трухлявае дрэва
Фортка – калітка
Цалкі – цэлая вараная бульба
Цапок – прут, палка
Чальчак – малое парася
Чапяла – ухват
Шантроплі – ношаныя тапкі.



# КЛІЧАЎСКІ РАЁН

## Легенды і паданні

### Адкуль пайшлі назвы мясцін

### Клічаў

Вось якая існуе легенда аб паходжанні Клічава. Даўным-даўно, калі лясы былі надзвычай багаты ўсялякай жыўнасцю, грыбамі і ягадамі, у паўнаводнай Вольсе было шмат рыбы. З'явіўся ў гэтых мясцінах адстаўны капітан. Звалі яго Кліч. Прыехаў ён з маладой прыгажуняй жонкай. Кліч пабудаваў сабе хаціну на беразе Вольсы, а вакол пачалі сяліцца людзі. Амаль кожную раніцу накіроўваў Кліч свой човен уверх ці ўніз па рацэ, лавіў рыбу. Іншы раз ён хадзіў на паляванне за раку, а ўвечары на беразе сустракала яго жонка.

Аднойчы пачалася моцная навальніца, і хвалі ракі перавярнулі човен. У той вечар прыгажуня жонка не дачакалася свайго Кліча. Кожны дзень яна выходзіла на бераг ракі і клікала: "Кліч! Кліч! Вярніся!" З тых даўніх часоў і пачалі людзі называць сваё паселішча Клічавам.

### Як узнікла рака Лень

Гэта легенда аб утварэнні назвы вёскі Віркаў.

У даўнія часы тут шумеў цёмны дрымучы лес, які працягнуўся на сотні кіламетраў. І нават жыхары вёскі Лянёўка, што прытулілася на адной з лясных палян, не ведалі, дзе пачатак і дзе канец гэтага непралазнага лесу.

Каля вёскі працякала шырокая паўнаводная рака Лень. Так яе называлі таму, што вада ў ёй была мутная, а цячэнне – павольнае. На ўскрайку вёскі, бліжэй да ракі і лесу, стаяла нізенькая касабокая хатачка з саламянай страхой. Тут жыла Марфа-бяднячка, а з ёю – сын Васілёк.

Васілёк быў смелы, адважны, дужы і прыгожы хлопец. Цэлымі днямі хадзіў ён з торбай і самаробным лукам па лесе, паляваў на дзікіх звяроў і птушак. Гэтым яны і жылі. Як толькі зямлю ахутваў змрок, і ў хатах сялян загараліся лучыны, дзверы ў хату без скрыпу адчыняліся і адтуль з вяслом у руках выходзіў Васілёк. Асцярожна, азіраючыся па баках, ішоў ён да ракі, дзе стаяў яго човен. Праз якую-небудзь хвіліну човен плыў ужо ўніз па рацэ ўздоўж лясных берагоў. Але нарэшце лес расступіўся, і ўдалечыні паказаўся палац пана Дардымонта, якога сяляне за здзекі празвалі Лютым. Вокны ў палацы былі асветлены дзесяткамі агней.

Човен ціха прыстаў да берага. Васілёк ідзе ў бок палаца і, пераскочыўшы праз сцяну, прытаіўся за густым кустом шыпшыны. Раптам пачуліся павольныя крокі, і сярод кустоў узнікла постаць дзяўчыны. Гэта была дачка пана, прыгажуня Алёна. Аднойчы, збіраючы кветкі на лузе, яна сустрэлася з Васільком. І, захапіўшыся яго прыгажосцю, пакахала хлопца шчыра і назаўсёды.

– Алёна! – ціха заве юнак, і дзяўчына кідаецца ў абдымкі свайго каханага. Іх гарачыя вусны зліваюцца... Ніхто не ведае аб іх каханні, толькі дрэвы ды ціхая рака былі сведкамі іх пачуццяў.

Але здарылася няшчасце. Аднойчы да пана прыехалі госці з суседняга маёнтка. Сярод іх быў сын багатага шляхціча Ягелы. Доўга піравалі госці, віно лілося ракой. Тут, за сталом, і рашылі сябры, што пан Дардымонт аддасць Алёну замуж за сына Ягелы.

Горка плакала Алёна: не хацелася выходзіць замуж за нялюбага. Увечары да Алёны зноў прыехаў Васілёк. Са слязамі на вачах расказала яму дзяўчына пра няшчасце, якое здарылася.



– Любы мой, – гаварыла яна, абвіўшы яго шыю рукамі, – я лепш памру, чым стану яго жонкай.

І гарачыя слёзы патокам ліліся з яе прыгожых вачэй.

– Алёна, не плач! – суцяшаў яе Васілёк. – Я забяру цябе з сабою. Без цябе я жыць не магу.

Пабег быў назначаны на наступную ноч. Але шчасце не спадарожнічала маладым. Калі Васілёк і Алена былі ўжо ў чоўне, у палацы раптам падняўся страшэнны шум, людзі збегліся ў парку з факеламі ў руках. Азірнуўся Васілёк і зразумеў – паратунку няма: па рацэ да іх плылі чоўны, ў якіх сядзелі прыбліжаныя пана.

– Што рабіць, Алёнушка? – упаўшым голасам спытаў Васілёк.

– Лепш памерці, чым трапіць да іх у рукі, – адказала яна.

А чоўны ўсё набліжаліся. У апошні раз пaглядзеў Васілёк на сваю каханую, пацалаваў у гарачыя вусны і ... налёг на край чоўна. Той перакуліўся, і вада праглынула двух каханых.

Даведалася аб смерці сына Марфа-бяднячка, і чорны смутак агарнуў яе душу. Кожны дзень і кожную ноч хадзіла яна па беразе ракі, валасы яе былі растрапаныя, кудлатыя. І людзі чулі яе жалобны, плачучы голас: "Васілёк, адгукніся, любы сынок". А Васілёк не адгукваўся... Аднойчы хвалі ракі вынеслі на бераг цела Марфы-бяднячкі.

Жыве ў народзе легенда, што кожны раз апоўначы на бераг ракі выходзяць у белым душы Васілька і Алёны. Яны садзяцца пад вялікі дуб і, абняўшыся, каханыя горка плачуць. З тае пары людзі баяліся падыходзіць да ракі. Паступова рака пачала мялець, зарастаць мохам, і, нарэшце, зусім знікла.

Гэта толькі легенда. Рака Лень калісьці сапраўды працякала па тэрыторыі Клічаўскага раёна. Старыя расказваюць, што гадоў трыццаць таму назад было рэчышча, а зараз яно зарасло мохам і хмызняком. Колькі год таму знайшлі на гэтым месцы абломак баржы, на якой была дата 1700 год. Знаходзілі тут і іншыя цікавыя рэчы, якія сведчаць аб існаванні старажытнай ракі Лень.

### Патока

Вядомы два тлумачэнні паходжання назвы вёскі Патока. Адно з іх такое: даўней на цяперашнім месцы вёскі Патока стаяла пчалярня польскага пана Патоцкага. Пчол трэба было на зіму падкармліваць, і людзі, што тут жылі, варылі салодкую ваду – патаку. Нібы ад гэтага слова і пайшла назва вёскі.

Другая легенда запісана са слоў былой жыхаркі вёскі Патока Н.М.Дзеравяшка. Расказвала яна пра свайго дзеда, які быў леснікам у пана Патоцкага. На месцы цяперашняй піларамы стаялі панскія дачы, а побач жыў ляснік. Пан прыязджаў на дачы заўсёды зімой, а разам з ім прыязджалі іншыя людзі; разам яны палявалі на дзікіх жывёл. У адносінах да лесніка пан быў шчодры; сына лесніка ён аддаў вучыцца, і той стаў гусарам. У 1812 годзе пан Патоцкі кінуў свае дачы і ўцёк у Польшчу ад паўстаўшых сялян. Праязджаючы мост цераз раку Вольсу, залачоная карэта, поўная ўсялякага дабра, перакулілася, ўпала ў рэчку і патанула. А сам пан да Беразіно дабіраўся на чым папала.

### Дзмітраўка

Да 1884 года тэрыторыя сучаснай вёскі Дзмітраўка належыла памешчыку Дзмітрыю Дзмітрыевічу Захараву. У той час недалёка ад вёскі Віркаў стаяў маёнтак памешчыка Віталія Когана, у якога была дачка. Калі ёй споўнілася 18 год, бацька вырашыў аддаць яе замуж. Але ніхто паненку не браў. Тады бацька аб'явіў, што аддасць палову свайго маёнтка таму, хто возьме яе замуж. Тады Дзмітрый Захараў вырашыў жаніцца на дачцэ памешчыка Когана. У іх нарадзіліся чатыры сыны і адна дачка. У гонар сваіх сыноў памешчык Захараў кожнаму паселішчу даў назву. Паселішчы Анатолеўка, Аляксееўка

і Дзмітраўка-1 былі названы ў гонар сыноў, а Дзмітраўка-2 – у гонар бацькі. Іменем дачкі Вольгі названа веска Вользіна Дубраўка, бо паблізу была дуброва.

## Песні роднага краю

**“Ой, рэчанька, рэчанька”,–**
Заспявала дзеванька.
“Ай, люлі, люлі, люлі”, –
Заспявала дзеванька.

А таму, што малада,
Вішняй расцвіла ў садах.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Вішняй расцвіла ў садах.

“А таму, што ўсюды май”, –
Адказаў ёй рэхам гай.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Адказаў ёй рэхам гай.

А таму, што вочы сіні,
Пакахаў яе хлапчына.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Пакахаў яе хлапчына.

Чарнабровы і прыгожы,
Плытагон на сінім Сожы.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Плытагон на сінім Сожы.



### *Вясельныя песні*

**Заручоначка-дзеванька,**
Перайду новыя сені,
Падай свекру вадзіцы
А з халоднае крыніцы.
– Ах, нявеста, мая лябёдка,
Мне ж твая вадзіца халодна,
Саладзей за мёду, за віна,
За таго пшанічнага пірага,
За таго яблычка садавога,
За таго жанішка маладога.

**Разлягайцеся, горы,**
Раўняй, Божа, дарогі –
Дзевачка да вянца ідзе,
Яе доля напярод ідзе.
– Ой, ты доля, да ты долечка,
Калі ты добрая доля,
То садзіся са мною,
І паедзем з табою.
А калі доля ліхая, –
Дык плыві ты з вадою,
А я, малада, за табою.
Адказала ёй доля:
– Мы ж толькі яго паглядзім
І свату назад аддадзім.

### *Жніўная песня*

**А я ў полі жыта жала,**
У мяне ў доме шкода стала –
Скінулася свякрушка
З высокага тыну
У жытную крапівачку.
Крапіву паламала.
Не жалка мне свякрушкі,
А жалка мне крапівачкі.
Свякрушка была і будзе,
А крапівы век не будзе.
А я ў полі жыта жала,
У мяне ў доме шкода стала –
Скінулася мая мамка
З высокае грушычкі
У пуховыя падушачкі.
Не жалка мне падушачкі –
Падушачкі былі і будуць,
А мамы век не будзе.



## Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Адзін сын – не сын, два сыны – паўсына, а тры – цэлая гаспадарка.
Без сонейка свету не быць, без мілага нельга жыць.
Бяда ды мука – тая ж навука.
Гаспадар і баба – адна рада.
Гаспадарку весці – не штанамі трэсці.
Голад гоніць на холад.
Гэты свет, як макаў цвет – зранку расцвітае, а да вечара ападае.
Добрае помні, злое забывай.
Жыццё пражыць – не лапці сплесці.
Зямля – маці, а праца – бацька.
Іншая рада – горш, як здрада.
Іншы горад – іншы гонар.
Калі сказаў бабцы, то як усёй грамадцы.
Каля поўнай міскі шмат сяброў.
Лепш у сваёй хатцы, як у чужым палацы.
Многа дзяцей – многа клопату, але і радасці шмат.
На адзін цвік усё не павесіш.
Навошта той клад, калі дзеткі ідуць у лад.
Надвое бабка варажыла – ці памрэ, ці будзе жыва.
Не будзь ласы на чужыя каўбасы.
Не кожнаму разумнаму добра жывецца.
Не радуйся чужой бядзе, бо свая ззаду ідзе.
Не так рады прыходу, як адходу.
Паздароў, Божа, паноў, што ў нас няма ні коней, ні кароў.
Памяняў плеш на лысіну.
Пачнеш ляніцца – будзеш з торбай валачыцца.
Свая хатка – як родная матка.
Сон на заўтра адкладзі, а справу сёння зрабі.
Старая баба і ў Пятроўку на печы мёрзне.
Сялянская хата працаднямі багата.
У добрых бацькоў і дзеці добрыя.
У родным краю, як у раю.
Усякаму сваё шкада.
Усякі сабе харошы.
Хлеб будзе, дык і ўсё будзе.
Хоць я не багат, а гасцям рад.
Хто не мае шчасця зранку, то не мае да вечару.
Цераз хлеб крошкі не збіраюць.
Шануй людзей, то і цябе пашануюць.
Што хата мае, хай усім прымае.
Як свой кут маю, дык нічога не дбаю.
Якая ў гаспадыні справа, такая ёй і слава.
Які тут закон, калі суддзя знаком.
Якія штаны, такія і падвязкі.



 **КРАСНАПОЛЬСКІ РАЁН** 

 **Легенды і паданні** 

**Баннік**

*(Зап. у с.Палуж ад селяніна Мікалая Паўлава)*

У Чудзянах пайшла дзеўка замуж за старыка. І ніяк яна не звала яго, як стары чорт, вэдлуг, шутак. Нарадзіўся ў іх хлопчык. Ну, пайшла яна ў лазню і хлопчыка ўзяла. І гавора старыку:

– Я ж, – гавора, – пасля лазні аслабею, дык ты, стары чорт, прыдзі і вазьмі хлопчыка. Пад лазнею пасадзі, я гукну цябе, ты й панясеш яго дамоў.

Ну, пайшлі ў лазню, яна туды-сюды яго скарэй абмыла, дзверы расчыніла:

– Ці тут ты, стары чорт?
– Тут!
– Ну, на ж, вазьмі яго.
– А давай, давай.

Яна аддала, ён і панёс. Стала тады яна мыцца, а мужык прыходзе і кажа:

– Прося, давай хлопца. Нешта ты доўга яго мыеш?
– Якога хлопца? Я ж табе аддала.
– Калі?

Стала ёй ета жалка, і яна абрабела. Прыходзе дамоў – няма хлопца. Туды- сюды – так і панoніча няма. Аддала старому чорту, ведама, банніку.

 **Песні роднага краю** 

**Ой, цёшча зяця на вячэрю ждала,***
Беленькі сафон на пасцелю слала,
Шамнулі вазочкі на дварэ,
– Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
– Па цябе, дачушка, па цябе.
– Сабірай, мамачка, кублы мне.

**Кожны радок паўтараецца двойчы*

*(Зап. у в. Пачапы*
*ад Столяр Веры Раманаўны)*

**Стукнула, грюкнула ў дваре,**
– Паглядзі, мамачка, ці не па мяне?
– Па цябе, дачушка, па цябе.
Па твае тонкія галасы,
Па твае длінныя валасы,
Па твае пуховыя падушкі,
Па твае новыя дзярюжкі.

*(Зап. у г.п.Краснаполле*
*ад Ліпінскай Людмілы Уладзіміраўны)*



**Дадому, госцейкі, дадому,**
Паелі конікі салому.
Горькая редзечка ў гародзе,
Заснуў Іванька ў дарозе.
Пад яго рэчачка падцякла,
Да яго мілая падыйшла.
– Устань, Іванька, прасніся,
Чыстаю вадою ўмыйся.
Чыстаю вадою ўмыйся,
Белай хустачкай утрыся.
– Я умыюся расою,
Абатруся я крысою.
Дадому, госцейкі, дадому,
Паелі конікі салому.

*(Зап. у г.п.Краснаполле*
*ад Ліпінскай Людмілы Уладзіміраўны)*



**Халодная восень наступае,**
Не йдзі, дзеўка, замуж маладая.
З белбярозкі лісток ападае,
Будзе твая долечка благая:
Будзе ў цябе свякруха ліхая,
Будзе ў цябе дзевярочкаў многа,
А роднага не будзе.

*(Зап. у 1968 г. у в.Лютненская Буда*
*ад Е.Пухнатавай)*



**Восень халадная, восень халадная,**
Восень наступае, восень наступае,
Ішла дзеўка, ішла дзеўка
Замуж маладая, замуж маладая.
Будзе ў цябе, будзе ў цябе
Дзіця малое, дзіця малое.
Будзе ў цябе, будзе ў цябе
Свякроўка ліхая, свякроўка ліхая.

*(Зап. у 1968 г. у в.Горы*
*ад Насты Гомаравай, 1903 г.н.)*



**Ой, белая бярозачка**
Бялей майго цела.
Не аддаў мяне, татачка,
За каго я хацела.
Жыву гадок, жыву другі,
На трэці ступаю.
Ніхто ў мяне, бяздольніцы,
У гасцях не бывае.
Ці сцежачкі не ведае,
Дарожкі не знае?
Сцежачка ў варóцецы,
Дарожка ў аконца,
Прыдзі, прыедзь, мой татачка,
Як яснае сонца.
А я табе, татулечка,
Вячэру згатую,
Пад цясовым аконцам
Пасцельку пасцялю.
– Чаму, чаму, мой татачка,
Усю ноч не засыпаеш,
Праз цясовае аконейка
На двор пагдядаеш?
– Ой, цяжанька мне, трудненька
Тут ноч начаваці.
– А як жа мне, мой татачка,
Тут век векаваці?

*(Зап. у 1968 г. у в. Дуброўка)*

***Жартоўныя песні***

**Свякровачка журлівая,**
На баране прабілася.
Не жаль жа мне свякроўкі,
А жаль жа мне баронкі.
Свякроўка ў сваім доме,
А баронка ў полі.
Свякроўка хварэць будзе,
А баронка араць будзе.

*(Зап. у 1971 г. у в.Загарэнне*
*ад З.Ц.Марчанкі)*

* * *

**У нядзелю на таржочку,**
Ой, гуляла,
Эй, верацён на рубель
Накупляла.
Ад тае работачкі,
Ой, у аўторак,
Эй, напрала танюсенька
Кудзель сорак.
У сераду і чацвер,
Ой, сядзела.
Ой, у чацвер учадзеўшы,
Я хварэла.
У пятніцу ўсе людзі,
Ой, гулялі,
Эй, у суботу радзіначку
Спаміналі.
У суботу радзіначку
Ой, успаміналі,
Эй, а ў нядзелю на вяселле
Дый пазвалі.

*(Зап. у в. Горы ад В. Картузовай)*

**Кацярына грэчку качала,**
Кацярына праўду казала.
У Кацярыны чорныя вочы,
Кацярына хараша да ночы.
А ў мяне муж добры,
А дай Бог яму век доўгі.
Я ж яму кашкі з маслам,
А ён мяне палонікам лямнуў.
Я ж яму пасцель белую сцялю,
А ён мяне галавой аб сцяну.

*(Зап. у в.Палуж ад П.Ф.Пакраценкі)*

### Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Во прырваўся да яды – і за вушы не адцянеш, усё роўна, што тры дні ў хляве стаяў.
Дожджык трусіць, як праз сіта.
Еткага сарвілы і свет не свяціў.
І хочацца, і коліцца, і мамка не веліць.
Лопнуў фарс, прапалі грошы.
Намётка ў прачкі, сарочка ў швачкі.
Не будзь ты такая сярдуня, а то будзеш у мужыка цераз кій скакаць.
Паглядзі свінішча на сваё відзішча.
Расці, расці, жыцейка, каласістае, караністае і ўмалотнае.
Ходзіць, як певень сярод курэй.

### Як размаўляюць вяскоўцы

Беспрыкаяны – беспрытульны. *Беспрыкаяны ходзіць дзядзька. Хай бы хто ўзяў на хватэру (в.Міхнічы)*
Выструб – зруб калодзежа. *Выструб ужо даўно нада перамяніць (в.Жаліжжа)*
Квасоля, квасёл, квасоль – фасоль. *Хведар, ідзі квасёл у хату ўнясі – січас дожч будзець (в.Раманаў).*
Напіта – насцеж. *Хто дзверы адчыніў напіта?*
Нямашака – няма. *Нямашака ў мяне больш (в.Глыбаў)*
Це-це-це! – вокліч, якім падзываюць гусей.
Цежка – гусь. *Вунь пайшлі цежкі (в.Ясенка)*
Цеперься – даўно. *Цеперься ён пайшоў.*
Чума балотная – дрэнны чалавек.
Шлунне – вантробы *(в. Жаліжжа)*





## КРУГЛЯНСКІ РАЁН

### Легенды і паданні

**Адкуль пайшла назва вёскі Прыгані**

Старажылы кажуць, што калісьці на гэтай зямлі жыў пан, у якога было шмат прыгонных і батракоў, і ён з імі не мог справіцца. Тады ён рассяліў іх на дзве вёскі і назваў Прыгані 1 і Прыгані 2, ад слова "прыгонныя", а потым ужо з'явіліся Прыгані 3.

Прыгані вяскоўцы яшчэ называюць Манголіяй. Існуе легенда, якая раскрывае тое, адкуль пайшла гэтая назва.

Было гэта ў часы станаўлення Савецкай улады. У мясцовы Савет з горада прыехаў нейкі начальнік. Яму трэба было дабрацца да Прыгань. Направілі яго людзі бліжэйшай дарогай. Сеў той на каня і паехаў. А шлях яго пралягаў праз поле, з узгорка на ўзгорак, дарога нялёгкая, далёкая. А трэба сказаць, што Прыгані размешчаны ў даліне абапал ракі. Зусім іх не відаць. Ехаў той чалавек, ехаў, спыніўся зусім побач, але не прыкмеціў, вярнуўся. Зноў распытваў дарогу. Далі яму праваднікa. Нарэшце дабраліся. Уздыхнуў той начальнік і кажа: "Ну, зусім як у Манголіі. Скрозь горы." Так і сталі называць тую вёску паміж сабой людзі.

*(Зап. Яроміна Н.І. у 1999 г. у в.Прыгані 1*
*ад Грачыхінай Антаніны Васільеўны, 1914 г.н.)*

### Песні роднага краю

**"А вяселейка нам Бог паслаў..."**

*(Зап. у в.Прыгані ад Пасюковай Пелагеі Сцяпанаўны, 1915 г.н.)*

У суботу перад вяселлем у маладой збіраліся сяброўкі, якія на вяселлі будуць дружкамі. Яны прыбіралі хату, мылі падлогу, плялі для маладой вянок з рутак і прымяралі маладой вясельную сукенку. Пры гэтым спявалі розныя песні:

**Зялёны дубочак, зелянюсенькі**
На абрыў схіліўся,
Малады Толечка ў дарожку заспяшаўся.
У горадзе зялёны гарох паслаўся,
Ой, малады Толечка ў дарожку сабраўся.
Сеў за столікам, за святочненькім,
Горкага віна напіўся,
Ой, за тым вінам да ў дарожаньку спазніўся.
– Паспяшайцеся, быстрыя коні, пад намі,
Да будзем ехаць лясамі, барамі,
А потым яшчэ драўлянымі мастамі.
Каб маладую на пасадзе засталі.
Ой, пакуль русу касу расчэша,
Ой, пакуль бела ліцо ўмые,
Такі ж мы яе русу касу распляцём,
Такі ж мы яе дробны слёзкі разальём.

**1. Сядзела Ґалечка за сталом,**
Паклала ручкі на стале.
Белы мае ручкі ў мамачкі,
А ці будуць яны белы ў свякроўкі,
Сырую пшаніцу мелючы,
Пад гару ваду носячы?
Адказаў ёй там Толечка:
– Не беспакойся, Ґалечка,
Я твае ручачкі адмяню
І пшаніцу сам змялю,
І вадзіцы сам прынясу.

**2.Не думай, Ґалечка, не гадай.**
А лепш, Ґалечка, падумай.
Пераедзеш рэчку і думай –
Чым табе па двару паслаці,
Чым табе свякроўку назваці?
– Халстом па двару пасцялю,
Свякроўку мамачкай назаву.
Гэтым жа я ліха не стану
Я сабе дабраты дастану.



**Ой, пойдзем, пойдзем,**
Маё дзіцятка,
У чужыя людзі.
Там табе ліха будзе:
Там табе сцежачкі невядомыя,
Там блудзіць ты будзеш,
Там суседачкі незнаёмыя,
Яны цябе судзіць будуць.
Ты выйдзеш беленькая, —
Яны скажуць: куслівая.
Ты выйдзеш хмурненькая, —
Яны скажуць: санлівая.
Ты выйдзеш чорненькая, —
Яны скажуць: лянівая.

**Не спіце дома, не спіце,**
А не вячэрайце, нас ждзіце.
А ў нас чужая старана,
Нам вячэраці не дала.
А за вароцікі выгнала,
А дубовым кіём набіла.



**На небе зара разгарэлася —**
Мне к татку ў госці захацелася.
Прасіла мужа, муж не паехаў.
Прасіла каня, каня не далі.
Я ж малодзенька ўсё пяхотаю
К свайму татачку ды з ахвотаю.
Ухажу поле, ухажу другое,
А на трэцяе к татку на двор.
А мой татачка па двару ходзіць,
Мая мамачка ды на ганачку,
А мой братулька улыбаецца,
"Ну, як, сястра, у чужых?" –
Пытаецца.



**А мой татачка, салавеечка,**
А прыедзь ка мне ў нядзелечку.
У новым вазочку па белым сняжочку.
Пасаджу цябе я на куце стала,
А сама сяду радам з табою
І буду табе, татка, жаліцца.
Учора ўвечары ды свёкар набіў,
Сягоння ўранні ды свякровачка.
Пабіўшы мяне, самі гуляць пайшлі,
А на гульні выхваляліся:
"А харашо біці чужога дзіцяці.
Чужое дзіця не спрачаецца,
Толькі слёзкамі абліваецца".

 **"Дай, Божа, нашаму дзіцяці усякую долю ўзяці..."** 

(Хрэсьбіны)

*(Зап. у в.Прыгані ад Грачыхінай А.В., 1914 г.н.)*

Усе запрошаныя на хрэсьбіны неслі з сабой разнастайныя прадукты і што-небудзь для дзіцяці. Калі вярталіся кумы, іх сустракала бабка-павітуха. Госці сядалі за стол, вялі няспешную гутарку, спявалі песні:

**А ў госце, госце сон-трава расцець.**
Сон-трава расцець, жоўты красачкі.
А Прыганскія добрыя жоначкі,
Дзе ксцінкі чуюць, там і начуюць.
А і дзе гарэлачку, там і нядзелечку,
А і дзе мядочак, там і гадочак,
А [і дзе] квасіны, там ні часіны.

**Я б гэту бабку, я б гэту бабку**
І за бабку не браў.
Яна гарэлку ня п'ець
І песен не пяець.
Вазьміце мяне, вазьміце мяне,
Я ж буду і піць, і песні пець.

Напрыканцы хрэсьбіннага застолля падавалі бабіну кашу. Хто даваў больш грошай, той меў права разбіць гаршочак з кашай. Гэта пераважна быў кум. Затым парадзіха раздавала падарункі бабцы і кумам. Пры гэтым жанчыны спявалі песню:

**Да полу, бабкі, да полу,**
Дадуць намётку да долу.
Як таўчы, малоць, — бабка нядужа,
Пад намёткі бабка дасужа.
Як таўчы, малоць — "Ой-це-мне",
А намётачку дайце мне.

Заканчваліся хрэсьбіны дзеяннем пад назвай "Цягаць бабу на баране". Госці пачыналі спяваць:

**Запрагайце, запрагайце**
Вы дзвінаццаць валоў,
Адвязём мы, адвязём мы
Ды бабульку дамоў.
Хай жа яна нашу гарэлку ня п’ець,
Хай жа яна ды сваю прывязець.

Гэтак жа і для кумоў:

**Запрагайце, запрагайце**
Вы дзвінаццаць валоў.
Адвязём мы, адвязём мы куму з кумам дамоў.
Хай жа яны нашу гарэлку ня п’юць,
Хай жа яны ды сваю прывязуць.

## Песні земляробчага календара

**А калядачкі, а барджэй, барджэй,**
Каляда, рана, а барджэй, барджэй.
А мясіце ж вы ў бліны дражджэй, дражджэй.
Ой, рана, у бліны дражджэй.
Нам піліпаўка надакучыла,
Ой, рана, рана надакучыла.
Дзеўкам жываты пазамучыла,
Хлопцам жамеры зубы праелі.
*(Калядная. Зап. у в.Дразды ад Сянькоўскай Еўдакіі Лук’янаўны, 1908 г.н.)*



**Ой, рана, рана куры запелі,**
Святы вечар, куры запелі.
Яшчэ надраней Светачка ўстала,
Святы вечар, Светачка ўстала.
Светачка ўстала, касу часала.
Святы вечар, касу часала.
Касу часала, у царкву ішла,
Святы вечар, у царкву ішла.
Хлопцы стаялі, шапкі здымалі,
Святы вечар, шапкі здымалі.
Шапкі здымалі, яе пыталі,
Святы вечар, яе пыталі.
– Ці ты царэўна, ці ты каралеўна,
Святы вечар, каралеўна?
– Я не царэўна, я не каралеўна,
Святы вечар, я не каралеўна –
Таткава дачка, будта птушачка,
Мамкава вышывальнічка,
Святы вечар, вышывальнічка.
*(Калядная. Зап. Яромінай Н.І. у 1999 г. у в. Прыгані ад Астаткевіч Н, 1922 г.н.)*

**Ноч мая цёмная,**
Свякроўка ліхая
Шлець мяне маладу
У поўнач па ваду.
А ні певень ні пяець,
А ні гусак ні крычыць,
Толькі адна ваўчыца
Пад гарою выіць.
Баюся, вярнуся,
Па вадзіцу не пайду.
Абазваўся мой мілы,
А на Дунаі стоючы,
На Дунаі стоючы,
Коніка поючы:
– Ня бойся, мілая,
Ні адна ты тута –
Бог Гасподзь са мною,
А я і з табою.
Коніка напоім
І вадзіцы прынясём.
*(Масленка. Зап. Яромінай Н.І. у 1999 г. у в. Прыгані ад Пасюковай Пелагеі Сцяпанаўны, 1915 г.н.)*



**А я ў поле жыта жала,**
А я ў поле жыта жала.
А ў мяне ў доме [бяда] стала,
А ў мяне ў доме [бяда] стала.
Скінулася свякроў з печы,
Скінулася свякроў з печы.
Пабіла сабе плечы,
Пабіла сабе плечы.
*(Жніўная. Зап. у в.Дразды ад Сянькоўскай Е. Л., 1908 г.н.)*

* * *

**А я ў полі жыта жала,**
А ў мяне дома бяда стала.
Свякроў з плоту звалілася,
Аб крапіву абстрыкалася.
Не жалка мне свякровачкі,
Толькі жалка крапівачкі –
Крапівачку свінні з’ядуць,
Свякровачку ў зямлю знясуць.
*(Жніўная. Зап. у в.Прыгані 1 ад Грачыхінай А.В., 1922 г.н.)*

* * *

**Перада мной шырокае поле,**
Шырокае поле, жыта яравое.
На здароўека жніўкі маладыя,
Дзякуй вам, добры дзень!
Прыхадзіце заўтра параней
Жаць жыта яравое.
Не бярыце бабак старэнькіх,
Не бярэце дзетак маленькіх,
Прынасіце па беламу сыру.
*(Жніўная. Зап. у в.Прыгані 1 ад Грачыхінай А.В., 1922 г.н.)*

## Як размаўляюць вяскоўцы

Аборкі – вяроўкі, запраўленыя ў лапці
Аддзюжыў – доўга прабыў
Армяк – зімовая адзежа
Атраха – грязны чалавек
Барджэй – хутчэй
Дражнік – пляцоўка на двары
Еўня – сушылка для снапоў
Жмут – скупы чалавек
Заступ – лапата
Кварта – кружка
Кулёма – чалавек, які надзяваў шмат адзёжак
Кулёк – куртка
Ліпаўка – бочка з ліпы
Лой – авечы тук
Луб – кораб для сева зерня
Ляда – распрацаваная паляна ў лесе
Падол – ніз спадніцы
Пад’ялдыкнуць – падкавырнуць
Рэзвіны – прылада для носкі сена, саломы
Савой – вяроўкі для падшыўкі лапцей
Самотка – саматканая спадніца
Сподкі – рукавіцы



## КРЫЧАЎСКІ РАЁН

### Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Ад славы галава не баліць, а толькі кружыцца.
Аднаму шчасце ракою плыве, а другі ў няшчасці цэлы век жыве.
Бабіна дарога – ад печы да парога.
Глянуў, як капейку даў.
Грошы пайшлі па раскошы.
Два мядведзя ў адной бярлозе не ўжываюцца.
Дзе справа, там і слава.
Добра жывецца, дык і песня пяецца.
Дурны паспех – людзям на смех.
Жэняцца – скачаць, разводзяцца — плачаць.
За спасіба пірог не купіш.
Калі не можаш памагчы, дык лепей памаўчы.
Калі ўлез у дугу, не кажы – "не магу".
На каго Бог, на таго і людзі.
На трактар надзейся, а каня не кідай.
На ўсялякае хаценне ёсць цярпенне.
Народу цьма, а работы няма.
Не тыкай на сонца, бо рука адсохне.
Пазычае, хто свайго не мае.
Прыйдзе смерць ды бяда – не ўратуе і святая вада.
Прыказку скажа, як вузлом завяжа.
Сава не родзіць сакала, а такога, як сама.
Свая сярмяжка – не цяжка.
Супраць упарства можна знайсці лякарства.
У вас адпелі, а ў нас ад'елі.
Хочаш многа знаць, трэба мала спаць.
Хто мала мае, той ні аб чым не дбае.
Як паклонішся кусту – дасць ён хлеба лусту.
Як прыйшло махам, так і пайшло прахам.
Як робіш справу, такую і набудзеш славу.
Які лён – такая і сарочка, якая маці – такая і дочка.

### Як размаўляюць вяскоўцы

Абуўка – абутак
Абалдуй – гультай
Апойліш – выпаенае з рук цяля
Асалавець – зрабіцца сонным, слабым
Ахапак – частка ношы
Ахламон – неахайны з выгляду чалавек
Бірук – змрочная, нелюдзімая істота
Букаты – шырокі, поўны ў баках
Бурдзіць – закісае
Бухцець – выказваць незадаволенасць
Бушны – пышны
Вомігам – хутка
Вэрхал – беспарадак
Глабыць – хапаць як мага больш
Гойда – непаседа
Дрыгнуць – спаць
Ерза – непаседа
Жыдзялі – не густая страва
Зарыцца – глядзець, аглядаць
Значыць – прыкмета блізкага ацёлу каровы
Касціць – нагаворваць
Кулдуячыць – не зразумела гаварыць
Махля – прайдоха
Непуцце – шалапутны, бяспутны
Налюдняць – стаць больш развітым
Рохля – нязграбны чалавек
Тумкаць – кеміць, даходзіць да сэнсу
Шмандэлак – кавалак



## МСЦІСЛАЎСКІ РАЁН

### Легенды і паданні старажытнага Мсціслаўля

На цудоўным месцы стаіць горад Мсціслаў. Старажытныя людзі былі мудрымі: яны сяліліся бліжэй да водных прастораў і на высокіх халмах. Успомніце Старажытны Рым. Ён размясціўся на сямі халмах, а балгарскі Плоўдзіў – на шасці халмах-крэпасцях. Мсціслаў — таксама на шасці: Замкавая гара, Дзявочая, Троіцкая, Панівойская, Тупічэўская і Могільнікавая. Вось яны, міфы і легенды, у саміх назвах халмоў. А колькі тайнаў захоўвае ў сабе Мсціслаўская зямля?

Калі ўзводзіўся ў 1967 годзе Курган Славы, удовы і маці загінуўшых у вайну савецкіх салдат прывезлі зямлю з усяго раёна, прапітаную крывёй ваенных гадоў, і пакінулі яе ў Кургане як сімвал адзінства, братэрства і смутку.

Дзявочую гару, па паданню, калісьці дзяўчаты насыпалі за адну ноч і зрабілі яе крэпасцю. Менавіта тут археолагі знайшлі адно з першых паселішчаў, якое з'явілася яшчэ да нашай эры. Аднак іншыя лічаць, што Дзявочая гара – гэта "Дзявочы гарадок", месца, дзе водзяцца дзівы, цуды, якія здзіўляюць людзей. Адсюль і назва.

У паўднёвай частцы горада захавалася Святое возера. Дарэчы, гэта адзінае ў раёне прыроднае возера. Святым яго, па паданню, назвалі таму, што тут калісьці стаяла царква, але стварыўся правал – і храм абрынуўся ў яго, на месцы царквы разлілося возера. У народзе кажуць, што яшчэ доўга над возерам чуўся звон, а раніцамі ў вадзе можна было ўбачыць царкоўныя купалы.

На самым высокім месцы ў горадзе захаваліся рэшткі былой Троіцкай царквы. Але мала каму вядома, што на паўночным захадзе ад Замкавай гары, яшчэ доўга да гэтага храма, мсціслаўскі князь Юрый Іванавіч у 1463 годзе ў сваім двары пабудаваў царкву ў гонар Святой Троіцы. Гэты замак князя і Троіцкая царква пасля былі разбураны ў час адной са шматлікіх войнаў. Але гара з таго часу стала называцца Свята-Троіцкай.

Ёсць і іншая легенда. Яна сцвярджае, што калісьці адзін з князёў Мсціслава пабудаваў на гэтай гары тры замкі для сваіх дзяцей і запаведаў ім жыць у міры і згодзе. Але пасля яго смерці міру паміж нашчадкамі князя не было. У выніку міжусобіцы замкі былі зруйнаваны. І толькі памяць аб іх захавалася ў назве месца, дзе яны стаялі, – Троіцкая гара.

Існуюць легенды аб узнікненні Пустынскага і Ануфрыеўскага манастыроў. У іх расказваецца, што адзін з князёў Мсціслава Сямён Лугвін стаў губляць зрок. Аніякія народныя лекі яму не дапамагалі. З-за баязні аслепнуць князь дзень і ноч звяртаўся за дапамогай да Бога. І вось аднойчы ў сне да яго з'явіўся стары і сказаў: "Дапаможа табе толькі "святая вада" лясной пустыні, знайдзі яе". Князь доўга шукаў пустыню і святую крыніцу, пакуль адзін са старцаў не паказаў яму гэтае месца. "Умыйся, – сказаў ён. – Выпей вады, а затым на працягу шасці тыдняў кожны дзень з усходам сонца рабі тое ж самае. І станеш здаровым". Так князь і зрабіў. І да яго вярнуўся зрок. Тут, ля крыніцы, па загаду князя ў 1380 годзе быў пабудаваны Пустынскі манастыр.

А вось як узнік Ануфрыеўскі манастыр. Легенда расказвае, што аднойчы сын князя Юрый заблудзіўся ў наваколлі Мсціслава. Лясы былі вялікія, цёмныя. Юрый доўга блукаў па лесе, выбіўся з сіл, аслаб ад голада і, калі страціў усялякую надзею на выратаванне, убачыў старца, які назваў сябе Ануфрыем. Ануфрый вывеў княжыча з лесу і паказаў дарогу дамоў, чым выратаваў яго ад галоднай смерці і дзікіх звяроў. Удзячны князь у 1407 годзе пабудаваў Ануфрыеўскі манастыр. Ікона святога Ануфрыя заўсёды ўпрыгожвала гэты храм.

Заснаванне Тупічэўскага Свята-Духава манастыра таксама звязана з тайнамі і паданнямі. У пачатку XVII стагоддзя, калі праваслаўе цярпела здзекі ад іезуітаў і Рэчы Паспалітай, непадалёку ад горада ва ўрочышчы Тупічэўшчына з'явілася ікона Божай

Маці. Праваслаўны вернік, памешчык Канстанцін Іпацьевіч Маскевіч, якому належыла гэтае ўрочышча, прызнаў з'яўленне іконы Багародзіцы як знак асобай Божай міласці і на гэтым месцы пабудаваў царкву ў гонар сашэсця Святога Духа, затым рашыў узвесці манастыр. Але смерць перашкодзіла Маскевічу давесці справу да канца. Паміраючы, пад страхам суда Божага ён настойліва прасіў сваю жонку Ганну і сыноў Філімона, Самуіла і Марціна пабудаваць манастыр. Сыны звярнуліся з просьбай да сваіх стрыечных братоў Андрэя і Мацвея, вядомых памешчыкаў Статкевічаў, да ігумена Аршанскага Куцеінскага манастыра Іоіля Труцэвіча быць пратэктарамі і апекунамі новага манастыра. Менавіта дзякуючы ўсім ім манастыр быў узведзены. Гэта было ў 1641 годзе. Тупічэўскі манастыр стаў аплотам праваслаўя. Перад цудатворнай іконай Божай Маці схілялі галовы і калені Пётр Першы, Кацярына Другая, Георгій Каніскі. Яна выратоўвала праваслаўных вернікаў ад нападкаў уніятаў і іезуітаў. Легенда распавядае аб тым, як аднойчы іезуіты, падабраўшы ключы ад храма, хацелі ноччу ўкрасці абраз Прасвятой Багародзіцы. Але калі яны наблізіліся да святыні, у царкве ўзняўся вялікі шум і нябачная сіла выкінула злодзеяў з храма. Праваслаўныя лічаць, што толькі дзякуючы гэтай святыні манастыр застаўся верным праваслаўю ў змрочную эпоху ўніяцтва.

Імя ваяўнічай княгіні Васілісы ў Мсціславе атрымала гара Панівойская. Васіліса працягвала княжыць пасля смерці свайго мужа, апошняга князя Міхаіла Іванавіча Жэслаўскага. На гэтай гары яна пабудавала сабе замак і са сваёй дружынай зрабіла некалькі смелых паходаў. Пані войсковая – адсюль і назва гары.

Здавён вядома легенда аб падземным пераходзе з Кармеліцкага касцёла ў Пустынскі манастыр. Смельчакі, якія быццам бы дайшлі пад зямлёй да самой ракі Віхра, расказвалі, што чулі над галавой бурнае цячэнне вады. Але ім не хапіла смеласці ісці далей – і яны вярнуліся. Магчыма, падземны ход існуе, але толькі не з Кармеліцкага касцёла ў Пустынкі, а ў жаночы манастыр. Таму што ў самым цэнтры горада стаялі тры касцёлы: Кармеліцкі, Іезуіцкі і Бернардзінскі (на месцы цяперашняга сабора Аляксандра Неўскага). Адлегласць паміж імі была 200-300 метраў. Магчыма, што яны і былі звязаны паміж сабой падземным ходам.

Ёсць адна легенда аб трагічнай гібелі першага ўдзельнага мсціслаўскага князя Мсціслава Раманавіча. Вядома, што ён быў затым смаленскім і кіеўскім князем. А калі прыйшла звестка аб нашэсці татара-манголаў на Русь, Мсціслаў сабраў са многіх княстваў баявыя дружыны і рушыў насустрач Чынгісхану. На рацэ Калка ў 1223 годзе адбылася няроўная бітва. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне, рускія войскі былі разбіты. Многія рускія воіны трапілі ў палон, там жа аказаўся і паранены Мсціслаў. Усе палонныя былі кінуты на зямлю, на іх паклалі драўляныя насцілы, на якіх ханскія воіны ўстроілі пераможны пір. Пад насцiламі цяжка стагналі паміраючыя. Так трагічна загінуў Мсціслаў.

## Мудрасці крылатай залацінкі

Народная мова надзвычай багатая на розныя ўстойлівыя словаспалучэнні, якія ў маўленні ўзнаўляюцца ў гатовым выглядзе – фразеалагізмы, параўнанні, выслоўі і інш. Сярод іх важнае месца належыць прыказкам, якія адлюстравалі шматвяковы вопыт і мудрасць народа. У жывой гутарковай мове жыхароў Мсціслаўшчыны часта можна пачуць і агульнавядомыя прыказкі. Але бытуе значная колькасць такіх, што вядомы на абмежаванай тэрыторыі або ўласцівы толькі гэтаму рэгіёну.

Ад гразы і пад печ (гаршок) не схаваешся. *(У жыцці здараюцца выпадкі, якіх нельга пазбегнуць)*

Адбудуцца ксціны без такой (вашай) Хрысціны. *(Прысутнасць дзе-небудзь той ці іншай асобы не вельмі пажаданая)*



Адна капля не дождж. *(Выпадковыя, адзінкавыя з'явы, падзеі не сведчаць пра надыход чагосьці новага, істотнага)*

Аднаго бусь, другога кусь. *(Пра розны падыход да людзей там, дзе стаўленне павінна быць аднолькавым)*

Адзін сцюдзень і ў свята, і ў будзень. *(Пра вельмі сціплыя ўмовы жыцця, абмежаванасць сродкаў існавання)*

Адзінокаму сабаку і хвост забава. *(На адзіноце карысны любы занятак)*

Багаты стаў: нòвыя лапці абуў. *(Іранічнае выказванне ў адрас таго, хто хваліцца неістотнай абновай)*

Баран казла ў госці пазваў. *(Іранічнае выказванне пра сяброўства не вельмі сімпатычных асоб)*

Барадою святы, ды рукамі грэшны. *(Асуджэнне таго, хто прыкідваецца дабрадзеем, але творыць непрыстойныя справы).*

Без капейкі рубля не будзе. *(Часам нязначныя рэчы, дэталі аказваюць у жыцці істотны ўплыў)*

Бывае, і чорт у затылку скрабе. *(Здараюцца моманты, калі незалежныя асобы трапляюць у незайздроснае становішча)*

Бывае, Хомка Саўку абувае. *(Жартоўна кажуць, калі адзін з недалёкіх людзей аказвае іншаму неістотную дапамогу)*

Бывала, зязюля кукавала, а цяпер і пятух не пяе. *(Пра рэзкае змяненне прыродных умоў або наогул умоў жыцця)*

Вушы золатам завешаны, дзеткі бульбачкай пацешаны. *(Асуджэнне маці, якія клапоцяцца пра свой знешні выгляд і забываюць абавязкі перад дзецьмі)*

Гарэлка вадзіла, а чорт атвячай. *(Гумар. Адказ на павер'е, быццам п'яных водзяць д'яблы)*

Доўга з рук сходзіла, ды вузлом завязалася. *(За ўчынкі асуджальнага характару ў рэшце рэшт даводзіцца расплочвацца)*

Сябар то сябар, ды боб я сеяў. *(Гаворыцца з папрокам, калі блізкі чалавек дапускае неправамерныя дзеянні, прысвойвае чужое)*

Сябры – з аднае кладачкі зваліліся. *(Гумар. Гаворыцца пра ўяўнае сяброўства)*

Дзеткі – едкі. *(Гадаванне і выхаванне дзяцей патрабуе сур'ёзных выдаткаў)*

Дзяцей гадуй і торбу гатуй. *(Дзеці нярэдка праяўляюць няўдзячнасць да бацькоў)*

Еў кашу – паламаў зубы. *(Гумар. Лёгкае падсмейванне пра нешанцаванне ў дробязях)*

Жаліўся казёл барану на надворную свінню. *(Нявартa абгаворваць іншага, калі сам не лепш)*

З бедным да парога, а з багатым за вароты. *(Багатых паважаюць, з імі лічацца, да бедных ставяцца абыякава)*

І з крывых дроў жаркі агонь. *(Варта звяртаць увагу не толькі на знешні выгляд, але ў першу чаргу на сутнасць)*

Качарга чапялу замуж бярэ. *(Кажуць пра няўдалых маладых)*

Левым бокам чэшацца. *(Пра чыюсьці незадаволенасць)*

Мыш капы не баіцца. *(Гумар. Не кожны палохаецца ўяўных цяжкасцей)*

На адну аўцу сто пастухоў. *(Столькі работнікаў у гэтым непатрэбна)*

На людзях і Хлімон чалавек. *(У грамадзе чалавек ацэньваецца больш справядліва)*

Пад носам узышло, а ў галаве не сеяна. *(Іранічнае. Ужо сталы чалавек, а думаць не прывык)*

Пасцель мяккая, ды спаць няма з кім. *(Нялёгка жыць у адзіноце)*

Хвасць хлеба не дасць. *(Высмейваецца выхвалянне)*

Што ні дзень, то пятніца. *(Гумар. Пра аматара адзначаць передсвяточныя дні гарэлкай)*

# СЛАЎГАРАДСКІ РАЁН

## Легенды і паданні

### Сіні Калодзеж

Побач са Слаўгарадам у невялічкай вёсачцы Кліны цячэ Сіні Калодзеж – магутны прыродны струмень чысцюткай падземнай вады. Гэта крыніца – адна з самых вядомых у Беларусі, і лічыцца яна святой, бо з цалебнай вадой. Паводле падання, тут б'е з зямлі 120 ключоў. Вада на паверхні нагадвае кіпень, а люстра яе мае блакітны колер. Паверхня вады мае ў дыяметры каля 10 м. Крыніца знаходзіцца на высокім месцы ў полі. Паводле аднаго з паданняў, крыніца Сіні Калодзеж узнікла тады, калі ў Прапойску жыла багатырка Кацярына. Да яе сваталіся жаніхі. Сцяпана яна любіла, але ён быў не такі дужы, як нялюбы жаніх Іван. Яна сказала, што пойдзе замуж за таго, хто далей кіне валун з высокага правага берага Сожа, з Прапойска на ўсход, на луг. Нялюбы Іван кінуў вялізны валун якраз туды, дзе цяпер в.Кліны. Слабейшы любы Сцяпан кінуў не так далека. Кацярына пайшла і стала на камень нялюбага Івана і сказала: "Лепш пайду вадой служыць, чым з нялюбым жыць". Потым падскочыла, ударылася аб валун, разбілася і раптам тут жа разлілася вялікім люстрам крыніцы. Пазней, кажуць, ляснік Шэпіт абходзіў лес і каля крыніцы на камені ўбачыў прыгожую русалку, якая грэбнем расчэсвала доўгія косы. Быў сонечны дзень. Ляснік хацеў схаваць адзенне, схапіць русалку. Пад нагой, як падкрадваўся, трэснула галінка. Русалка павярнула галаву і сказала: "А, Шэпіт, будзе ў твой род патопа". Сама знікла ў вадзе крыніцы. У той жа год у Шэпіта на Пятра ўтапілася ў Сожы дачка.

Кожны год на Макаўе (Макавей) 14 жніўня каля крыніцы правіцца набажэнства, сотні людзей амываюцца вадой, так як свята вераць у тое, што вада здымае ўсе іхнія хваробы.

### Проня, Пронюшка

Бываючы на гэтай рэчцы, наўрад ці хто з вас ведае, чаму менавіта так яна называецца. На гэты конт шмат легенд існуе. Вось адна з іх, якую расказваюць старыя людзі.

Некалі на берагах гэтай ракі размяшчаліся цыганскія табары. У адной сям'і была вельмі прыгожая маладая дзяўчына па імені Проня. Яе кахалі два маладыя цыганы. Ніяк дзяўчына не магла аддаць перавагу аднаму з іх, бо абодва былі добрыя хлопцы.

Прайшоў час. Аднойчы Проня і два хлопцы прагульваліся на беразе ракі. Быў спякотны ліпеньскі дзень. Дзяўчына вырашыла скупнуцца. Яна скочыла ў ваду, трапіла ў вір і затанула. Хлопцы кінуліся яе выратоўваць. Хаця і выцягнулі цела Проні, аднак прыкмет жыцця ў ім ужо не было. Апранулі на яе сукенку і пачалі галасіць: "Проня, Пронюшка, дарагая Пронюшка. Няхай гэтая рака назаўседы будзе называцца Проняй".

### Шаламы

Паводле мясцовага падання, назва вёскі Шаламы звязваецца са значэннем "шум". Сама вёска размешчана на ўзгорку і ў чашападобнай упадзіне паміж высокіх гравійных узгоркаў. Кажуць, калі прыкласці вуха ў летні поўдзень да гэтых мясцовых гор, гравійных узгоркаў, то абавязкова пачуеш там шум, звон, спевы, якія быццам чуюцца ад таго часу, як тут правалiліся калісьці гарады разам з людзьмі, цэрквамі. На гэтых жа гарах (паводле падання) зрэдку з'яўляюцца дастойным людзям вараныя жарабкі ці прыгожыя дзяўчаты. Яны выходзяць з гор і просяць чалавечай мовай, каб гэтыя дужыя, сумленныя і чыстыя ў маральных адносінах мясцовыя людзі прыўзнялі цяжкую юшку-накрыўку на гары і тады адтуль хлыне вада моцным патокам і выйдуць гарады і



людзі. Дастойнага ж чалавека конь абяцае абавязкова вынесці на сабе і выратаваць ад вады. Гэтыя людзі звычайна адмаўляюцца, а потым гінуць ад няшчасцяў. Іншае паданне сведчыць, што назва вёскі Шаламы паходзіць ад значэння "замарачэнне ў галаве", "глупства", "несамавіты, крыклівы чалавек". Быццам тут жыў некалі нервовы, шумны чалавек Шолам.

### Пацяраеўка і Чыкаўка

Паводле падання, у в.Пацяраеўка было калісьці толькі тры двары. Вядома, што назва вескі ўпамінаецца ў 1708 годзе ў паперах Пятра І. Паданне ж сведчыць, што Пётр І згубіў свой кішэнны гадзіннік на ланцужку на тым месцы, дзе цяпер в.Пацяраеўка. Ён вярнуўся, пашукаў, але не знайшоў і паехаў назад. Пад'язджаючы да в.Чыкаўка, пачуў ціканне гадзінніка: "чы-чы-чы", "чык-чык-чык-чык" (адсюль і назва суседняй вёскі Чыкаўка).

### Анекдатычная гісторыя аб тым, як адна кабета ратавалася ад чорта кіпенем

Здарылася гэтая гісторыя падчас Паўночнай вайны, калі войскі Пятра Першага ушчэнт разбілі корпус шведскага генерала Левенгаўпта пад в.Лясная. Адступаючы, шведы перапраўляліся праз раку Сож каля в.Гайшын.

А справа была вось як. Ціхім восеньскім ранкам над вёскай пранёсся чыйсьці трывожны вокліч: "Шведы ідуць!" І сапраўды, цераз вёску, па бальшаку, праходзіў атрад варожай арміі. Нельга было без смеху глядзець на гэтых абарваных, выпацканых у балотнай гразі чужынцаў, тым больш, што многія з іх былі без зброі. Ішло не грознае войска, а дрыжачы ад страху, голаду і холаду натоўп.

І вось калі адзін такі ваяка з вар'яцкім тварам заскочыў у адну з сялянскіх хат, з ліха яго ведае якім намерам, то гаспадыня, спачатку акамянелая ад перапалоху, неўзабаве хутка апамятавалася і, пакуль той, дзіка вылупіўшы вочы, штосьці гергетаў па-свойму, яна схапіла з печы чыгун з варам і з крыкам "Згінь, нячысты!" чухнула кіпенню на шведа. Лямантуючы, той кінуўся наўцёкі.

Руская конніца, якая праследавала іх і якая на наступны дзень прыбыла ў вёску, не заспела ў ваколіцах Гайшына ніводнага чужынца. Кажуць, што ў гонар перамогі Петр устроіў недалека ад шведскай пераправы пір на адным са старажытных курганоў, вядомага ў нашай мясцовасці пад назвай Скаварада.

### Цароў калодзеж

Непадалёку ад вёскі Бярозаўка, што ў Слаўгарадскім раёне, ёсць мясціна, якую называюць Цароў калодзеж. Розныя паданні ходзяць пра гэтае месца. Адно з іх сцвярджае, што цар Пётр І, які спыняўся тут у час вайны са шведамі, загадаў выкапаць калодзеж і нейкі час карыстаўся ім. Калі ж паехаў далей, пакінуў ля калодзежа медны карэц, з якога піў ваду. Нямала было ахвотнікаў знайсці той карэц. Але дарэмна. Ды, бадай, не гэтым прыцягвае людзей Цароў калодзеж. У спякоту тут заўсёды прыемна спыніцца падарожніку, наталіць смагу халоднай вадой з крыніцы, адпачыць у засені дрэў.

### Аб паходжанні назвы рачулкі Ульянкі

Гэтая знікаючая рачулка знаходзіцца непадалёку ад вёскі Гайшын. Наконт паходжання назвы гэтай рачулкі існуе некалькі паданняў. Адно з іх дайшло да нас з тых часоў, калі на прасторах Магілёўшчыны, у засені векавых дубоў, стаялі драўляныя языч-

ніцкія ідалы радзімічаў. Ульянка тады была, магчыма, паўнаводнай ракой. Увясну, калі славянскія воіны на кароткі час адклалі сваю зброю і пачалі сеяць хлеб, на іх напалі ворагі. Раптоўна, нібыта з-пад зямлі, з'явіліся пад драўлянай агароджай паселішчаў коннікі ў звярыных шкурах і рагатых шаломах. Хутка запалілі хаціны. Стары вяшчун Вед і яго дачка-прыгажуня Ула разам з некалькімі жанчынамі, трымаўшымі на руках сваіх маленькіх дзетак, схаваліся ў запаведнай дуброве, дзе стаялі драўляныя багі іхняга роду. Яны ведалі, што Пярун абароніць іх. Чужынцы наляцелі на маленькі гурт беспаможных славянак. Плёткамі пагналі іх перад сабой. На начлег ворагі спыніліся на ўскрайку лесу. Прыгожая Ула спадабалася правадыру чужынцаў, і ён загадаў прывесці яе ў шацёр. Калі дзяўчына апынулася з ім сам-насам, яна выхапіла крэмневы ахвярны нож і забіла гвалтаўніка. Раніцой ворагі ўбачылі мёртвага важака і кінуліся за Улай у пагоню. Але яна не здалася на літасць чужынцаў і скокнула ў вір рэчкі, якую з тых далёкіх гадоў і клічуць Ульянкай.

### Невядомая магіла

У лесе паміж вёскамі Цераховўка і Чарнякоўка ёсць магіла. На ёй — пахілены абамшэлы крыж, немаведама калі і кім пастаўлены. Вось якая легенда існуе наконт узнікнення гэтай магілы.

Некалі на ўскрайку гэтага лесу знаходзіўся маёнтак нейкага магната. Аднойчы магнат вырашыў запрасіць на свае імяніны памешчыкаў з усяго наваколля. Двум сваім прыгонным, братам Жукавым, ён загадаў паехаць у горад і прывезці бочкі піва. Браты паехалі. Калі вярталіся, на двары маёнтка коні папудзіліся, калёсы абярнуліся, бочкі ўпалі і разбіліся.

Даведаўся пан пра гэта і вырашыў пакараць братоў. На стайні братоў высеклі. Са стайні браты зайшлі ў кузню. Каваль выкаваў ім два мячы.

І вось нарэшце сабраліся паны на баль. У самы разгар балю, калі паны пачалі танцаваць, у залу зайшлі браты Жукавы з мячамі ў руках. Многіх паноў яны тады забілі. Потым пайшлі на стайню, запрэглі панскіх коней і паехалі да іншых маёнткаў. Там таксама паноў забілі.

На ўціхамiранне паўстанцаў цар прыслаў цэлы полк салдат. Братоў, якія хаваліся ў лесе, злавілі. З суседніх вёсак сагналі сялян і ў іх прысутнасці прапусцілі братоў Жукавых праз строй салдат і палкамі забілі. Расказвалі, што адзін салдат адмовіўся біць братоў. Тады яго таксамі прапусцілі праз строй і забілі да смерці.

Вось такая легенда.

### Помста буслоў

Чалавеку, які разбурыў буслянку, чакаць бяды. Знаходзіць бусел таго, хто яго пакрыўдзіў і помсціць жорстка, злосна – то прынясе і кіне на дах галавешку, і схопіцца хата агнём, а то і страшней яшчэ ўтворыць – гадзюку кіне на двор ці ў калодзеж: піце слёзы мае.







## ХОЦІМСКІ РАЁН



### Легенды і паданні

### Адкуль пайшла назва вёскі Варвараўка

У вёсцы Варвараўка існуе паданне аб стварэнні назвы вёскі. Калісьці вельмі даўно прыгожая княгіня Варвара праязджала па гэтых мясцінах. І здарылася так, што ноччу яна спынілася ў маленькай вёсачцы ля дарогі. Вяскоўцаў кранула прыгажосць і дабрыня княгіні. Вось з таго часу і стала невядомая вёска называцца Варвараўка.

Паводле другой легенды, сваю назву вёска атрымала ад імя царыцы, якая жыла некалі тут. Тут былі яе ўладанні, і звалі яе Варвара.

У гэтай вёсцы існуе і такое паданне. Жылі людзі ў раю. Добра жылося ім там. І вось аднойчы нехта саграшыў. Разгневаўся Бог за той грэх і прагнаў усіх на Зямлю: "Ідзіце, грэшнікі, па зямлі, і няхай кожны з вас самастойна шукае сваё шчасце. І той, хто здолее знайсці сваю палавіну, той і будзе шчаслівы". Задумаліся людзі, і з таго часу павялося — хто яе знаходзіць, таму і радасць у жыцці, а хто не знойдзе – так і блукае ў адзіноце ды смуце.

### Святая крыніца ў в. Бярозкі

Шмат легенд і паданняў захавалі жыхары гэтай вёскі. Але гісторыю пра святую крыніцу ў гэтай вёсцы не назавеш легендай; гэта рэальнае здарэнне, якое адбылося ў пачатку XX стагоддзя. У вёсцы жыла сялянская сям'я Аўсіенкаў. У іх было трое дзяцей. Сям'я была дружная, працавітая. Усё было добра. Ды здарылася бяда. Пяцігадовы сын Трушка неўзабаве аслеп. Бацька хадзіў па бабках, лекарах, але ніхто не змог дапамагчы. Ад адчаю і роспачы ўсё валілася з рук.

Аднойчы, перш чым пайсці спаць, бацька памаліўся і ў канцы малітвы сказаў такія словы: "Госпадзі, за што ты нас пакараў? Мы за сабой не ведаем ніякага грэха. Дапамагі нам, падскажы, як вылечыць Трушку?". Сказаў гэта і пайшоў спаць. І сніцца яму сон. Арэ ён свой надзел, стаміўся так, што рукі ўжо не трымалі плуг. Сеў на краю баразны, апусціў галаву на калені. І не пачуў, калі да яго падышоў стары. "Памагай Бог! – сказаў незнаёмец.– Але чаму на вачах у цябе слёзы?" Расказаў чалавек сваю бяду старцу. Паслухаўшы яго, стары сказаў: "Ідзі ў канец вашых барознаў. Недалёка ад дарогі расце маладая вольха. З-пад яе каранёў б'е невялічкая крынічка. Вазьмі свайго хлопчыка, прывядзі да крынічкі і прамый крынічнай вадой яму вочы. А потым пачысці крынічку ад бруду, смецця". Пасля гэтых слоў чалавек знік.

Прачнуўся бацька і расказаў свой сон жонцы. Яны вырашылі ісці шукаць тую крыніцу. Доўга шукалі, а потым пайшлі ў напрамку варкавання птушкі. Яна сядзела на вольхе, з-пад каранёў якой і прабівалася слабая крынічка. Прамылі Трушку вочы, а потым прачысцілі крынічку. Прачнуўшыся раніцай, Трушка з радасцю сказаў: "Мама, я ўсё бачу!".

Бацька ўсё жыццё даглядаў крынічку, зрабіў зруб, чысціў канаўку для стоку. З суседніх вёсак да крынічкі ішлі людзі. Бралі ваду, маліліся, кідалі грошы, ставілі іконы, вешалі ручнікі. Ужо ў наш час два чалавекі з суседняй вёскі разбурылі крынічку. А праз месяц яны памерлі. Гэты выпадак яшчэ раз даказвае, што крынічка святая.

Зараз у крынічкі пачалося другое жыццё. Крынічку абгарадзілі частаколам, пракапалі канаўку для стока вады. Побач з крынічкай укапаны крыж з іконамі і ручнікамі. І ідуць да крынічкі людзі.

## Вясельны абрад вёскі Варвараўка

Вясельная абраднасць звычайна пачынаецца сватаннем. Уся хата нявесты прыбрана. Сярод хаты стаіць стол, накрыты белым абрусам, на ганаровым месцы сядзяць старшыя сваякі і ганаровыя госці нявесціных бацькоў. Пры гэтым яны спяваюць песні:

**Слаўнае сяло Варвараўка,**
Што ў яго не ўвайсці, не ўехаць,
Ні пташачкаю ўляцець.
Да ў тым сяле Варвараўка – цэркаўка,
А на цэркаўкі – крыжачак,
А на крыжачку – макаўка.
Там звіла гняздзечка ластаўка.
Да ў тым гняздзечку
Знесла дзве яечкі,
Вывела двое дзетак:
Першае дзіця – Іванка,
А другое дзіця – Марыйка.

Закончыўшы абрад адзявання нявесты да вянца, яе вядуць у хату, саджаюць насупраць печы каля акна. І сяброўкі шчыльным колам акружаюць яе. На ёй самае лепшае ўбранне. Настрой ва ўсіх прысутных самы сур'ёзны, урачысты, асабліва ў нявесты – віноўніцы ўсёй урачыстасці.

Дружок, галоўны кіраўнік вяселля, запальвае дзве свечкі, абыходзіць вакол стала і гаворыць: "Благаславі, ацец і маці, каго бы ўгодзіў у хаце, маладых свечы залучаці". Нявеста падыходзіць да ўсіх, нізка кланяецца спачатку бацьку, а потым маці, затым – іншым. Вяселле працягваецца.

Нялёгкае жыццё маладой жонкі ў хаце мужа знайшло адлюстраванне ў песнях:

**Вузкая вулачка –**
Як па ёй хадзіць?
Ліхая свякроўка –
Як ёй угадзіць?
Па вузкай вулачцы
Нахадзілася,
Ліхой жа свякроўцы
Нагадзілася.
Па вузкай вулачцы
Хадзіць не буду,
Ліхой свякроўцы
Гадзіць не буду.

*(Зап. ад Сотнікавай Еўдакіі Кузьмінічны)*

### Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

*(Зап. у в.Бярозкі)*

Будзеш доха, будзеш і ўзяха.
Вядаюць Бярозкі пра Мар'іны слёзкі.
На чужым кане і ў бруд злезеш.
Набраліся грошай, як жаба мулу.
Пакідалі маслоў пад стол, як на вяселлі.
Як у Бярозках ціха, так у Кліну ліха.

### Як размаўляюць вяскоўцы

*(Зап. у в.Бярозкі)*

Буцян – бусел
Ворак – гаспадарчы двор
Гандэлак – загон для жывёлы
Глобка – сцежка
Голанка - бручка
Дзянкі – вязёнкі
Мост – падлога
Конаўка – кружка
Курапа – жаба
Цебека – гарбуз



## ЧАВУСКІ РАЁН

### Песні роднага краю

**Кіну пралачку пад лавачку,**
Сама пайду гуляць.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А сама пайду дамой.

Першыя пеўні прапелі,
Я й не думаю дамой.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А я не думаю дамой.

Другія пеўні прапелі,
Я дадому пайшла.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А я дадому пайшла.

Падхажу я ка двару –
Ходзіць стары па двару.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А ходзіць стары па двару.

Ходзіць стары па двару,
Расчасаўшы бараду.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А расчасаўшы бараду.

– А дзе, мілая, была,
Дзе пагулівала?
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А дзе пагулівала.

А ці ў кума, ці ў кумы,
Ці ў кумінай сястры?
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А ці ў кумінай сястры?

– Дзе была, там няма,
Дзе гуляла, адтуль прыйшла.
Ой, ой, ой, о-ха-ха,
А дзе гуляла, адтуль прыйшла.

*(Зап. у в.Дужаўка)*

**Зашумела, загудзела***
Дубравушка зеляна.
Заўдавела, заўдавела*
Удовушка малада.

Прыязджалі к удовушцы
Тры казакі малодзенькіх,
Прывазілі ўдовушцы
А тры зеллейкі разненькіх.

– Выпі, выпі, удовушка,
А тры зеллейкі разненькіх.
Ці не прызабудзеш удовушка
Ды на першага мужа?

– Хоць я яго прызабуду –
Дзеткі бацьку не забудуць.
Хоць я яго прызабуду –
Дзеткі бацьку не забудуць.

Дзеткі мае драбненькія,
Слёзы мае буйненькія,
А як дзеткі пабуйнеюць,
Слёзкі мае падрабнеюць.

Зашумела, загудзела
Дубравушка зеляна.
Заўдавела, заўдавела
Удовушка малада.

*(* Першы і трэці радок паўтараюцца двойчы)*

*(Зап у в. Пуцькі)*

**Ганначка са двара з'язджала,**
У бярозы вярхушку зламала:
– Расці, расці, бяроза, без верху,
Жыві, жыві, мамачка, без мяне,
Без русай касы, без маёй,
Без шаўковай стужачкі,
Без мяне – вернае служачкі.

*(Вясельная, зап. у в.Каменка)*

**Не белая лябёдачка ваду замуціла,***
Няшчасная мяне доля замуж закруціла.
Я не ўпіла, я не ўела, добра не ўхадзіла,
Толькі свае, толькі свае леці ўкараціла.
Як пушчу я два талеры па торнай дарозе:
Адзін талер пакаціўся, другі вараціўся –
Знаць, мой мілы ў другу ўлюбіўся.
Як паеду, як паеду талер даганяці.
Гнала коні, гнала коні, гнала-перагнала,
Толькі свае леці не дагнала.
*( * Кожны радок паўтараецца двойчы)*
*(Бытавая, зап. у в.Каменка)*



**На тым жа баку праз раку слабодка стаіць,***
Каб у той жа слабодцы чатыры двары,
Каб у тых жа ў дварочках чатыры кумы:
Вы кумачкі, галубочкі, сястрыцы мае,
Як будзеце цвяточкі рваць, нарвіце вы мне,
Як будзеце вяночкі віці, сарвіце і мне,
Як будзеце на Дунай пускаць, пускайце ж вы і мой.
А ўсе ж вянкі паверх плывуць, а мой патануў,
А ўсе ж дружкі з вайны прыйшлі, майго дружка нет.
Ён сам не ідзе, пісьма не шле, знаць, яго няма.
*( * Кожны радок паўтараецца двойчы)*
*(Вясельная, зап. у в.Каменка)*



**Маладзіца маладая ***
Каля бору жыта жала,
З ясным сонцам размаўляла:
– Ой ты, сонца яркае,
Я ж на цябе жалкуюся,
Што ты раненька ўсходзіш,
Што ж ты позна заходзіш.
– Маладзіца маладая,
Не жалкуйся на мяне,
А жалкуйся на свякроўку:
Хоць я раненька ўзыйду,
То я цябе ў полі знайду.
Хоць я позненька зайду,
То я цябе ў полі кіну.
*( * Кожны радок паўтараецца двойчы)*
*(Жніўная, зап. у в.Каменка)*



## Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Вядзі каня на аброці, а злодзея на ланцугу.
Два мядведзі ў адной бярлозе не месцяцца.
Доля прымачая – доля сабачая.
Лічы зубы ў сваім роце.
Прыйшло махам і пойдзе прахам.
Тады маеш, калі ў руках трымаеш.

## Як размаўляюць вяскоўцы

Варьва – боршч з серае капусты.
Глодаўка – старае русла Проні.
Зімнік – канал, вырыты зімою па загаду пана.
Капытка – страва з маннай крупы.
Масцішча – топкае месца, дзе заўсёды масцілі.
Салаіха – пасярод балота сухая высокая града.
Скавароднік – цеста, якое пяклі ў печы перад полымем.
Услон – невялікая лаўка.
Чортава ямка – вельмі глыбокая яма з вадою недалёка ад рэчышча Проні. Кажуць, што яна пад зямлёй злучана з Проняй.



# ЧЭРЫКАЎСКІ РАЁН

## Легенды і паданні пра крыніцы

Першае веснавое, пасля вялікодных урачыстасцей, свята Мікалая склікае жыхароў горада і вакольных вёсак ва ўрочышча ля вёскі Гронаў да крыніцы. Здаўна існуе мноства легендаў пра святую ваду. Па адной з іх, у гронаўскай крыніцы забыла чорную касу дзяўчына, якая смуткавала над глыбінным, празрыстым ключом аб няўдалым каханні.

У дзень першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла (у народзе кажуць – на Пятра) здаўна ладзіцца свята ў крыніцы, што каля вёскі Наркі. І называецца гэтае свята Бразгун, таму што каля крыніцы быў чутны гук, падобны на бразг ключэй. Легенда распавядае аб тым, што маладая дзяўчына, нарадзіўшы дзіця, вырашыла схаваць свой грэх і ўтапіла немаўлятка ў крыніцы. З таго часу людзі перасталі хадзіць да крыніцы. Але праз нейкі час крыніца ў выглядзе дзяўчыны прыснілася аднаму мужчыне, у якога хварэла дачка. Бацька адкапаў крыніцу ў іншым месцы – і яна забурліла, запырскала сваёй празрыстай, як крышталь, вадой. Гэтай вадой была вылечана хворая дзяўчынка.

У гады барацьбы з "забабонамі" крыніца была зруйнавана, прыдушана вялізным валуном, карэнішчамі старых сосьнаў. Але праз дзень яна была адкопана нечай клапатлівай рукой. Сюды мясцовыя жыхары прынеслі ікону з лікам святых Пятра і Паўла. У гады вайны вяскоўцы ўратавалі ікону і зараз захоўваюць яе, перадаючы з хаты ў хату.

### Паданне пра Ваўкалака

Старажылы вёсачкі Вохар шмат цікавага распавядаюць пра дэманаў роднай мясцовасці. Так, ваўкалак-пераверцень – гэта чалавек, які ператвораны кім-небудзь ці які ператварыўся па свайму жаданню ў ваўка. Ваўкалакі любяць нападаць на маладых, пераважна на дзяцей, але не ядуць іх, а толькі высмоктваюць з іх кроў. Такім чынам амалажваюць свой арганізм. У гэтай жа вёсцы жыве паданне аб тым, як ваўкалак-пераверцень забраў дзіця. Маладая жанчына пайшла мыць дзіця ў баню, а праз нейкі час загадала мужу, каб той прыйшоў і забраў яго. Але яго апярэдзіў ваўкалак, ператварыўшыся ў вобраз мужа.

## Песні роднага краю

**Благаславі, Божа,**
Божа мілы,
Вясну прыгукаці.
Вясну прыгукаці,
Божа мілы,
А зіму замыкаці.
Вясёнку ў чаўночак,
Божа мілы,
А зімачку ў замочак.
Што былі за пташкі,
Божа мілы,
Усе ў вырай паляцелі.
Што былі за дзеўкі,
Божа мілы,
Усе замуж папайшлі.
Адна я асталася,
Божа мілы,
Маладая Надзечка.
Па ту прыязжалі,
Божа мілы,
Этую ўзялі.
Этую ўзялі,
Божа мілы,
І на конях павязлі.

*(Зап. у в. Вохар ад Каназобкі Ганны Сямёнаўны)*



## Прыказкі, прымаўкі, выслоўі

Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.
Дарагі той куток, дзе зарыты пупок.
Зімовы дзянёк, што камароў насок.
Сей авёс у гразь – будзеш, як князь.
Спех – людзям на смех.

## Прыкметы і павер'і

З бярозы цячэ многа соку – лета дажджлівым будзе.
Калі зязюля закукуе на голы лес – год неўрадлівы.
Мокры май – будзе жыта, нібы гай.
На Благавешчанне птушка гняздо не ўе, а дзеўка касу не пляце.



## ШКЛОЎСКІ РАЁН

### Легенды і паданні

#### Святое возера

На поўначы ад в.Рамшына знаходзіцца Святое возера. Вада ў ім горкая, халодная. Паданне сведчыць, што калісьці на яго беразе была царква, якая пайшла на дно, гэта значыць, правалілася ў багну. Доўгі час чуліся званы. Гэта топкае месца. Да яго нельга блізка падысці. Людзі кажуць, што рыба ў ім не водзіцца.

*(Зап. у в.Палыкавічы ад Казловай Ніны Пятроўны)*

#### Франуліна (Хрануліна)

Гэта мястэчка на поўначы ад в.Чарнаручча. Там ёсць возера. Існуюць розныя думкі аб паходжанні назвы "Франуліна", або "Хрануліна".

Кокань Марыя Васільеўна ўспамінала пра тое, што казала ёй бабуля: "Калісьці даўным-даўно закахаліся адзін у аднаго дачка багатага пана з батраком, альбо наадварот, сын багатага пана з батрачкай. Доўгі час яны хаваліся ў тым месцы, бо пан быў супраць іхняга шлюбу. Ніхто не памятае, што з імі сталася. Але мяркуюць, што з таго часу, калі закаханыя хаваліся там, захоўвалі вернасць адзін аднаму, на гэтым месцы ўтварыліся мястэчка і возера, з таго часу пачало называцца "Хрануліна"

*(в.Чарнаручча)*

#### Легенда пра святога Барыса і Глеба

Легенда пра свята Барыса і Глеба пераходзіць ад пакалення да пакалення.

Даўным-даўно, шмат гадоў таму назад, на могілках у в.Старыя Стайкі, была збудавана невялікая капліца, у якой знаходзілася шмат абразоў. Памяшканне аздоблена і выбелена. Хто ж яе будаваў? Ніхто не ведае і няма ніякіх звестак, якія б указвалі на год яе пабудовы. Але легенда сведчыць пра тое, што гэта капліца пабудавана ў гонар князя Барыса і яго брата Глеба. Як быццам бы князя Барыса забіў князь Святаполк. Але князя Барыса за яго добрыя справы царква далучыла да ліку святых, князя Святаполка – пракляла.

Ёсць яшчэ адна думка пра паходжанне капліцы. Багаты купец са сваім сынам Барысам праязджалі праз гэтыя мясціны і ў шляху сын Барыс захварэў і памёр. Бацька ў гонар сына пабудаваў гэту капліцу. І, магчыма, сын пахаваны ў ёй. Знаходзіліся смельчакі, якія дзяўблі цэментны пол і хацелі даведацца, ці праўда тое, што тут пахаваны князь Барыс. Але падлогу яны маглі прабіць толькі да паловы, а калі дзяўблі далей, ішоў толькі звон. Ніхто не ведае, што гэта такое. А тых жа людзей, што спрабавалі даведацца пра невядомае, спасцігла кара.

Акрамя гэтай капліцы, была збудавана другая невялічкая, але ўжо драўляная капліца, якая знаходзілася каля крыніцы. Зроблена яна была ў выглядзе доміка. Унутры яе знаходзіцца шкляны крыж. Старажылы вёскі Старыя Стайкі мяркуюць, што капліца і крыніца паміж сабой звязаныя. Гэту капліцу, што была каля крыніцы, па загаду старшыні калгаса Генералава Сямёна прыстасавалі пад кузню, дзе рабілі сельскагаспадарчыя прылады. Яна стаяла пасярод поля, але нядоўга. Яе перавезлі і паставілі на калгасным двары. А крыж, што знаходзіўся на капліцы, – разбілі.

У час Вялікай Айчыннай вайны капліцу не пашкодзілі, немцы яе не зачапілі. Снарады іркваліся каля капліцы, але ні адзін з іх не трапіў у яе. Раней гэта капліца не зачрывалася на ключ. Але падчас ганенняў за веру шмат абразоў знікла. Жыхары в. Старыя Стайкі ўздымалі пытанне пра вяртанне абразоў у капліцу. Адну знайшлі у Вербавым лузе. Гэта ікона Божай Маці, яе вярнулі.

6 жніўня кожны год усе жыхары з вёскі Старыя Стайкі і навакольных вёсак прыходзяць на могілкі ў капліцу на літургію, ставяць свечкі за ўпакой, а потым крэсным ходам ідуць да крыніцы, якая знаходзіцца непадалёку ад могілак. Уперадзе нясуць абраз Божай Маці. Каля крыніцы працягваецца служба, а потым свяшчэннік расказвае пра князя Барыса і яго брата Глеба. І так на працягу стагоддзяў, ад пакалення да пакалення жыве ў народзе легенда пра князя Барыса і яго брата Глеба.

### Песні роднага краю

#### Жніўныя

(Запісаны спецыялістамі Магілёўскага АНМЦ у 1999 г. у в. Стараселле Шклоўскага раёна ад удзельнікаў фальклорнага гурта "Каласок" Старасельскага сельскага клуба)

**А я ў полі жыта жала,***
У мяне дома біда стала
Сьвякроў з печы звалілыся,
На бырану ўзбілыся.
Ой, не жалка мне сьвякроўкі,
Ой, жалка мне ўсёй баронкі.
Ой, баронка скырадзіць будзець,
Ой, сьвякроўка журыць будзець.
*(* Кожны радок паўтараецца двойчы)*

*(Зап. ад Шастаковай Т.А., 1928 г.н. )*



**Ішла Дуня с (у) полюшка,***
Несла сярпок за поісам.
На ручанькых дзіцятычка,
Сустрэў яе родны татачка.
– Ай, дзе, Дунька, дзіця ўзела?
– Ой, татычка, суседнея.
– Чаго ж, Дунька, лічка твaё?
– Лічка маё прыкрасныя,
Доля мая нешчасныя.
*(* Кожны радок паўтараецца двойчы)*

**Між гор, між гор, між даліны***
Цяклі рэчкі мядовыя,
Раслі травы шаўковыя.
Там Ванічка кыня паіў,
А Манічка ваду бярэць.
Ой, Манічка, душа мыя,
Напаі мне майго кыня.
Кыня майго варанога
Дзеля мяне маладога.
*(* Кожны радок паўтараецца двойчы)*



**Я ў піру была і ў бяседушкі.***
Мёд, віно піла не ўпівалыся.
Ой, дамоў ішла не шыталыся,
Як прійшла дамой шытанулася,
Мужыку свайму ныругнулыся:
– Ой, дзяржы, дзяржы бабу п'яную,
Бабу п'яную, шэльму старыю.
*(* Кожны радок паўтараецца двойчы).*

**Як пайду я кыла лесу,***
Як нарву я куралесу.
Куралесік мой беленькі,
Татулечка мой родненькі,
Аддаў мяне, ня быў у мяне,
Чаму ж мяне не адведаеш?
Ці дарожкі не ведаеш?
– Я й дарожкі ўсе ведаю,
За жаласцю не адведаю.
За жаласцю, за журбою,
За свякровай, за ліхою.
*( * Кожны радок паўтараецца двойчы)*
*(Зап. ад Сырковай В.Ф., 1940 г.н. )*



**Спіўся казак, спіўся,**
З дарожанькі збіўся,
Каню вараному
На грыву схіліўся.
А там, пры дарозе,
Яшчэ пры шырокай,
Малада дзяўчына
З чорнымі вачыма
Пшанічку поліць.
Поліць яна, поліць,
Поліць-прымаўляе:
– Малады казачка,
Малады саколе,
Ты ж вазьмі мяне з сабою.
– Дзяўчынка мілая,
Не хадзі на поле,
Не збірай куколю,
То вазьму з сабою.
– Куколю, куколю
Не расці на полі,
Бо я маладая,
Цябе не выполю.
*(Зап. у в.Кучарына)*

 **Прыказкі, прымаўкі, выслоўі** 

У час вайны з французамі, калі яны ішлі праз вёску Кучарына, салдаты былі такія замучаныя і галодныя, што з'ядалі ўсё, што ім траплялася пад рукі. З тых часоў пайшла пагаворка *"каб цябе пранцы з'елі"*.





 **Паказальнік першых радкоў тэксту народных песень, змешчаных у зборніку** 

1. "А з-пад лесіку, лесу цёмнага..." (зап. у Кіраўскім раёне)
2. "А ішлі, прайшлі валачобныя..." (зап. у Кіраўскім раёне)
3. "А калядачкі барджэй, барджэй..." (зап. у Круглянскім раёне)
4. "А мой татачка, салавеечка..." (зап. у Круглянскім раёне)
5. "А мы ляда капалі, капалі..." (зап. у Кіраўскім раёне)
6. "А на першы дзень на Вялікадня..." (зап. у Кіраўскім раёне)
7. "А ў госце, госце сон-трава расцець..." (зап. у Круглянскім раёне)
8. "А ў каго вінаград на дварэ..." (зап. у в.Сенькава Горацкага раёна)
9. "А ў цэркаўцы ва ўсе званы званілі..." (зап. у Горацкім раёне)
10. "А ўчора ў нас былі хрысціначкі..." (зап. у Горацкім раёне)
11. "Я ў піру была і ў бяседушкі..." (зап. у Шклоўскім раёне)
12. "А я ў полі жыта жала..." (зап. у в.Дразды Круглянскага раёна)
13. "А я ў полі жыта жала..." (зап. у в.Прыгані Круглянскага раёна)
14. "А я ў полі жыта жала, у мяне дома біда стала..." (зап. у Шклоўскім раёне)
15. "А я ў полі жыта жала, у мяне ў доме шкода стала..." (зап. у Клічаўскім раёне)
16. "Адчыняй, мамачка, новы двор..." (зап. у Асіповіцкім раёне)
17. "Ай, гоман, гоман на дварэ..." (зап. у Горацкім раёне)
18. "Братка сястру на пасад вядзе..." (зап. у Асіповіцкім раёне)
19. "Благаславі, Божа, Божа мілы..." (зап. у Чэрыкаўскім раёне)
20. "Валачобнікі валачыліся..." (зап. у Кіраўскім раёне)
21. "Вецер вее, ой, вецер вее..." (Зап. у Касцюковіцкім раёне)
22. "Восень халадная, восень халадная..." (зап. у Краснапольскім раёне)
23. "Вузкая вулачка, як па ёй хадзіць?.." (зап. у Хоцімскім раёне)
24. "Выйдзі ж, матачка, пагля́дзі, пагля́дзі..." (Зап. у Касцюковіцкім раёне)
25. "Вясна й мая, вясеначка..." (зап. у Кіраўскім раёне)
26. "Галовачка мая бедная, сямеечка непрівётная..." (Зап. у Касцюковіцкім раёне)
27. "Ганначка са двара з'язджала..." (зап. у Чавускім раёне)
28. "Гуляйце, госцейкі, гуляйце..." (зап. у Горацкім раёне)
29. "Гуляла галубачка, гукала..." (зап. у Горацкім раёне)
30. "Да ляцяць, ляцяць два галубочкі..." (зап. у Кіраўскім раёне)
31. "Да полу, бабкі, да полу..." (зап. у Круглянскім раёне)
32. "Дадому, госцейкі, дадому..." (зап. у Краснапольскім раёне)
33. "Дзеўка са двара з'язджала, у бярозе вяршок заламала..." (зап. у Клімавіцкім раёне)
34. "Зайдзі, зайдзі, месяц, за круту гару..." (зап. у Кіраўскім раёне)
35. "Запалю я куль саломы..." (зап. у Касцюковіцкім раёне)
36. "Запрагайце, запрагайце вы дзвінаццаць валоў..." (зап. у Круглянскім раёне)
37. "Заручоначка-дзеванька, перайду новыя сені..." – вясельная (зап. у Клічаўскім раёне)
38. "Зашумела, загудзела дубравушка зеляна..." (зап. у Чавускім раёне)
39. "Зборная нядзеля настала..." (зап. у Горацкім раёне)
40. "Зялёны дубочак, зелянюсенькі, на абрыў схіліўся..." (зап. у Круглянскім раёне)
41. "Зялёны дубочак на яр нахіліўся..." (зап. у Касцюковіцкім раёне)
42. "Ішла Дуня с (у) полюшка, несла сярпок за поісам..." (зап. у Шклоўскім раёне)
43. "Кацярына грэчку качала..." (зап. у Краснапольскім раёне)
44. "Кіну пралачку пад лавачку..." (зап. у Чавускім раёне)
45. "Куму кум падманіў..." (зап. у Горацкім раёне)
46. "Ля крынічанькі, ля глыбокія..." (зап. у Касцюковіцкім раёне)

47. “Маладзіца маладая каля бору жыта жала...” (зап. у Чавускім раёне)
48. “Між гор, між гор, між даліны цяклі рэчкі мядовыя...” (зап. у Шклоўскім раёне)
49. “На моры вутка купалася...” (зап. у Кіраўскім раёне)
50. “На небе зара разгарэлася...” (зап. у Круглянскім раёне)
51. “На тым жа баку праз раку слабодка стаіць...” (зап. у Чавускім раёне)
52. “Не белая лябёдачка ваду замуціла...” (зап. у Чавускім раёне)
53. “Не спіце дома, не спіце...” (зап. у Круглянскім раёне)
54. “Непраўдзівая каліна казала: “Цвісці не буду...” (зап. у Клімавіцкім раёне)
55. “Ноч мая цёмная, свякроўка ліхая...” (зап. у Круглянскім раёне)
56. “Ой, белая бярозачка...” (зап. у Краснапольскім раёне)
57. “Ой, да ты, пташка, канарэйка...” (зап. у Клімавіцкім раёне)
58. “Ой, дуб да бярозы нізенька нахіліўся...” (зап. у Касцюковіцкім раёне)
59. “Ой, зелена, зелена ў лузе трава...” (зап. у Клімавіцкім раёне)
60. “Ой, пойдзем, пойдзем, маё дзіцятка...” (зап. у Круглянскім раёне)
61. “Ой, пайду я каля рэчкі...” (зап. у Кіраўскім раёне)
62. “Ой, рана, рана куры запелі...” (зап. у Круглянскім раёне)
63. “Ой, рэчанька, рэчанька...” (зап. у Клічаўскім раёне)
64. “Ой, сватачкі, пташачкі, просім вас...” (зап. у Асіповіцкім раёне)
65. “Ой, стукнула, грукнула на дварэ...” (зап. у Асіповіцкім раёне)
66. “Ой ты, жавароначку, ранняя пташэчку...” (зап. у Кіраўскім раёне)
67. “Ой, цёшча зяця на вячэрю ждала...” (зап. у Краснапольскім раёне)
68. “Перада мной шырокае поле...” (зап. у Круглянскім раёне)
69. “Прыехаў сын у госці, маці жыта жала...” (зап. у Касцюковіцкім раёне)
70. “Разлягайцеся горы, раўняй, Божа, дарогі...”– вясельная (зап. у Клічаўскім раёне)
71. “Раскаці, мамачка, трубачку...” (зап. у Горацкім раёне)
72. “Сваты борам ішлі...” (зап. у Горацкім раёне)
73. “Свякровачка журлівая...” – жартоўная (зап. у Краснапольскім раёне)
74. “Сіва, раба і зязюленка, віно...” (зап. у Кіраўскім раёне)
75. “Слаўнае сяло Варвараўка...” – вясельная (зап. у Хоцімскім раёне)
76. “Спіўся казак, спіўся, з дарожанькі збіўся...” (зап. у Шклоўскім раёне)
77. “Стукнула, грюкнула ў дваре...” (зап. у Краснапольскім раёне)
78. “Сядзела Галечка за сталом...” (зап. у Круглянскім раёне)
79. “Татачка мой любенькі...” (зап. у Касцюковіцкім раёне)
80. “У бальшом карагодзе дзеванькі гулялі...” (зап. у Касцюковіцкім раёне)
81. “У варот бяроза стаяла...” (зап. у Касцюковіцкім раёне)
82. “У нашага Ванечкі кавалі на дварэ...” (зап. у Горацкім раёне)
83. “У нядзелю на таржочку, ей, я гуляла...” (зап. у Кіраўскім раёне)
84. “У нядзелю на таржочку, ой, гуляла...” (зап. у Краснапольскім раёне)
85. “У панядзелак рана...” (зап. у Горацкім раёне)
86. “Усе мы лугі выхадзілі...” (зап. у Горацкім раёне)
87. “Халодная восень наступае...” (зап. у Краснапольскім раёне)
88. “Хацела маці сына жаніці...” (зап. у Клімавіцкім раёне)
89. “Чераз рэчаньку, чэраз быструю гібка кладачка ляжыць...” (зап. у Горацкім раёне)
90. “Чырванеи вішанькі...” (зап. у Горацкім раёне)
91. “Шэрая ты зязюлечка...” (зап. у Горацкім раёне)
92. “Я б гэту бабку...” (зап. у Круглянскім раёне)
93. “Як Манечка дзяжу мясіла...” (зап. у Горацкім раёне)
94. “Як пайду я кыла лесу, як нарву я куралесу...” (зап. у Шклоўскім раёне)
95. “Як пайду я маладая...” (зап. у Кіраўскім раёне)
96. “Як прыйшлі мы на заручаны...” (зап. у Горацкім раёне)





## Паказальнік геаграфічных аб'ектаў, якія называюцца ў выданні



У паказальніку адлюстраваны назвы геаграфічных аб'ектаў, якія называюцца ў зборніку. Калі вёска мела некалькі назваў, то ў паказальніку ёсць спасылка ад ранейшых назваў да сучасных. Таксама ў паказальніку ёсць спасылкі паміж геаграфічнымі аб'ектамі, якія знаходзяцца ў адной мясцовасці і пра іх ідзе размова ў паданнях, легендах.

Ала – вёска, рэчка, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Алешкавічы – вёска, дзе запісаны загадкі (Бялыніцкі раён)
Балашэвічы – вёска, дзе запісаны гумар (Глускі раён)
Барбарова – прыказкі... (Глускі раён)
Барсукі – замовы (Горацкі раён)
Барысавічы – песні (Клімавіцкі раён)
Белая Дуброва – вёска, легенды, паданні, песні (Касцюковіцкі раён)
Броннае – возера, тапонім (Быхаўскі раён)
Быхаў – тапаніміка
Бялынкавічы – песні, прыказкі (Касцюковіцкі раён)
Бярозаўка – вёска, дзе запісаны прыказкі... (Глускі раён)
Бярозаўка – гл. Цароў калодзеж (Слаўгарадскі раён)
Бярозкі – вёска, легенды, паданні, песні, прыказкі, прымаўкі (Хоцімскі раён)
Варвараўка – вёска, легенды, паданні, вясельны абрад (Хоцімскі раён)
Віркаў – гл. Лень – легенды, паданні (Клічаўскі раён)
Вішоў – прыказкі (Бялыніцкі раён)
Вохар – вёска, паданне, песні (Чэрыкаўскі раён)
Гадылёва – урочышча, тапонім (Быхаўскі раён)
Гайшын – вёска, гісторыя, легенды, паданні, гл.таксама Ульянка (Слаўгарадскі раён)
Галоўчын – прыказкі (Бялыніцкі раён)
Гарадзец – гл. Сушка, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Глуск – запісаны прыказкі, гумар
Глыбаў – прыказкі (Краснапольскі раён)
Горы – песні (Краснапольскі раён)
Гронаў – крыніца (Чэрыкаўскі раён)
Грудзінаўка – вёска, тапонім (Быхаўскі раён)
Грыбава Слабада – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Дабрыца – вёска, рэчка, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Дзмітраўка – вёска, легенды, паданні (Клічаўскі раён)
Добрае – вясельны абрад (Горацкі раён)
Дразды – песні (Круглянскі раён)
Дубовы вугал – замовы (Горацкі раён)
Дуброўка – песні (Краснапольскі раён)
Дужаўка – песні (Чавускі раён)
Жаліжжа – прыказкі (Краснапольскі раён)
Завалочыцы – прыказкі (Глускі раён)
Загарэнне – песні (Краснапольскі раён)
Замошша – песні (Асіповіцкі раён)
Зборск – песні (Асіповіцкі раён)
Зелянковічы – прыказкі... (Глускі раён)
Іванава Слабада – песні (Клімавіцкі раён)

Каменка – вёска, легенды, паданні (Бабруйскі раён)
Каменка – песні (Чавускі раён)
Канічы – вёска, легенды, паданні (Касцюковіцкі раён)
Кледнявічы – вёска, легенды, паданні (Дрыбінскі раён)
Клетнае – вёска, дзе запісаны прыказкі... (Глускі раён)
Кліны – гл. Сіні калодзеж, легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Клічаў – легенды, паданні
Копча – вёска, дзе зап. вясельныя песні (Асіповіцкі раён)
Кострыцкая слабодка – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Краснае – вёска, дзе зап. вясельныя песні (Асіповіцкі раён)
Красная – рэчка, легенды, паданні (Бабруйскі раён)
Краснаполле – песні
Кукаванка – вёска (гл.Пярэсава), легенды, паданні (Бабруйскі раён)
Ліпавы ручай – гл. Ліпаўка (Кіраўскі раён)
Ліпаўка – вёска, легенды, паданні (Касцюковіцкі раён)
Лень – рэчка, гл.Віркаў (Клічаўскі раён)
Любіж – замовы (Горацкі раён)
Любонічы – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Лютненская Буда – песні (Краснапольскі раён)
Малінаўка – частка вёскі Чыгірынка, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Масловічы – возера (Быхаўскі раён)
Машавое – песні (Касцюковіцкі раён)
Міхалёва – вёска, легенды, паданні (Бабруйскі раён)
Мсціслаў – легенды, паданні
Мхінічы – прыказкі (Краснапольскі раён)
Мязовічы – песні (Асіповіцкі раён)
Наркі – вёска, крыніца, легенды, паданні (Чэрыкаўскі раён)
Недзведзь – песні (Клімавіцкі раён)
Новыя Саматэвічы – гл. Саматэвічы (Касцюковіцкі раён)
Падзамша – прыказкі (Глускі раён)
Падліпкі – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Падлужжа – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Палуж – паданне “Баннік”, песні (Краснапольскі раён)
Патока – вёска, легенды, паданні (Клічаўскі раён)
Пацава Слабада – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Пацяраёўка – вёска, легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Пачапы – песні (Краснапольскі раён)
Перакладавічы – вёска (Быхаўскі раён)
Праточнае – вёска (Кіраўскі раён)
Проня – рэчка, легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Прыгані – веска, легенды, паданні, песні (Круглянскі раён)
Прыгані1 – песні (Круглянскі раён)
Пуцькі – песні (Чавускі раён)
Пянюгі – вёска, легенды, паданні (Быхаўскі раён)
Пярэсава – гл. Кукаванка (Бабруйскі раён)
Раманоў – прыказкі (Краснапольскі раён)
Рамшына – гл. Святое возера, легенды, паданні (Шклоўскі раён)
Румак – частка вёскі Чыгірынка, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Саматэвічы – вёска, легенды, паданні, песні, прыказкі (Касцюковіцкі раён)



Святое возера (Шклоўскі раён)
Селішча – гл. Сялецкае (Касцюковіцкі раён)
Сенькава – песні (Горацкі раён)
Сіманавічы – прыказкі (Глускі раён)
Сіні Калодзеж – крыніца, в.Кліны (Слаўгарадскі раён)
Слаўкавічы – прыказкі (Глускі раён)
Следзюкі – вёска, легенды, паданне (Быхаўскі раён)
Стараселле – замовы (Горацкі раён)
Стараселле – песні (Шклоўскі раён)
Старое Сяло – прыказкі (Глускі раён)
Старцы – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Старыя Стайкі – вёска, легенды, паданні (Шклоўскі раён)
Студзянец – паданне, песні, прыказкі (Касцюковіцкі раён)
Сушка – гл. Гарадзец (Кіраўскі раён)
Сялецкае – вёска, легенды, паданні, песні (Касцюковіцкі раён)
Ульянка – рэчка, гл. Гайшын (Слаўгарадскі раён)
Франуліна – гл. Храналіна (Шклоўскі раён)
Хрануліна – возера (гл.Чарнаручча) (Шклоўскі раён)
Царкоўны Асавец – гл. Чырвоны Асавец
Цароў калодзеж – гл. Бярозаўка (Слаўгарадскі раён)
Церахаўка – легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Цяхцін – прыказкі, прымаўкі (Бялыніцкі раён)
Чарнаручча – вёска (гл. Хрануліна), легенда (Шклоўскі раён)
Чарнякоўка – легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Чорнавутка – гл. Саматэвічы (Касцюковіцкі раён)
Чудзяны (Чэрыкаўскі раён) – гл. Палуж (Краснапольскі раён)
Чыгірынка – вёска, легенды, паданні (Кіраўскі раён)
Чыкаўка – вёска, легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Чырвоны Асавец – вёска, легенды, паданні (Быхаўскі раён)
Шаламы – вёска, легенды, паданні (Слаўгарадскі раён)
Ясенка – прыказкі (Краснапольскі раён)

1. **Белая** Русь: Гісторыя Беларусі ў легендах і паданнях.- Мн.: Юнацтва, 1999.- С.97.
2. **Выслоўі** / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. М.Я.Грынблата; Рэд. тома А.С.Фядосік. – Мн.: Навука і тэхніка, 1979.- 519 с.- (Сер. "Беларус. нар. творчасць").
3. **Жартоўныя** песні / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. І.К.Цішчанкі; Рэд. тома А.С.Фядосік, Г.І.Цітовіч. – Мн.: Навука і тэхніка, 1984.- 752 с.: нот., іл.- (Сер. "Беларус. нар. творчасць").
4. **Памяць**: Кіраўскі раён / Рэд. кал.: В.І.Аўдзеева, Р.І.Маслоўскі, А.Л.Петрашкевіч і інш..- Мн.: Вышэйш. шк.,1997.- С.118, 425-427.
5. **Памяць**: Краснапольскі раён / Рэд. кал.: У.С.Богаў, М.В.Гарбачоў, Ф.Ф.Ганчароў і інш..- Мн.: ПК "Паліграфафармленне", 2001.- С.537-541.
6. **Радзімазнаўства**: Метад. дапаможнік для класных кіраўнікоў школ і ПТВ Магілёўскай вобласці для пазакласнай работы па школьнаму краязнаўству.- Магілёў, 1992.- С.138.
7. **Сямейна-бытавыя** песні / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Склад., сістэматызацыя тэкстаў, уступ. артыкул і камент. І.К.Цішчанкі; Рэд. тома А.С.-Фядосік, Г.І.Цітовіч.- Мн.: Навука і тэхніка, 1984.- 752 с.: нот.- (Сер. "Беларус. нар. творчасць")
8. **Юрчанка Г**. Мудрасці крылатай залацінкі // Полымя.- 1999.- № 9.- С.200-210.
9. **Багель Н**. Родныя мясціны: (Чыгірынка) // Кіравец (Кіраўск).- 1998.- 4 лістап.- ("Ведай свой край").
10. **Карнялюк К**. За рэчкаю, за быстраю // Голас Краснапольшчыны.- 1998.- 1 ліп.
11. **Поклад О**. Легенды и мифы древнего Мстиславля // Святло Кастрычніка (Мсціслаў).- 2000.- № 57.- С.2.





## ЗМЕСТ